Грамадскае аб’яднанне
“Беларуская асацыяцыя журналістаў”

# СМІ ў Беларусі

2008

Мінск
2009

# ЗМЕСТ

# Вынікі 2008 года ў сферы СМІ у Беларусі

2008 год аказаўся складаным і неадназначным для беларускай журналістыкі. Нягледзячы на некаторыя станоўчыя змены ў канцы года, асноўныя праблемы ў сферы СМІ (эканамічная дыскрэдытацыя незалежных выданняў, неадпаведнасць дэмакратычным стандартам заканадаўства ў сферы СМІ, абмежаванні доступу да інфармацыі) вырашаныя не былі.

Асабліва трывожнымі былі першыя месяцы 2008 года.

**18 студзеня** ў Мінску быў асуджаны на 3 гады пазбаўлення волі за «распальванне рэлігійнай варожасці» (ч. 2 арт. 130 Крымінальнага кодэкса) намеснік галоўнага рэдактара газеты **«Згода» Аляксандр Здзвіжкоў**. Газета была зачыненая яшчэ ў 2006 годзе па пазове Міністэрства інфармацыі пасля таго, як перадрукавала некаторыя «дацкія карыкатуры» на прарока Мухамеда. **22 лютага** Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь, разгледзеўшы касацыйную скаргу журналіста, зменшыў тэрмін пакарання да 3 месяцаў. У сувязі з адбыццём тэрміну пакарання А. Здзвіжкоў у той жа дзень быў вызвалены з-пад варты.

**http://baj.by/download/monitoring/MassMediaInBelarus-bulletin1(6)-ru.pdf**

**25 сакавіка** падчас мірнай дэманстрацыі апазіцыі былі затрыманыя журналісты газеты **«Наша Ніва» Андрэй Лянкевіч** і **Сямён Печанко**. А. Лянкевіч падчас затрымання быў збіты. С. Печанко быў асуджаны на 15 сутак адміністрацыйнага арышту. У той жа дзень у Мінску была затрыманая з ужываннем фізічнай сілы група Літоўскай нацыянальнай тэлерадыёкампаніі (LTR). Літоўскіх журналістаў пратрымалі ва УУС Цэнтральнага раёна Мінска каля дзвюх гадзін, у іх адабралі відэакасету са знятым матэрыялам, відэакамера падчас затрымання была пашкоджаная.

**27** і **28 сакавіка** ў 13 кватэрах журналістаў і 4 офісах супрацоўнікі Камітэта дзяржаўнай бяспекі правялі **ператрусы**, санкцыянаваныя пракуратурай г. Мінска. Падчасператрусаў канфіскоўвалі абсталяванне, дакументы і нават грошы. Афіцыйнай падставай для правядзенняператрусаў пракуратура назвала крымінальную справу, распачатую яшчэ ў 2005 годзе па факце паклёпу ў дачыненні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у сувязі з распаўсюдам у Інтэрнэце сатырычнай флэш-анімацыі. Аднак фігуранты гэтай справы даўно вядомыя і знаходзяцца за межамі краіны. Іншую версію масавыхператрусаў агучыла Міністэрства замежных спраў Беларусі. Яно заявіла, што сілавыя структуры правялі аперацыю супраць асоб, якія без акрэдытацыі супрацоўнічаюць з замежнымі сродкамі масавай інфармацыі.

**http://baj.by/download/monitoring/MassMediaInBelarus-bulletin4(9)-ru.pdf**

Пазней расследаванне крымінальнай справы, якая стала падставай дляператрусаў у журналістаў, было прыпыненае. Са жніўня 2008 года Камітэт дзяржаўнай бяспекі пачаў вяртаць журналістам адабраныя ў іх рэчы.

Аднак у гэты ж час КДБ ініцыяваў справы аб прызнанні экстрэмісцкімі матэрыяламі і знішчэнні некалькі кніг, запісаў фільмаў і канцэртаў, незарэгістраваных газет. Гэта рабілася на падставе закона «Аб супрацьдзеянні экстрэмізму», прынятага ў 2007 годзе. **У верасні** адбылося некалькі судовых працэсаў, падчас якіх былі прызнаныя экстрэмісцкімі матэрыяламі відэазапіс варшаўскага канцэрта 2006 года «**Салідарныя з Беларуссю»**, польскі дакументальны фільм — пераможца

міжнародных кінафестываляў **«Lekcja Bialoruskiego»** («Урок беларускай мовы»), нумар незарэгістраванай газеты **«Свабода»** і інш. Пазней гэтыя рашэнні з працэсуальных прычынаў былі скасаваныя судамі касацыйнай інстанцыі. Пасля суд Кастрычніцкага раёна г. Гродна пакінуў без разгляду астатнія заявы Упраўлення КДБ па Гродзенскай вобласці аб прызнанні экстрэмісцкімі матэрыяламі газеты беларускіх палякаў **«Glos znad Niemna na uchodzstwie»**, выдання **«Агляд-хроніка парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі ў 2004 годзе»** і інш.

Гэтыя судовыя рашэнні выклікалі пазітыўныя ацэнкі з боку беларускай і міжнароднай грамадскасці. Але **ў лістападзе 2008 года** Упраўленне КДБ па Брэсцкай вобласці «выявіла» заклікі да экстрэмісцкай дзейнасці і прапаганду такой дзейнасці ў № 7−8 часопіса **«ARCHE-Пачатак»** (адзінага беларускага выдання, запрошанага ў сетку еўрапейскіх інтэлектуальных часопісаў «Eurozine») і звярнулася ў суд з хадайніцтвам аб знішчэнні часопіса. Якія менавіта матэрыялы 1100-старонкавага юбілейнага нумара прызнаныя КДБ экстрэмісцкімі, не вядома. Гэта першы выпадак, калі КДБ спрабуе прызнаць экстрэмісцкімі матэрыяламі зарэгістраванае ў вызначаным заканадаўствам парадку перыядычнае друкаванае выданне.

Сярод самых пазітыўных падзей канца 2008 года — вяртанне ў дзяржаўныя сістэмы распаўсюду (**«Белпошта»** і **«Саюздрук»**) газет **«Народная воля»** і **«Наша Ніва»**. «Народная воля» атрымала таксама магчымасць друкавацца ў Беларусі (на працягу некалькіх гадоў ніводная з беларускіх друкарняў не пагаджалася заключыць з ёй дамову, і выданне друкавалася ў г. Смаленск (РФ)). Адзначаючы гэты несумнеўна станоўчы факт, падкрэслім, што яшчэ больш за 10 незалежных выданняў грамадска-палітычнай тэматыкі (пераважна рэгіянальных) не ўключаныя ў падпісны каталог «Белпошты» і не прадаюцца ў шапіках «Саюздруку». Сітуацыя з імі застаецца нязменнай з канца 2005 года. Некалькі газет па-ранейшаму вымушаныя друкавацца за мяжой (**«Товарищ», «Витебский курьер М»**). А літаральна напярэдадні 2009 года ў аднабаковым парадку была скасаваная дамова на друк газеты **«Борисовские новости»**. Адначасова выдавец газеты, выключанай з дзяржаўных сетак распаўсюду, быў пазбаўлены ліцэнзіі на раздробны гандаль.

Пры гэтым дзяржаўныя СМІ атрымоўвалі не толькі адміністрацыйную падтрымку і прэферэнцыі (у прыватнасці, на іх праводзілася прымусовая падпіска), але і непасрэдную фінансавую дапамогу з бюджэту. У адпаведнасці з рэспубліканскім бюджэтам на 2009 год, зацверджаным 13 лістапада 2008 года, на гэтыя мэты было запланавана 193 211 376,0 тыс. рублёў (што па курсе Нацбанка на момант прыняцця бюджэту складала больш за 90 млн. долараў ЗША). У 2008 годзе на гэтыя мэты выдаткоўвалася каля 74 млн. долараў, у 2007 г. — каля 64 млн., у 2006 г. — больш за 60 млн. долараў, у 2005 г. — каля 40 млн., у 2004 г. — менш за 30 млн. долараў ЗША па курсе Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь. Такім чынам, за пяць гадоў фінансаванне дзяржаўных і датаваных уладамі СМІ вырасла ў 3 разы.

Сярод знакавых падзей 2008 года — пашырэнне вяшчання спадарожнікавага тэлеканала «Белсат» і дыскусія аб далейшым развіцці Інтэрнету ў краіне.

**10 снежня «Белсат»** адзначыў угодкі свайго выхаду ў эфір. На працягу ўсяго года ўлады чынілі перашкоды дзейнасці гэтага тэлеканала, праграмы якога ствараюцца беларускімі журналістамі для беларусаў.Ператрусы, праведзеныя КДБ 27−28 сакавіка, закранулі шматлікіх журналістаў, якія супрацоўнічаюць з «Белсат». У розных рэгіёнах Беларусі мясцовыя ўлады разгортвалі кампаніі па дэмантажы спадарожнікавых талерак на той падставе, што яны нібыта псуюць знешні выгляд будынкаў і ўсталяваныя без дазволу. Тым не менш 20 снежня 2008 года тэлеканал «Белсат» накіраваў у беларускае

Міністэрства замежных спраў пакет дакументаў на рэгістрацыю прадстаўніцтва. МЗС Рэспублікі Беларусь заявіла, што рашэнне па гэтым пытанні будзе прымацца на працягу двух месяцаў на ўзроўні Савета Міністраў, як гэта і прадугледжана заканадаўствам.

На працягу ўсяго года ў розных уладных структурах гаварылася пра ўзмацненне кантролю над Інтэрнетам. Была створаная міжведамасная група па вывучэнні міжнароднага досведу яго рэгулявання. Неабходнасць спецыяльнага прававога рэгламентавання дзейнасці ў інтэрнет-прасторы абгрунтоўвалася імкненнем перашкаджаць распаўсюду тэрарызму, дзіцячай парнаграфіі і г. д. Першапачаткова планавалася, што прававая аснова для рэгулявання дзейнасці ў Глабальным Сеціве будзе закладзеная ў законе «Аб інфармацыі, інфарматызацыі і абароне інфармацыі». Аднак пазней гэта было зроблена ў новым законе «Аб сродках масавай інфармацыі».

**Закон «Аб сродках масавай інфармацыі»** быў прыняты ўлетку 2008 года (падпісаны прэзідэнтам **17 ліпеня**). Яго разгляд і прыняцце прайшлі ў экстранным парадку, нягледзячы на адмоўныя экспертныя ацэнкі і пратэсты міжнародных структур. Закон уступае ў сілу ў лютым 2009 года. Апроч рэгулявання дзейнасці інтэрнет-СМІ (вызначэнне таго, на якія менавіта сеткавыя рэсурсы будзе распаўсюджвацца закон, парадку іх рэгістрацыі і дзейнасці дэлегаванае законам ураду), закон прадугледжвае перарэгістрацыю ўсіх сродкаў масавай інфармацыі, спрашчае працэдуру зачынення перыядычных выданняў органамі выканаўчай улады і памяншае прававую абароненасць журналістаў і СМІ.

**http://baj.by/download/monitoring/MassMediaInBelarus-bulletin4(9)-ru.pdf**

**http://baj.by/download/monitoring/MassMediaInBelarus-bulletin5(10)-ru.pdf**

На працягу года было прынята яшчэ некалькі нарматыўных прававых актаў, якія наўпрост або ўскосна ўплываюць на развіццё СМІ у Беларусі.

Так, **15 ліпеня 2008 года** былі прынятыя папраўкі ў закон **«Аб дзяржаўнай службе ў Рэспубліцы Беларусь»**. У прыватнасці, закон быў дапоўнены артыкулам 22-1, у адпаведнасці з якім публікацыі і выступы дзяржаўных службоўцаў, звязаныя з выкананнем службовых абавязкаў, падлягаюць узгадненню з кіраўніцтвам дзяржаўнага органа.

Закон **«Аб інфармацыі, інфарматызацыі і абароне інфармацыі»**, прыняты **10 лістапада 2008 года**, хоць і не распаўсюджваецца непасрэдна на СМІ, але абмяжоўвае правы грамадзян на атрыманне і распаўсюд інфармацыі і стварае магчымасці для абмежавання і кантралявання распаўсюду інфармацыі ў інфармацыйных сетках.

Доступ да прафесіі журналіста абмежаваў **указ прэзідэнта № 70** ад **8 лютага**. У адпаведнасці з ім абітурыенты, якія паступаюць на спецыяльнасці «журналістыка» і «міжнародная журналістыка» (гэтаксама як і на прававыя спецыяльнасці), абавязаныя да ўступных іспытаў праходзіць прафесійна-псіхалагічнае сумоўе. Тыя, хто не прайшоў гэтае сумоўе, да іспытаў не дапускаюцца.

**Ацэньваючы сітуацыю ў сферы СМІ у 2008 годзе, ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»**

адзначае некаторыя станоўчыя змены напрыканцы года (вяртанне журналістам адабранай у іх падчас неабгрунтаваных ператрусаў маёмасці, прыпыненне спраў аб прызнанні матэрыялаў экстрэмісцкімі, вяртанне ў дзяржаўныя сістэмы распаўсюду дзвюх незалежных газет). Аднак зазначаныя пазітыўныя крокі прывялі ўсяго толькі да

аднаўлення становішча, якое было да грубага ўмяшання дзяржаўных органаў у дзейнасць СМІ і журналістаў. Агульная сітуацыя са СМІ у Беларусі застаецца на нізкім узроўні, сістэмных змен да лепшага не адбылося. Працягваюцца эканамічная дыскрымінацыя незалежных СМІ, выкарыстанне заканадаўства (у прыватнасці, закона «Аб супрацьдзеянні экстрэмізму») у мэтах барацьбы з інфармацыяй, што не прайшла цэнзуру.

Прыняцце новага закона «Аб сродках масавай інфармацыі» пагоршыла прававую базу дзейнасці СМІ. Аднак усё будзе залежаць ад практыкі яго выкарыстання.

**Індыкатарамі гатоўнасці дзяржавы да паляпшэння сітуацыі ў сферы СМІ могуць стаць:**

- вяртанне ў дзяржаўныя сістэмы распаўсюду і беларускія друкарні ўсіх незалежных СМІ;
- заяўны характар праходжання перарэгістрацыі сродкамі масавай інфармацыі;
- добраахвотны парадак рэгістрацыі інтэрнет-выданняў;
- адкрыццё прадстаўніцтва тэлеканала «БЕЛСАТ» у Беларусі і акрэдытацыя карэспандэнтаў замежных СМІ.

# Статыстычныя звесткі

На 1 студзеня 2009 года ў Рэспубліцы Беларусь зарэгістравана 1307 перыядычных друкаваных СМІ (673 газеты, 586 часопісаў, 42 бюлетэні і 6 каталогаў). З іх дзяржаўных — 409 (у тым ліку 221 газета). Колькасная перавага недзяржаўнай прэсы тлумачыцца тым, што большасць гэтых выданняў — забаўляльнага альбо рэкламнага характару. Недзяржаўных грамадска-палітычных выданняў у краіне, па падліках ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў», — менш за тры дзесяткі.

Колькасць інфармацыйных агенцтваў застаецца ранейшай — 9.

За мінулы год Міністэрства інфармацыі вынесла 56 пісьмовых папярэджанняў 51 выданню за парушэнне заканадаўства аб СМІ. Дзейнасць аднаго выдання — рэкламнай газеты «Все для всех. Гродно» — была прыпыненая міністэрствам на тэрмін да 3 месяцаў.

Большасць друкаваных СМІ выдаецца на рускай мове — 572. На беларускай — толькі 71 СМІ. У 357 пасведчаннях аб рэгістрацыі СМІ у якасці мовы выдання пазначана «руская і іншыя», у 299 — «беларуская і іншыя». На астатніх мовах (ангельская, ангельская і іншыя, польская, польская і іншыя, украінская) выходзіць 8 выданняў.

Яшчэ горшая моўная сітуацыя ў тэле- і радыёэфіры (якія знаходзяцца пад поўным кантролем нацыянальных і рэгіянальных уладаў). На беларускай мове выходзіць толькі 5% ад зарэгістраваных тэле- і радыёпраграм.

Сітуацыя на рынку электронных масмедыя застаецца практычна нязменнай. На 1 студзеня 2009 года ў Беларусі зарэгістравана 227 радыё- і тэлепраграм, з якіх 158 — радыёвяшчальныя, а 69 — тэлевізійныя. Большасць з зарэгістраваных тэле- і радыёпраграм — дзяржаўныя (137 радыёвяшчальных і 28 тэлевізійных). Заснавальнікамі 113 дзяржаўных тэле- і радыёпраграм з’яўляюцца мясцовыя выканаўчыя камітэты, яшчэ 60 — Саветы дэпутатаў.

У FM-дыяпазоне рэспублікі ажыццяўляюць вяшчанне 29 радыёстанцый, з іх 15 у г. Мінску.

Недзяржаўныя тэлерадыёканалы знаходзяцца пад кантролем уладаў — як нацыянальных, так і мясцовых.

# Змены ў заканадаўстве

Галоўнай падзеяй 2008 года ў сферы заканадаўства аб СМІ стала прыняцце новага закона «Аб сродках масавай інфармацыі». Яго разгляд і прыняцце прайшлі ў экстранным парадку, нягледзячы на адмоўныя экспертныя ацэнкі і пратэсты міжнародных структур. Закон уступае ў сілу ў лютым 2009 года. Закон прадугледжвае рэгуляванне дзейнасці інтэрнет-СМІ (вызначэнне таго, на якія менавіта сеткавыя рэсурсы будзе распаўсюджвацца закон, парадку іх рэгістрацыі і дзейнасці дэлегаванае законам ураду), перарэгістрацыю ўсіх сродкаў масавай інфармацыі, спрашчае працэдуру зачынення выданняў органамі выканаўчай улады і памяншае прававую абароненасць журналістаў і СМІ.

У выкананне палажэнняў закона «Аб СМІ» напрыканцы 2008 года Савет Міністраў і Міністэрства інфармацыі прынялі некалькі нарматыўных актаў, накіраваных на яго рэалізацыю. Аднак пастанова ўрада аб рэгуляванні дзейнасці інтэрнет-СМІ і іх рэгістрацыі прынятая не была.

Сярод іншых прававых актаў 2008 года, якія маюць дачыненне да СМІ, варта вылучыць папраўкі ў закон «Аб дзяржаўнай службе ў Рэспубліцы Беларусь», які абмяжоўвае выступы дзяржслужачых у СМІ, закон «Аб інфармацыі, інфарматызацыі і абароне інфармацыі» і ўказ прэзідэнта № 70 ад 8 лютага, у адпаведнасці з якім абітурыенты, што паступаюць на спецыяльнасці «журналістыка» і «міжнародная журналістыка» абавязаныя да ўступных іспытаў прайсці сумоўе.

**8 лютага** прэзідэнт падпісаў **указ № 70**, які абмяжоўвае доступ да журналісцкай адукацыі. У адпаведнасці з ім абітурыенты, якія паступаюць на спецыяльнасці «журналістыка» і «міжнародная журналістыка» (гэтаксама як і на прававыя спецыяльнасці), абавязаныя да ўступных іспытаў праходзіць прафесійна-псіхалагічнае сумоўе. Тыя, хто сумоўе не пройдзе, да іспытаў не дапускаюцца.

**12 лютага** Савет міністраў прыняў пастанову № 185 **«Аб фінансаванні ў 2008 годзе перыядычных выданняў»**. Гэтай пастановай зацверджаны пералік перыядычных выданняў, рэдакцыям якіх у 2008 годзе выдаткоўваюцца субсідыі з рэспубліканскага бюджэту. У пераліку — 30 выданняў, вызначаных на пазаконкурснай аснове.

**15 ліпеня** прынятыя папраўкі ў закон **«Аб дзяржаўнай службе ў Рэспубліцы Беларусь»**. У прыватнасці, закон дапоўнены артыкулам 22-1, у адпаведнасці з якім «мэтазгоднасць публікацый і выступаў дзяржаўных службоўцаў, звязаных з выкананнем службовых абавязкаў, вызначаецца кіраўніком дзяржаўнага органа, у якім дзяржаўны службовец займае дзяржаўную пасаду, альбо ўпаўнаважанай ім асобай». Публікацыі і выступы дзяржслужачых падлягаюць узгадненню з кіраўніцтвам дзяржаўнага органа.

**17 ліпеня** прыняты закон **«Аб сродках масавай інфармацыі»**. (Экспертызу закона, падрыхтаваную юрыстамі ГА «БАЖ», гл. **http://baj.by/m-p-viewpub-tid-12-pid-5.html**)

**28 ліпеня** КДБ, МУС, Генеральная пракуратура, Дзяржаўны памежны камітэт і Дзяржаўны мытны камітэт зацвердзілі сумеснай пастановай **Інструкцыю аб парадку ўзаемадзеяння** органаў дзяржаўнай бяспекі, унутраных спраў, пракуратуры, памежнай

службы і мытных органаў Рэспублікі Беларусь пры адабранні (арышце) інфармацыйнай прадукцыі, якая трапляе пад дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб супрацьдзеянні экстрэмізму». Пасля зацвярджэння гэтай інструкцыі абласнымі ўпраўленнямі КДБ было распачата некалькі спраў аб прызнанні інфармацыйных матэрыялаў экстрэмісцкімі і іх знішчэнні.

**3 верасня** Савет міністраў зацвердзіў пастановай № 1284 **Палажэнне аб абавязковым бясплатным асобніку дакументаў**. Да дакументаў у Палажэнні залічаныя і друкаваныя выданні ўсіх відаў, уключаючы перыядычныя, якія выходзяць накладам ад 10 асобнікаў. Палажэнне вызначае, якім органам падаюцца абавязковыя бясплатныя асобнікі дакументаў у залежнасці ад іх накладу.

**23 верасня** Савет міністраў прыняў пастанову № 1397 **«Аб некаторых пытаннях парадку перамяшчэння асобных відаў тавараў праз мытную мяжу Рэспублікі Беларусь»**. Пастановай, сярод іншага, зацверджаны пералік друкаваных і аўдыёвізуальных матэрыялаў, іншых носьбітаў інфармацыі, якія змяшчаюць звесткі, што могуць нанесці шкоду палітычным або эканамічным інтарэсам рэспублікі, яе дзяржаўнай бяспецы, здароўю і маральнасці грамадзян, і забароненыя да перамяшчэння праз мытную мяжу Рэспублікі Беларусь пры ўвозе і (альбо) вывазе.

**1 кастрычніка** Генеральная пракуратура Рэспублікі Беларусь, Камітэт дзяржаўнага кантролю, Міністэрства ўнутраных спраў, Камітэт дзяржаўнай бяспекі і Міністэрства юстыцыі сумеснай пастановай зацвердзілі **Палажэнне аб парадку падавання звестак** пра крымінальныя справы, звязаныя са злачынствамі, якія атрымалі шырокі грамадскі рэзананс, і злачынствамі, якія падрываюць аўтарытэт дзяржаўнай улады, для асвятлення ў сродках масавай інфармацыі.

У Палажэнні сцвярджаецца, што права прадстаўлення такіх звестак належыць органу крымінальнага пераследу і суду, у вытворчасці якіх знаходзіцца крымінальная справа, а таксама іх вышэйстаячым органам і судам.

Падаванне звестак па не завершаных судовых справах недапушчальнае без пісьмовага дазволу суддзі, у вытворчасці якога знаходзіцца справа (у адпаведнасці з дзейсным на той момант законам «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі» і новым законам «Аб СМІ» абмяжоўваецца прадстаўленне не звестак па судовых справах, а матэрыялаў дадзеных спраў).

**6 кастрычніка** ў выкананне закона «Аб сродках масавай інфармацыі» Міністэрства інфармацыі пастановай № 12 зацвердзіла **форму службовага пасведчання журналіста** сродку масавай інфармацыі, зарэгістраванага на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

У той жа дзень, **6 кастрычніка**, Міністэрства інфармацыі прыняло пастановы № 14 **«Аб некаторых пытаннях дзяржаўнай рэгістрацыі сродкаў масавай інфармацыі»** і № 15 **«Аб зацвярджэнні Інструкцыі аб парадку вядзення Дзяржаўнага рэестра сродкаў масавай інфармацыі»**.

Пастановай № 14 зацверджаныя:

форма заявы аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі;

форма пасведчання аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі;

Інструкцыя аб парадку выдачы пасведчання аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі.

**22 кастрычніка** Савет Міністраў прыняў пастанову № 1571 **«Аб экспертных камісіях па прадухіленні прапаганды парнаграфіі, гвалту і жорсткасці»**. Пастановай зацверджаныя Палажэнне аб Рэспубліканскай экспертнай камісіі па прадухіленні прапаганды парнаграфіі, гвалту і жорсткасці і яе склад. Палажэнні аб абласных экспертных камісіях павінны прыняць аблвыканкамы (акрамя камісій па Мінскай вобласці і Мінску, функцыі якіх ускладзеныя на Рэспубліканскую экспертную камісію па прадухіленні прапаганды парнаграфіі, гвалту і жорсткасці).

**29 кастрычніка** Савет Міністраў зацвердзіў пастановай № 1625 **Палажэнне аб грамадскай каардынацыйнай радзе ў сферы масавай інфармацыі** і склад грамадскай каардынацыйнай рады ў сферы масавай інфармацыі.

Стварэнне грамадскай рады прадугледжанае законам «Аб сродках масавай інфармацыі». Насуперак назве, рада ствараецца рашэннем урада, яе кампетэнцыя і парадак дзейнасці таксама зацвярджаюцца Саўмінам, а арганізацыйнае і інфармацыйнае забеспячэнне дзейнасці ажыццяўляецца Міністэрствам інфармацыі.

У адпаведнасці з Палажэннем, грамадская каардынацыйная рада ў сферы масавай інфармацыі з’яўляецца каардынацыйным і кансультацыйным органам, яго рашэнні носяць рэкамендацыйны характар. У першапачаткова зацверджаны склад грамадскай рады не былі ўключаныя прадстаўнікі незалежных СМІ і ГА «БАЖ».

**5 лістапада** Міністэрства інфармацыі і Міністэрства юстыцыі сумеснай пастановай № 18/62 зацвердзілі **пералік перыядычных выданняў, якія дасылаюцца ў рэспубліканскія, абласныя і занальныя дзяржаўныя архівы**.

**10 лістапада** прыняты закон **«Аб інфармацыі, інфарматызацыі і абароне інфармацыі»**. Ён не пашыраецца непасрэдна на СМІ, але абмяжоўвае правы грамадзян на атрыманне і распаўсюд інфармацыі і ставарае магчымасці для абмежавання і кантралявання распаўсюджвання інфармацыі ў інфармацыйных сетках.

**13 лістапада** прыняты закон **«Аб рэспубліканскім бюджэце на 2009 год»**. У адпаведнасці з ім на падтрымку дзяржаўных і датаваных уладай СМІ у рэспубліканскім бюджэце запланавана 193 211 376,0 тыс. рублёў (што па курсе Нацбанка на момант прыняцця бюджэту складала больш за 90 млн. долараў ЗША). У 2008 годзе на гэтыя мэты выдаткоўвалася каля 74 млн. долараў, у 2007 г. — каля 64 млн., у 2006 г. — больш за 60 млн. долараў, у 2005 г. — каля 40 млн., у 2004 г. — меней за 30 млн. долараў ЗША па курсе Нацыянальнага банка Рэспублікі Беларусь. Такім чынам, за пяць гадоў фінансаванне дзяржаўных і датаваных уладай СМІ павялічылася ў 3 разы. Вялікая частка сродкаў — 146 934 684,0 тыс. руб. — выдаткаваная на падтрымку тэлебачання і радыёвяшчання.

**2 снежня** Савет Міністраў пастановай № 1849 зацвердзіў **Палажэнне аб парадку выдачы дазволу на распаўсюд прадукцыі замежнага сродку масавай інфармацыі**. Распаўсюд прадукцыі замежных СМІ на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь без дазволу забаронены. Рашэнні аб выдачы дазволу або адмове ў ім прымаюцца Міністэрствам інфармацыі.

**25 снежня**, у калядны дзень, абвешчаны ў Беларусі святочным, Савет Міністраў прыняў пастанову № 2015 **«Аб некаторых пытаннях рэгулявання дзейнасці сродкаў масавай інфармацыі»**. Гэтай пастановай былі зацверджаныя:

Палажэнне аб парадку адкрыцця карэспандэнцкіх пунктаў юрыдычнымі асобамі, на якіх ускладзеныя функцыі рэдакцыі сродку масавай інфармацыі;

Палажэнне аб парадку адкрыцця ў Рэспубліцы Беларусь карэспандэнцкіх пунктаў замежных сродкаў масавай інфармацыі;

Палажэнне аб парадку акрэдытацыі ў Рэспубліцы Беларусь журналістаў замежных сродкаў масавай інфармацыі.

Адкрыццё карэспандэнцкіх пунктаў беларускіх СМІ ажыццяўляецца ў апавяшчальным парадку пасля занясення звестак аб карэспандэнцкіх пунктах ва ўстаноўчыя дакументы. Карэспандэнцкія пункты замежных СМІ адкрываюцца па рашэнні Савета Міністраў на тэрмін ад 1 да 3 гадоў. Акрэдытацыя журналістаў замежных СМІ (як пастаянная, так і часовая) таксама ажыццяўляецца ў дазвольным парадку Міністэрствам замежных спраў. У адпаведнасці з законам «Аб сродках масавай інфармацыі» дзейнасць журналістаў замежных СМІ без акрэдытацыі забараняецца.

Акрамя таго, Саўмін унёс змены ў Палажэнне аб Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь і Пералік адміністрацыйных працэдур, якія ажыццяўляюцца Міністэрствам інфармацыі ў дачыненні да юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў.

З Палажэння аб ліцэнзаванні выдавецкай дзейнасці, зацверджанага пастановай Савета Міністраў ад 20 кастрычніка 2003 года № 1376, **выключаны пункт**, які вызваляе ад атрымання ліцэнзіі на выдавецкую дзейнасць па выпуску друкаваных сродкаў масавай інфармацыі ў тым выпадку, калі функцыю выдаўца гэтага сродку масавай інфармацыі выконвае яго рэдакцыя.

# Парушэнні правоў СМІ і журналістаў, канфлікты ў сферы СМІ

## Выклікі ў пракуратуру, папярэджанні пракуратуры і Міністэрства інфармацыі

**Спыненне альбо прыпыненне дзейнасці СМІ уладамі як санкцыя за парушэнні заканадаўства аб СМІ у 2008 годзе выкарыстоўвалася ўсяго аднойчы. У лютым 2008 года «з нагоды публікацыі анекдотаў з нецэнзурнай лексікай» быў прыпынены выхад гродзенскай газеты рэкламнага характару «Всё для всех. Гродно», — паведаміў прэс-службе ГА «БАЖ» кіраўнік сектара рэгістрацыі СМІ і кантролю за выкананнем заканадаўства Мінінфармацыі Віктар Гурэцкі. Увогуле ж спыненне выхаду газет зазвычай было наступствам эканамічнай палітыкі альбо дзеянняў сілавых структур у дачыненні да выданняў. У гэтым шэрагу можна ўзгадаць вымушаны перапынак у выхадзе недзяржаўнай газеты «Новы час» (гл. «Судовыя канфлікты ў сферы СМІ"), а таксама некалькіх незарэгістраваных выданняў.**

**15 студзеня** галоўнага рэдактара недзяржаўнага выдання **«Газета Слонімская» Віктара Валадашчука** выклікалі ў міжраённую Слонімскую пракуратуру. Нагодай для гэтага стала скарга на газету з абласнога ўпраўлення юстыцыі, якое палічыла, што ў некалькіх артыкулах выданне апублікавала інфармацыю аб адкрытых судовых пасяджэннях да ўступлення рашэння суда ў законную сілу. (Гаворка ішла пра серыю артыкулаў журналіста **Міколы Канановіча**, якія публікаваліся ў 2007 годзе.)

Акрамя гэтага, міжраённая пракуратура выказала прэтэнзіі да трох іншых матэрыялаў, у якіх выкарыстоўваліся назвы палітычных партый, прафсаюзаў і іншых аб'яднанняў, што не прайшлі дзяржаўную рэгістрацыю.

Атрымаўшы тлумачэнні ад галоўнага рэдактара, следчы пракуратуры паведаміў, што далей вызначаць ступень парушэння газетай беларускага заканадаўства будзе пракурор. Таксама следчы заявіў, што копія ліста абласнога ўпраўлення юстыцыі была накіравана ў Міністэрства інфармацыі РБ.

**30 студзеня** стала вядома, што **«Газета Слонімская»** атрымала папярэджанне ад Міністэрства інфармацыі. Недзяржаўнае рэгіянальнае выданне абвінавацілі ў парушэнні патрабаванняў арт. 30 Закона «Аб друку і іншых СМІ» — у перавышэнні дазволеных аб'ёмаў рэкламнай плошчы (30% ад агульнага аб'ёму нумара). Галоўны рэдактар «ГС» **Віктар Валадашчук** лічыць папярэджанне неабгрунтаваным. Па яго словах, выпуск «Газеты Слонімскай», да якога ў Мінінфармацыі ўзніклі прэтэнзіі (№ 51 ад 19 снежня 2007 г.), выйшаў на 40 старонках. Законная плошча пад рэкламу ў ім складала 11628 см², у той час як рэклама была размешчана толькі на 11328,25 см².

Паводле рэдактара, Мінінфармацыі магло палічыць рэкламай паведамленне пра ўмовы падпіскі на «ГС» на наступны год і абвестку пра вэб-старонку выдання. Між тым, у Міністэрстве гандлю выданню заявілі, што падобныя абвесткі не з'яўляюцца рэкламай.

**4 сакавіка** журналістку **Ірыну Халіп** выклікалі ў пракуратуру г. Мінска, каб узяць з яе тлумачэнні з нагоды публікацыі на сайце **www.charter97.org** яе артыкула

**«Забойства ў прамым эфіры»**, напісанага ў дзень смерці Ірыны Казулінай (жонкі **палітвязня Аляксандра Казуліна**). «Пракурор **Барыс Салавянчык** пытаў у мяне некалькі разоў, ці не хачу я напісаць заяву, што Лукашэнка забіў Казуліну», — паведаміла Ірына Халіп прэс-службе «Хартыі'97». Па словах журналісткі, пракурор спрабаваў зрабіць лінгвістычны аналіз артыкула. У прыватнасці, яго цікавіла, хто з'яўляецца «пачварай» у фразе «…калі б яны (*Аляксандр і Ірына Казуліны*) былі разам, то не здаліся б гэтай пачвары». Ірына Халіп растлумачыла, што мела на ўвазе смерць.

**25 сакавіка** недзяржаўная газета **«Новы час»** атрымала адразу два папярэджанні ад Міністэрства інфармацыі. Першае вынесена паводле арт. 11 Закона «Аб друку і іншых СМІ» за тое, што выданне ў належны тэрмін пісьмова не праінфармавала рэгістрацыйны орган пра змену мовы выхаду. У рэгістрацыйным пасведчанні пазначана, што «Новы час» выходзіць на беларускай і польскай мовах, а №№ 3, 5, 6, 8 за гэты год выйшлі на беларускай і рускай мовах, — гаварылася ў папярэджанні Мінінфармацыі.

У другім папярэджанні абвінавачанні выстаўляліся па арт. 2 і 26 Закона «Аб друку...». Мінінфармацыі палічыла, што ў выхадных дадзеных газеты недакладна ўказаны кіраўнік рэдакцыі — прыватнага выдавецкага ўнітарнага прадпрыемства **«Час навінаў»**. Акрамя гэтага, прэтэнзіі міністэрства выклікала тое, што ў вышэйпералічаных нумарах газеты замест адной даты выхаду выдання ўказваюцца дзве.

Шэф-рэдактар выдання **Аляксей Кароль** сцвярджае, што Мінінфармацыі памыляецца, бо кіраўніком рэдакцыі **«Новага часу»** сапраўды з'яўляецца **Алена Анісім,** як і пазначана ў выхадных дадзеных. А ўказанне дзвюх дат у кожным нумары штотыднёвіка папярэдне ўзгаднялася з Міністэрствам інфармацыі. Што да змены мовы, то, паводле Аляксея Караля, па-руску ў выданні друкавалася толькі праграма тэлебачання.

Пасляператрусаў **27-28 сакавіка**, якія былі праведзеныя ў кватэрах шэрагу беларускіх журналістаў, некаторыя з іх былі выкліканыя ў органы КДБ, пракуратуры і міліцыі. **27 сакавіка** журналістку, сябра БАЖ **Юлію Коцкую**, якую затрымалі ў мінскім офісе **Радыё «Рацыя»** ў часеператрусу, дапыталі ў КДБ. У той жа дзень пасляператрусу ў кватэры бабруйскага журналіста **Андрэя Шобіна** яго дапыталі ў мясцовым аддзяленні КДБ. **27 сакавіка** выклікалі на размову ў КДБ сябра БАЖ з Віцебска **Алену Сцяпанаву, 28 сакавіка** — гомельскага журналіста **Анатоля Гатоўчыца**. Допыты адбываліся і на працягу некалькіх наступных месяцаў. **4 красавіка** ва ўпраўленні КДБ па Гомельскай вобласці дапыталі журналіста **Дзмітрыя Карпенку. 13 траўня** ў пракуратуру г. Мінска быў выкліканы каардынатар тэлеканала **«Белсат»** у Беларусі, сябра Праўлення ГА «БАЖ» **Эдуард Мельнікаў**. Усіх журналістаў дапытвалі ў якасці сведак па крымінальнай справе аб паклёпе на прэзідэнта (ч. 1 арт. 367 КК РБ), заведзенай у дачыненні да А. Мініча, П. Марозава і А. Абозава — аўтараў сатырычных мультфільмаў, якія «зневажаюць гонар і годнасць прэзідэнта Беларусі». Ва ўсіх журналістаў пыталіся, ці ведаюць яны пра згаданыя мультфільмы і пра дзейнасць тэлеканала «Белсат» у Беларусі.

Ордэр наператрус, з якім прыходзілі прадстаўнікі спецслужбаў, быў падпісаны намеснікам пракурора г. Мінска **Аляксеем Стукам** і датаваны **17-м сакавіка**. **27 і 28 сакавіка** супрацоўнікі КДБ правяліператрусы ў шэрагу рэдакцый замежных СМІ, офісах недзяржаўных арганізацый, а таксама ў прыватных кватэрах журналістаў па ўсёй Беларусі. Усяго за два дні (з улікам журналістаў, якія знаходзіліся ў офісах, дзе

ладзілісяператрусы, і былі часова затрыманыя ці зазналі іншы ўціск з боку сілавікоў) **пацярпелі** больш за 25 прадстаўнікоў прэсы.

У сакавіку — красавіку 2008 года ГА «БАЖ» двойчы **звярталася** да генеральнага пракурора Беларусі **Рыгора Васілевіча** ў сувязі з ператрусамі. БАЖ настойвала на «ўзнаўленні законнасці, вяртанні адабранай маёмасці, а таксама на абароне правоў і законных інтарэсаў журналістаў». У хуткім часе Генеральны пракурор адказаў, што перанакіраваў зварот БАЖ у сталічную пракуратуру. Пракуратура г. Мінска **заявіла**, што ператрусы ў кватэрах незалежных журналістаў 27 і 28 сакавіка «былі праведзеныя абгрунтавана і ў адпаведнасці з законам».

**23 траўня** спецыяліста па збыце недзяржаўнай рэгіянальнай газеты **«Ганцавіцкі час» Наталлю Гузаеўскую** выклікалі ў Ганцавіцкую раённую пракуратуру. З яе ўзялі тлумачэнні з нагоды парушэнняў закона «Аб рэкламе», нібыта дапушчаных газетай у некалькіх нумарах «ГЧ» за люты і сакавік 2008 года. Скаргу, на падставе якой праводзілася праверка, накіраваў у пракуратуру Ганцавіцкі райвыканкам.

Адным з «парушэнняў» называецца тое, што ў рубрыцы «Шукаю працу» была надрукавана аб'ява «Тынкоўшчык-маляр» без нумара ліцэнзіі. «У беларускім заканадаўстве нідзе не сказана, каб з чалавека, які шукае працу тынкоўшчыка-маляра, цесляра і г. д., газета альбо наймальнік патрабавалі ліцэнзію. Гэта права чалавека», — падкрэсліў у гутарцы са службай маніторынгу БАЖ намеснік галоўнага рэдактара «ГЧ» **Пётр Гузаеўскі**. Парушэннем закона «Аб рэкламе» ў райвыканкаме палічылі і тое, што ў рэкламных блоках «дрэнна чытаюцца» некаторыя звесткі (УНП, дадзеныя аб ліцэнзіі), а паводле закона надрукаваны тэкст павінен быць кантрастным. «У рэдакцыі «ГЧ» няма сваіх машын для друку. Каб раённыя ўлады адкрылі друкарню і паставілі ў Ганцавічах якаснае абсталяванне, то і друк быў бы кантрастным», — заявіў на гэта П. Гузаеўскі.

**28 траўня** рэдакцыя недзяржаўнай рэгіянальнай газеты **«Ганцавіцкі час»** атрымала папярэджанне ад Міністэрства інфармацыі аб парушэнні арт. 30 Закона «Аб друку і іншых СМІ» (распаўсюд рэкламы). Як паведамлялася ў лісце за подпісам міністра **Уладзіміра Русакевіча**, у нумарах «Ганцавіцкага часу» ад 8 лютага і 9 траўня 2008 г. былі апублікаваныя рэкламныя аб'явы аб продажы камп'ютэраў, капіравальнай і іншай тэхнікі, а ў нумары ад 9 траўня — яшчэ і аб продажы будаўнічых матэрыялаў без указання звестак пра ліцэнзіі.

У лісце міністэрства нагадала, што ў 2005 г. яно ўжо выносіла падобнае папярэджанне «Ганцавіцкаму часу». Зыходзячы з заўваг трохгадовай даўніны, Мініфармацыі «паўторна папярэдзіла» рэдакцыю выдання аб недапушчэнні такіх парушэнняў. (Між тым, паўторным лічыцца папярэджанне, вынесенае цягам аднаго года.)

**30 траўня** Міністэрства інфармацыі вынесла пісьмовае папярэджанне недзяржаўнай газеце **«Витебский курьер М»** па двух артыкулах закона «Аб друку і іншых СМІ». Міністэрства сцвярджала, што газета ўказала ў выхадных дадзеных несапраўдны адрас рэдакцыі (арт. 26), а таксама не паведаміла Мініфармацыі ў належны тэрмін новы адрас для ўнясення зменаў у пасведчанне аб рэгістрацыі (арт. 11).

Як патлумачыў прэс-службе ГА «БАЖ» юрыдычны кансультант выдання **Павел Левінаў**, выданне папярэдзілі за калізію, створаную самімі ўладамі. Пасля ўнясення зменаў у Статут у 2007 г. **ЗАТ «Выдавецкі дом «Витебский курьер»** падало ў Міністэрства інфармацыі копію новага Статута з указаннем новага юрыдычнага адраса.

Аднак пасля гэтага Віцебскі аблвыканкам адмяніў сваё ж рашэнне аб унясенні змяненняў ва ўстаноўчыя дакументы рэдакцыі, і цяпер яе афіцыйны юрыдычны адрас не адпавядае фактычнаму месцазнаходжанню. (*Гл. справаздачу за 2007 год.*) У газеце ж указваюцца абодва адрасы.

**29 жніўня** стала вядома, што адразу два папярэджанні атрымала ад Міністэрства інфармацыі недзяржаўная грамадска-палітычная газета **«Бобруйский курьер».** Папярэджанні вынесеныя паводле трох артыкулаў Закона «Аб друку і іншых СМІ» — 11 («Перарэгістрацыя СМІ»), 26 («Выходныя дадзеныя») і 32 («Права на атрыманне інфармацыі»).

У прыватнасці, чыноўнікі ўгледзелі парушэнне ў тым, што газета зарэгістраваная як рэспубліканскае выданне, але распаўсюджваецца па падпісцы толькі ў Магілёўскай вобласці. Галоўны рэдактар **Анатоль Санаценка** заявіў на гэта, што выданне проста не ўключаюць у рэспубліканскі падпісны каталог. Акрамя таго, Мінінфармацыі палічыла, што выданне не вытрымлівае балансу паміж беларускамоўнымі і рускамоўнымі матэрыяламі. У рэгістрацыйным пасведчанні «БК» пазначаныя дзве мовы — руская і беларуская, і Мінінфармацыі палічыла, што ў кожным нумары павінны быць матэрыялы на абедзвюх мовах у роўнай прапорцыі. Між тым, як адзначыў галоўны рэдактар, Закон «Аб друку і іншых СМІ» такіх умоваў не выстаўляе.

**9 верасня** Міністэрства інфармацыі папярэдзіла рэдакцыю недзяржаўнай газеты **«Брестский курьер»** аб недапушчальнасці парушэння арт. 5 Закона РБ «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі» ў частцы «Замах на маральнасць грамадзян». Нагодай для санкцый стаў змест сканворда, надрукаванага ў жнівеньскім нумары (№ 35) газеты, дзе сярод іншых прысутнічалі пытанні сексуальнай тэматыкі.

Як патлумачыў галоўны рэдактар выдання **Мікалай Аляксандраў**, яшчэ да вынясення папярэджання ён меў размову з супрацоўнікамі Мінінфармацыі. У размове ён патлумачыў, што сканворд трапіў у друк праз недагляд карэктара з агульнадаступнага сайта ў Інтэрнеце. Гэтыя тлумачэнні былі прынятыя, і рэдакцыю запэўнілі, што ніякіх санкцый супраць яе не будзе.

**20 кастрычніка** рэдактар недзяржаўнага выдання **«Брестский курьер» Мікалай Аляксандраў** быў выкліканы ў абласную пракуратуру, дзе мусіў даць тлумачэнні наконт скаргаў, накіраваных супраць газеты двума жыхарамі Брэста. У выніку на сп. Аляксандрава склалі пратакол аб адміністратыўным правапарушэнні «за неналежнае выкананне заканадаўства аб зваротах грамадзян».

Першую скаргу накіраваў у рэдакцыю прадпрымальнік **А. Бялоў** з нагоды артыкула «Меченые деньги» (нумар «БК» ад 10.07.2008 г.). Адказ на скаргу газета дала пазней чым праз месяц. Другое парушэнне тычылася скаргі грамадзянкі **М. Рабцэвіч** з нагоды публікацыі ў газеце фотаздымка яе дачкі. Тады **газета тэрмінова надрукавала прабачэнні**, але ў рэдакцыі не захаваўся арыгінал звароту спн. Рабцэвіч.

Паколькі згодна з заканадаўствам (*з «Палажэннем аб парадку вядзення справаводства па зваротах грамадзян у дзяржаўных органах, іншых арганізацыях», зацверджаным пастановай Саўміна РБ ад 26.05.2005 г.)* адказнасць у такіх выпадках нясе кіраўнік установы, пратакол быў складзены на галоўнага рэдактара «Брестского курьера».

**4 лістапада** недзяржаўная рэгіянальная газета **«Борисовские новости»** атрымала папярэджанне ад Міністэрства інфармацыі. Падставай для санкцыі стаў артыкул «Бал

сатаны, или Третье пришествие Гуминского» (нумар «БН» ад 02.10.2008 г.). Папярэджанне вынесена па арт. 32 Закона «Аб друку...», які прадугледжвае права грамадзян атрымліваць праз СМІ праўдзівыя звесткі. Папярэджанне было вынесена пасля таго, як у міністэрства паступіла скарга з Цэнтрвыбаркама краіны.

У спрэчным артыкуле, прысвечаным вынікам парламенцкіх выбараў, распавядалася пра верагодныя парушэнні на выбарчых участках Барысаўскай выбарчай акругі № 62.

Напярэдадні, **24 лістапада**, рэдактар і заснавальнік недзяржаўнай газеты «Борисовские новости» **Анатоль Букас** вымушаны быў накіраваць у Міністэрства інфармацыі пісьмовыя тлумачэнні адносна зместу артыкула.

**5 снежня** стала вядома, што пракуратура Веткаўскага раёна (Гомельская вобл.) папярэдзіла гомельскага актывіста дэмакратычных сіл **Канстанціна Жукоўскага** аб недапушчальнасці супрацоўніцтва з тэлеканалам **«Белсат».** У лісце ўказана, што праверка праводзілася па заяве кіраўніка раённага Савета дэпутатаў **Яўгена Чаванькова**.

У папярэджанні паведамлялася, што актывіст парушае закон, перадаючы матэрыялы для замежнага сродку масавай інфармацыі, не акрэдытаванага ў МЗС. Паводле дакумента, у выпадку фіксавання паўторных фактаў супрацоўніцтва з дадзеным СМІ К. Жукоўскі будзе прыцягнуты да адказнасці.

**16 снежня** намеснік начальніка аддзела Генеральнай пракуратуры РБ **Павел Радзівонаў** уручыў афіцыйныя пісьмовыя папярэджанні старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі **Анатолю Лябедзьку** і актывісту моладзевага крыла АГП «Маладыя дэмакраты» **Міхаілу Пашкевічу**. Пракуратура лічыць, што яны маюць дачыненне да выдання і інфармацыйнага напаўнення незарэгістраванага выдання **«Глоток воздуха»**.

Папярэджанні вынесены па арт. 367 і 369-1 Крымінальнага кодэкса (паклёп у дачыненні да прэзідэнта і дыскрэдытацыя РБ адпаведна), а таксама арт. 40 Закона «Аб друку…» (абавязак правяраць праўдзівасць звестак, якія публікуюцца ў СМІ). Дакумент падпісаў намеснік генеральнага пракурора РБ **Аляксей Стук**.

У папярэджанні, у прыватнасці, ішла гаворка пра артыкул «Секретная продажа оружия (Чью задницу прикрывает Генеральная прокуратура)», у якім пракуратура ўгледзела вышэйпералічаныя парушэнні. У выпадку паўторнага парушэння згаданых артыкулаў палітыкаў абяцаюць «прыцягнуць да вызначанай законам адказнасці». А. Лябедзька і М. Пашкевіч, са свайго боку, адмаўляюць сваю спрычыненасць да згаданага выдання.

# Замахі на журналістаў, затрыманні, спробы зыску

1. Затрыманні,ператрусы
2. Выклікі ў праваахоўныя органы, спробы цыску
3. Замахі на журналістаў і медыі, гвалт

**На працягу 2008 года незалежныя беларускія журналісты неаднаразова прыцягваліся да адміністрацыйнай адказнасці за сваю прафесійную дзейнасць. З мэтай ціску на прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі іх выклікалі ў пракуратуру і «для размовы» ў мясцовыя аддзелы КДБ. У мінулым годзе, на жаль, журналісты не пазбеглі не толькі псіхалагічнага, але і фізічнага гвалту.**

## 1. Затрыманні,ператрусы

**10 студзеня** на ўваходзе ў станцыю метро «Кастрычніцкая» быў затрыманы пазаштатны фотакарэспандэнт газеты **«Наша Ніва» Арсень Пахомаў**. У гэты час побач адбывалася масавая акцыя пратэсту прадпрымальнікаў. А. Пахомаў знаходзіўся на мітынгу па заданні рэдакцыі. На наступны дзень журналіст быў асуджаны на 15 сутак адміністрацыйнага арышту. Суддзя Цэнтральнага раёна г. Мінска прызнаў яго вінаватым у парушэнні двух артыкулаў Адміністрацыйнага кодэкса — «дробнае хуліганства» і «ўдзел у несанкцыянаванай акцыі».

**12 студзеня** ў Мінску былі затрыманыя журналісты **Уладзімір** і **Галіна Самойлавы** і тэлеаператар **Валер Булдык**, якія запісвалі інтэрв’ю з нагоды акцыі прадпрымальнікаў з эканамістам Паўлам Данэйкам у яго кватэры. Пасля сустрэчы на вуліцы іх затрымалі прадстаўнікі спецслужбаў і міліцыянер. Тэлежурналістаў адправілі ў РУУС Цэнтральнага раёна, дзе ў іх забралі апаратуру і дагледзелі прыватныя рэчы. Допыт працягваўся каля трох гадзін. Прадстаўнікоў спецслужбаў цікавіла пытанне, ці не здымалася інтэрв’ю з Данэйкам для тэлеканала **«Белсат»**.

**12 студзеня** ў Гомелі ў кватэры сябра ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» **Сяргея Падсасоннага** супрацоўнікі рэгіянальнай управы КДБ правяліператрус. У санкцыі сцвярджалася, што яго падазраюць ва ўдзеле ў незарэгістраванай арганізацыі «Малады фронт» і ўцягванні ў яе дзейнасць вучняў і студэнтаў з мэтай дыскрэдытацыі краіны. Сябры гомельскай суполкі БАЖ прапаноўвалі выступіць панятымі, аднак міліцыя і супрацоўнікі КДБ выштурхнулі іх за дзверы. З кватэры Падсасоннага забралі жорсткі дыск з камп’ютэра, відэакамеру і флэш-карту. Нагадаем, што 23 лістапада мінулага года чэкісты сілаю забралі журналіста ва ўпраўленне на так званую «гутарку». Яны цікавіліся, ці мае ён дачыненне да спадарожнікавага тэлеканала **«Белсат»**.

**23 сакавіка** быў затрыманы рэдактар інтэрнэт-выдання «**Народныя навіны Віцебска» Сяргей Серабро**. Супрацоўнікі віцебскай міліцыі пратрымалі яго ў пастарунку 2,5 гадзіны, пасля чаго адпусцілі без складання пратакола. Журналіста затрымалі на вуліцы, калі ён спрабаваў зрабіць фотаздымкі размовы супрацоўнікаў міліцыі з вядомым віцебскім грамадскім актывістам Барысам Хамайдам.

**25 сакавіка** ў цэнтры Віцебска быў затрыманы журналіст, сябра ГА «БАЖ» **Вадзім Баршчэўскі**, які прысутнічаў на мірнай грамадзянскай акцыі, прымеркаванай да 90-х угодкаў абвяшчэння БНР. Яго разам з грамадскімі актывістамі Барысам Хамайдам, Аленай Залескай і Антанінай Піванос зацягнулі ў міліцэйскі аўтобус і адвезлі ў РАУС Чыгуначнага раёна. Праз дзве гадзіны супрацоўнікі міліцыі паведамілі журналісту, што яго не затрымлівалі.

**25 сакавіка** супрацоўнікі міліцыі затрымалі жыхарку Віцебска **Эльвіру Сафіуліну**, якая здымала на відэакамеру акцыю, прымеркаваную да Дня Волі. Яе пратрымалі дзве з паловай гадзіны ў пастарунку і знішчылі запіс на касеце.

**25 сакавіка** ў Мінску падчас вулічнай акцыі з нагоды Дня Волі былі затрыманыя супрацоўнікі газеты **«Наша Ніва»** — пазаштатны фотакарэспандэнт **Андрэй Лянкевіч** і журналіст **Сямён Печанко**. Журналістаў затрымалі, нягледзячы на тое, што абодва мелі пры сабе журналісцкае пасведчанне ад рэдакцыі. А. Лянкевіч быў дастаўлены ў Цэнтральны РАУС, у момант затрымання супрацоўнікі міліцыі разбілі яму да крыві нос. С. Печанко адвезлі ў Маскоўскі РАУС і не адпусцілі нават пасля тэлефанавання дзяжурнаму галоўнага рэдактара «Нашай Нівы» **Андрэя Скурко**. Кіраўнік рэдакцыі ў размове з дзяжурным пацвердзіў, што сп. Печанко сапраўды выконваў на акцыі свае прафесійныя абавязкі.

**25 сакавіка** ў Мінску падчас вулічнай акцыі была затрыманая здымачная група літоўскага тэлебачання (**LRT**) — карэспандэнтка **Рута Рыбачэўскіне** і тэлеаператар **Іонас Грышконіс**. Іх прывезлі ў будынак Цэнтральнага РУУС, дзе міліцыянты ўдакладнілі іх асобы, пасля чаго забралі касету са знятым на акцыі матэрыялам і адпусцілі.

**25 сакавіка** ў Мінску падчас вулічнай акцыі былі кароткачасова затрыманыя карэспандэнты інфармагенцтва **БелаПАН Міхаіл Ваняшкін** і **Андрэй Серада**.

**25 сакавіка** дзве гадзіны правяла ў міліцэйскім пастарунку рэдактарка недзяржаўнай маланакладнай газеты **«Магілёўскі Час» Ганна Ільіна**. Журналістку затрымалі ў цэнтры Магілёва, калі яна раздавала мінакам спецыяльны выпуск свайго выдання, які быў прысвечаны 90-м угодкам БНР. У пастарунку быў складзены пратакол канфіскацыі 250 асобнікаў газеты. Спецвыпуск павінен быў прайсці ў ідэалагічным аддзеле аблвыканкама экспертызу для высвятлення адпаведнасці зместу газеты беларускаму заканадаўству ў сферы СМІ.

Раніцай **27 сакавіка** практычна адначасова прайшліператрусы ў Мінску, Гродне, Магілёве, Бабруйску (Магілёўская вобласць), Гомелі, Віцебску, Наваполацке (Віцебская вобласць), Брэсце, Бярозе, Баранавічах, Пінске (Брэсцкая вобласць). А **28 сакавіка** — у Асіповічах і Горках (Магілёўская вобласць).Ператрусы закранулі журналістаў, якія, па некаторых дадзеных, супрацоўнічалі з тэлеканалам **«Белсат»**, **«Радыё Рацыя»**, **«Еўрапейскім радыё для Беларусі»**, а таксама гарадзенскія офісы ГА «Бацькаўшчына» і Партыі БНФ. Падчасператрусаў у журналістаў забіралі аргтэхніку, аўдыё- і відэазапісы, дакументы, кнігі.

Ператрусы праводзіліся па даручэнні намесніка пракурора г. Мінска **Аляксея Стука** першаму намесніку старшыні КДБ па контрвыведвальнай дзейнасці генерал-маёру **В. П. Вегеры**. У пастановах на правядзеннеператрусаў у якасці прычыны называлася справа аб паклёпе на Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (ч. 1 арт. 367 Крымінальнага кодэкса), якая была ўзбуджаная ў 2005 годзе ў сувязі са з’яўленнем у

Інтэрнеце сатырычнай флэш-анімацыі. Фігуранты гэтай справы знаходзяцца за мяжой і ніякім чынам не былі звязаныя з журналістамі, у якіх праводзіліся ператрусы.

Кіраўнік упраўлення інфармацыі Міністэрства замежных спраў **Марыя Ваньшына** назвала іншую прычыну ператрусаў. Па яе словах, асобы, у якіх праводзіліся ператрусы, **працавалі на замежныя СМІ без акрэдытацыі**. Трэба заўважыць, што Рэспубліка Беларусь ратыфікавала Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах, арт. 19 якога гарантуе кожнаму права атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю і ідэі незалежна ад дзяржаўных межаў. У любым выпадку, беларускае заканадаўства не прадугледжвае ў дачыненні да журналістаў, якія працуюць без акрэдытацыі, гэткія меры, як ператрусы і канфіскацыя маёмасці.

У сувязі з ператрусамі і адабраннем маёмасці журналістаў **ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў»** звярнулася ў Генеральную пракуратуру Рэспублікі Беларусь і пракуратуру г. Мінска, Камітэт дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь. У адказах гаварылася, што ніякіх парушэнняў пры ператрусах не было, а пытанне аб вяртанні маёмасці журналістам будзе вырашанае пасля яго вывучэння.

12 чэрвеня крымінальная справа па факце паклёпу на Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь была прыпыненая. Ніякіх абвінавачванняў нікому з журналістаў прад'яўлена не было. У верасні 2008 года КДБ пачаў вяртаць журналістам аргтэхніку і дакументы.

**29 сакавіка** ў Гродне міліцыя затрымала легкавы аўтамабіль, у якім знаходзіліся галоўны рэдактар часопіса **«Magazyn Polski na uchodzstwie»**, сябра БАЖ **Ігар Банцар**, а таксама кіраўніцтва непрызнанага ўладамі Саюза палякаў: Анжаліка Борыс і Юзэф Пажэцкі. Іх машыну заблакавалі каля офіса Саюза палякаў міліцыянты Ленінскага РАУС Гродна, якія заявілі, што, паводле іх інфармацыі, у машыне знаходзіцца нелегальная друкаваная прадукцыя. Калі пасажыры адмовіліся адчыніць багажнік, праваахоўнікі выклікалі нарад міліцыі. Апошнія вартавалі машыну СПБ да наступнага дня.

**14 красавіка** стала вядома, што на рэдактара часопіса **«Magazyn polski na uchodzstwie»** (Гродна) **Ігара Банцара** складзены пратакол за знаходжанне ў памежнай зоне без адпаведных дакументаў. Журналіста затрымалі ў мястэчку Радунь у Воранаўскім раёне. На яго быў складзены пратакол аб адміністрацыйным парушэнні.

**15 красавіка** ў Мінску на 14 сутак адміністрацыйнага арышту быў асуджаны сябра БАЖ з Барысава **Анатоль Удавічэнка**. Міліцыянты затрымалі яго 14 красавіка, а на наступны дзень суддзя Першамайскага раёна Ала Яшчанка прызнала журналіста вінаватым у «парушэнні вызначанага парадку арганізацыі альбо правядзення масавага мерапрыемства альбо пікетавання» (ч. 1 арт. 23.34 КаАП). Паводле сведчанняў супрацоўнікаў міліцыі, А. Удавічэнка раскідваў па вуліцы налепкі з заклікам прыняць удзел у акцыі «Чарнобыльскі шлях». Сам журналіст не прызнаў вылучаных супраць яго абвінавачанняў.

**29 красавіка** ў цэнтры Мінска быў затрыманы журналіст **«Народнай волі» Віталь Гарбузаў**. Гэта адбылося, калі ён назіраў за акцыяй Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) — лідэр партыі Анатоль Лябедзька і яго паплечнікі раздавалі мінакам газету «Народная воля» з пасланнем АГП. Усе яны былі адвезеныя ў Цэнтральны РУУС. Заявы рэпарцёра, што ён выконваў рэдакцыйнае заданне, засталіся без увагі. Праз некалькі гадзін затрыманых адпусцілі.

**1 траўня Генадзь Барбарыч**, карэспандэнт газеты **«Белорусы и рынок»**, быў затрыманы міліцыяй Першамайскага РУУС Мінска. Гэта адбылося каля міліцэйскага будынка, дзе праходзіла акцыя моладзі, салідарнай з дэмакратычнымі актывістамі, затрыманымі падчас «народных гулянняў» з нагоды Першамая. Міліцыянты схапілі журналіста, палічыўшы яго адным з удзельнікаў акцыі, аднак пасля праверкі дакументаў вызвалілі.

**15 траўня** на 15 сутак арышту быў асуджаны карэспандэнт дзяржаўнай газеты **«Звязда» Віктар Хурсік**. Па словах суддзі Старадарожскага раёна (Мінская вобл.) **Сяргея Япіхава**, які вынес рашэнне, 55-гадовы журналіст асуджаны па ч. 1 арт. 23.34 КаАП РБ (парушэнне вызначанага парадку арганізацыі альбо правядзення масавага мерапрыемства). Вядома, што 19 красавіка ён прысутнічаў на цырымоніі ўсталявання мемарыяльнага крыжа ў вёсцы Дражна Старадарожскага раёна.

**15 траўня** быў затрыманы пазаштатны карэспандэнт газеты **«Наша Ніва» Яраслаў Сцешык**, які знаходзіўся ў месцы правядзення вулічнага апытання, якое ладзілі ўдзельнікі моладзевага руху «Бунт». На наступны дзень журналіст быў асуджаны на

5 сутак адміністрацыйнага арышту. Такое рашэнне прыняў суд Цэнтральнага раёна Мінска, прызнаўшы карэспандэнта вінаватым у нецэнзурнай лаянцы ў грамадскім месцы (арт. 17.1 КаАП — дробнае хуліганства).

**29 траўня** адбыўсяператрус у кватэры віцебскага праваабаронцы і выдаўца бюлетэня **«Права на волю» Леаніда Свеціка**, санкцыянаваны віцебскай пракуратурай. Следчы КДБ абвясціў, што Л. Свецік з'яўляецца сведкам у крымінальнай справе, распачатай паводле арт. 130.1 Крымінальнага кодэкса РБ (распальванне міжнацыянальнай і міжканфесійнай варожасці). Справа была распачатая **20 траўня** гэтага года. Падставай для яе сталіся лісты з пагрозамі, якія распаўсюджваліся ад імя «віцебскай філіі «Русского национального единства». Супрацоўнікі КДБ забралі ў Леаніда Свеціка пасведчанне сябра ГА «БАЖ» і шэраг друкаваных перыядычных выданняў.

**8 ліпеня** ў Віцебску супрацоўнікі міліцыі затрымалі і адвезлі на гутарку ў Чыгуначны РАУС распаўсюдніка незалежнай прэсы **Барыса Хамайду**. Паводле затрыманага, у пастарунку міліцыянты перагледзелі газеты і часопісы, якія ён распаўсюджвае, і адпусцілі яго, не склаўшы пратакола. Аднак грамадскага актывіста папярэдзілі, што ягонае знаходжанне ў цэнтры горада, каля так званага «сіняга дома» на вуліцы Леніна (там ён заўсёды распаўсюджвае незалежныя СМІ), падчас фестывалю «Славянскі базар у Віцебску» вельмі непажаданае.

**8 ліпеня** ў кватэры сябра ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» **Ніны Шыдлоўскай**, прэс-сакратаркі Аляксандра Казуліна ў 2006 годзе і намесніцы старшыні МГА «Бацькаўшчына», адбыўсяператрус, які працягваўся сем гадзінаў. Супрацоўнікі КДБ рабілі яго ў сувязі з магчымым знаходжаннем у кватэры рэчываў, якія маглі б быць звязаныя з выбухам ноччу 4 ліпеня ў Мінску. У выніку былі забраныя сістэмны блок, фотаздымкі, візітоўніцы, а муж Шыдлоўскай Міраслаў Садоўскі быў затрыманы. Яго дапыталі ва ўпраўленні КДБ па Мінску і Мінскай вобласці, пасля чаго даставілі ў ізалятар на вул. Акрэсціна.

**16 ліпеня** на памежным пераходзе Брузгі (беларуска-польская мяжа) быў затрыманы сябра ГА «БАЖ», старшыня Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры **Антон Астаповіч**. Разам з ім былі затрыманыя актывіст

Таварыства Зміцер Каспяровіч і праваабаронца Цімафей Дранчук. Машыну, на якой яны ехалі, беларускія памежнікі адагналі ў бокс, правялі асабісты дагляд кожнага з іх, а на пытанне пра прычыны затрымання адказалі, што «атрымалі загад зверху». Астаповіч і Каспяровіч ехалі ў Беласток на сустрэчу па праблеме аховы помнікаў.

**21 ліпеня** ў Віцебску супрацоўнікі міліцыі правяліператрус у кватэры дырэктаркі **выдавецкага дома «Витебский курьер» Жанны Паповай**.Ператрус, па тлумачэнні міліцыянтаў, ладзіўся ў сувязі з выбухам 4 ліпеня ў Мінску. Былі канфіскаваныя дыскеты, кампактныя дыскі і флэш-карта, а саму жанчыну адвезлі ў абласное ўпраўленне міліцыі па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю «для дачы паказанняў».

**8 жніўня** быў затрыманы фотакарэспандэнт недзяржаўнага тыднёвіка **«БелГазета» Вадзім Заміроўскі**, які рабіў здымкі непадалёк ад Дома ўрада на плошчы Незалежнасці ў Мінску. Паводле слоў фотакарэспандэнта, супрацоўнікі службы бяспекі, спаслаўшыся на нейкую інструкцыю, прымусілі яго выдаліць з камеры зробленыя фотаздымкі. Пасля гэтага журналіста адпусцілі без складання пратакола затрымання.

**11 жніўня** падчас пікета супраць вайны ў Грузіі каля расійскай амбасады ў Мінску міліцыянты перапісалі персанальныя дадзеныя некаторых журналістаў недзяржаўных СМІ, якія асвятлялі падзею. Таксама прадстаўнікі праваахоўных органаў патрабавалі ад рэпарцёраў выдаліць зробленыя ў момант затрымання ўдзельнікаў пікета фота- і відэаздымкі. Пасля прыведзеных у адказ аргументаў пра тое, што журналісты выконваюць свой прафесійны абавязак, міліцыянты пакінулі прэсу ў спакоі.

**28 жніўня** былога студэнта Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце РБ, сябра БАЖ **Юрыя Алейніка** і яго бацьку затрымалі на памежным пераходзе «Варшаўскі мост» на беларуска-польскай мяжы. Памежнікі знайшлі ў іх раздрукоўкі матэрыялаў з сайта Радыё «Свабода» і іншых беларускіх і расійскіх інфармацыйных рэсурсаў. Праз некаторы час затрыманых адпусцілі, а раздрукоўкі забралі на экспертызу.

**28 жніўня** суд Ленінскага раёна Мінска пакараў 10 суткамі адміністрацыйнага арышту актывіста грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь» **Паўла Лукшу**, затрыманага за распаўсюд самвыдатаўскай газеты **«Выбар»**. У выданні былі размешчаны матэрыялы з заклікамі да байкоту парламенцкіх выбараў і да пратэстаў супраць магчымай фальсіфікацыі іх вынікаў. Суд палічыў наяўнасць у выданні згаданых публікацый заклікам да ўдзелу ў несанкцыянаванай акцыі.

**28 жніўня** ў Мінскай вобласці за распаўсюд недзяржаўнай маланакладнай газеты **«Свабодны Салігорск»** былі затрыманыя актывісты зарэгістраванай у Чэхіі арганізацыі «Малады фронт» **Іван Шыла**, **Ілля Шыла**, **Крысціна Самойлава**, **Андрэй Тычына** і **Глеб Снаркін**. Маладзёнаў пэўны час пратрымалі ў міліцэйскім пастарунку, пасля чаго адпусцілі. У кватэрах актывістаў адбыліся ператрусы, у выніку якіх былі забраныя камп’ютары і друкаваныя матэрыялы.

**10 верасня** супрацоўнік недзяржаўнай газеты **«Товарищ» Мікалай Петрушэнка** быў затрыманы ў райцэнтры Сянно (Віцебская вобл.) за распаўсюд свайго выдання. Два ўзброеныя супрацоўнікі міліцыі заявілі журналісту, што той нібыта займаецца “недазволенай агітацыяй”. У аддзяленні міліцыі пратакол затрымання на яго складаць не сталі, а праз некаторы час адпусцілі.

**17 лістапада** ў Мінску супрацоўнікі службы аховы Беларускага нацыянальнага тэхнічнага ўніверсітэта затрымалі фотакарэспандэнта інфармагенцтва **БелаПАН Уладзіміра Грыдзіна**.

Рэпарцёр суправаджаў моладзевых актывістаў Партыі БНФ, якія ў Міжнародны дзень студэнтаў раздавалі ўлёткі з тэкстам Дэкларацыі правоў студэнтаў. Ахоўнікі затрымалі журналіста, нягледзячы на тое, што ён паказаў ім прэс-карту, і перадалі разам з затрыманымі ўдзельнікамі акцыі міліцыянтам. У аддзяленні міліцыі У. Грыдзіна дапыталі ў якасці сведкі, пасля чаго адпусцілі.

**22 лістапада** падчас акцыі салідарнасці з моладзевым актывістам Аляксандрам Баразенкам, які знаходзіцца ў мінскім СІЗА, былі затрыманыя каля 15 чалавек, сярод якіх — фотакарэспандэнт незалежнай газеты **«Наша Ніва» Юлія Дарашкевіч**, якая працавала на месцы падзеяў. Усіх іх даставілі ў РУУС Маскоўскага раёна. «Праз пэўны час, калі за намі ніхто не сачыў, я і некаторыя маладыя людзі пакінулі РУУС. У той момант у астатніх бралі адбіткі пальцаў... Іх хацелі ўзяць і ў мяне, але я сышла раней, чым гэта адбылося», — паведаміла Ю. Дарашкевіч.

**2 снежня** ў раённым цэнтры Астравец (Гродзенская вобл.) супрацоўнікі міліцыі затрымалі незалежнага журналіста **Вадзіма Казначэева**, а таксама некалькіх актывістаў Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Гэта адбылося на выездзе з горада пасля іх сустрэчы з прадпрымальнікамі. В. Казначэеў паказаў міліцыянтам журналісцкае пасведчанне, але гэта не дапамагло. Палітыкаў і журналіста пратрымалі ў Астравецкім РАУС некалькі гадзін, пасля чаго адпусцілі.

**10 снежня** ў Гродне быў затрыманы незалежны журналіст, сябра БАЖ **Іван Роман**.

Гэта адбылося падчас акцыі мясцовых праваабаронцаў з нагоды 60-годдзя падпісання Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Наяўнасць у рэпарцёра журналісцкага пасведчання не спыніла міліцыянтаў. Затрыманага даставілі ў Ленінскі РАУС «для высвятлення асобы і ўзяцця тлумачэнняў». У І. Романа перапісалі пашпартныя дадзеныя. Праз дзве гадзіны яго адпусцілі без складання пратакола.

## 2. Выклікі ў праваахоўныя органы, спробы цыску

**17 студзеня** памежнікі не выпусцілі з краіны маладога журналіста, сябра БАЖ **Барыса Гарэцкага**. Хлопца прымусілі сысці з цягніка на беларуска-ўкраінскай мяжы. На патрабаванне патлумачыць прычыну было сказана, што Гарэцкі знаходзіцца ў спісе «часова невыязных». Юнак сцвярджае, што ніякіх запазычанасцяў не мае і што супраць яго не распачатая крымінальная справа. А штраф, якім ён быў пакараны ў мінулым годзе за ўдзел у незарэгістраванай арганізацыі «Малады фронт», ён ужо заплаціў.

**21 студзеня** стала вядома, што галоўны рэдактар недзяржаўнай грамадска-палітычнай газеты **«Товарищ» Сяргей Вазняк** быў выкліканы для гутаркі ў аддзяленне ўнутраных спраў Ленінскага раёна Мінска. Міліцыянтаў цікавіла, чаму журналіст прысутнічаў на несанкцыянаванай акцыі пратэсту прадпрымальнікаў 10 студзеня.

**28 студзеня** галоўнага рэдактара недзяржаўнага часопіса **«Magazyn Polski na uchodzstwie» Ігара Банцара** выклікалі ў Ленінскі РАУС Гродна для сведчання. Прычына выкліку ў позве не згадвалася. Журналіст, які ў міліцыю не пайшоў, перакананы, што гэта звязана з яго прафесійнай дзейнасцю, у прыватнасці, з яго прысутнасцю 21 студзеня на акцыі пратэсту гродзенскіх прадпрымальнікаў.

**21 і 22 лютага** сябру ГА «БАЖ» **Марыі Савушкінай** тэлефанаваў невядомы, які называў сябе супрацоўнікам «дэпартаменту добрых спраў КДБ». Ён прапанаваў журналістцы сустрэцца для размовы. На што тая, у сваю чаргу, прапанавала ў выпадку пільнай патрэбы «паразмаўляць» даслаць ёй позву. М. Савушкіна звязвае гэтыя тэлефанаванні са сваёй прафесійнай дзейнасцю ў недзяржаўных СМІ. Тэлефанаванне паўтарылася 7 сакавіка. Невядомы «павіншаваў» журналістку са святам 8 сакавіка.

**24 сакавіка** журналістка **Ірына Халіп** была выкліканая ў пракуратуру Мінска для дачы тлумачэнняў з нагоды публікацыі на сайце charter97.org яе артыкула «Забойства ў прамым эфіры», напісанага ў дзень смерці Ірыны Казулінай. Журналістцы паведамілі, што па факце публікацыі праводзіцца пракурорская праверка.

**16 красавіка** стала вядома, што гомельскую журналістку, сябра БАЖ **Таццяну Бублікаву** абвінавачваюць ва ўдзеле ў несанкцыянаваным мерапрыемстве (ч. 1 арт. 23.34 КаАП — «Парушэнне вызначанага парадку арганізацыі альбо правядзення масавага мерапрыемства альбо пікетавання» і арт. 4.9 Закона аб масавых мерапрыемствах). Пра гэта гаворыцца ў пратаколе, які ёй паказалі падчас чарговага выкліку ў міліцыю. Дагэтуль журналістку выклікалі туды ў якасці сведкі, бо яна прысутнічала на экскурсіі, зладжанай 23 сакавіка ў Гомелі грамадскімі актывістамі з нагоды 90-х угодкаў БНР. У завяршэнні размовы ў міліцыі Т. Бублікавай паведамілі, што справа накіроўваецца ў суд.

**22 красавіка** галоўнага рэдактара **«Газеты Слонімскай» Віктара Валадашчука** выклікалі ў раённы ваенны камісарыят, дзе яму ўручылі павестку на вайсковыя зборы (з 20 траўня да 15 чэрвеня). Тэрмін правядзення «зборавых мерапрыемстваў» прыпадаў акурат на напружаны для рэдакцыі час скасавання дамовы арэнды памяшкання і заканчэння ліцэнзіі на раздробны гандаль выданнем. Аднак 13 траўня Віктара Валадашчука вызвалілі ад праходжання вайсковых збораў: падчас медыцынскага агляду ў журналіста выявілі гіпертанію 2-й ступені.

Акрамя таго, праз тыдзень пасля выкліку ў ваенны камісарыят В. Валадашчук знайшоў у сваёй паштовай скрыні дакумент за подпісам начальніка раённага КДБ Аляксандра Мазалькова, адрасаваны загадчыку псіханеўралагічнага аддзялення раённай бальніцы. У дакуменце загадана праверыць на прадмет уліку ў псіханеўралагічных і наркалагічных дыспансерах самога журналіста і яго блізкіх. Акрамя гэтага, ваенны камісар раёна **Юрый Труш** прапанаваў В. Валадашчуку падпісаць заяву, у якой рэдактар павінен даць згоду на правядзенне органамі дзяржбяспекі праверачных мерапрыемстваў і на часовае абмежаванне ў сувязі з гэтым права на недатыкальнасць асабістага жыцця.

**11 чэрвеня** стала вядома, што галоўнаму рэдактару недзяржаўнай маланакладнай газеты **«Мастоўская праўда»** (Гродзенская вобл.) **Ігару Шчакарэвічу** ваенны камісар Мастоўскага райваенкамата **Алег Шандаровіч** пагражае ўзбуджэннем крымінальнай справы за няяўку ў ваенкамат па павестцы. Журналіст навучаецца па Праграме Каліноўскага ва ўніверсітэце ў Польшчы. Не зважаючы на тое, што ён з’яўляецца студэнтам, ваенкамат запрасіў яго на медкамісію для далейшага прызыву на вайсковую службу.

**9 ліпеня** стала вядома, што супрацоўнікі праваахоўных органаў дапыталі незалежных журналістаў з Чэрыкава і Клімавічаў **Сямёна Панізоўцава** і **Сяргея Аржанцава**. Размова ішла пра здарэнне ў Мінску 4 ліпеня (выбух самаробнай бомбы ў натоўпе на афіцыйным канцэрце).

**11 ліпеня** журналістцы **Ірыне Туровіч** патэлефанаваў невядомы, які назваўся супрацоўнікам КДБ Аляксандрам Караткевічам. Мужчына прапанаваў сустрэцца ў нефармальных абставінах. У выніку такая сустрэча адбылася ў мінскім парку Горкага. «Мне казалі: вы не робіце тое і тое, а мы вас за гэта не ўключаем у спісы невыязных і не перашкаджаем афіцыйна працаўладкавацца», — распавяла журналістка. Таксама яе распытвалі пра справы ў рэдакцыі «Радыё Рацыя». (Ад 1 ліпеня І. Туровіч не працуе на радыё.)

**29 ліпеня** стала вядома, што журналістаў недзяржаўнай маланакладнай крычаўскай газеты **«Вольны горад»** (Магілёўская вобл.) супрацоўнікі міліцыі апыталі з нагоды выбуху 4 ліпеня ў Мінску. Рэдактар выдання **Сяргей Няроўны**, заснавальнік газеты **Уладзімір Кудраўцаў** і супрацоўнік рэдакцыі **Мікалай Гердзій**, якім былі адрасаваныя пытанні, расцэньваюць паводзіны мясцовай міліцыі як спробу псіхалагічнага ціску.

**30 ліпеня** ў галоўнага рэдактара газеты ГА «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны» «Наша слова» (г. Ліда, Гродзенская вобл.), сябра ГА «БАЖ» **Станіслава Судніка** ўзялі адбіткі пальцаў па справе аб выбуху ў Мінску 4 ліпеня. Журналіста выклікалі ў мясцовае аддзяленне КДБ, дзе задавалі «дзяжурныя пытанні». Сп. Суднік тлумачыць цікавасць да сваёй асобы з боку чэкістаў тым, што 3 ліпеня быў у Мінску і ўдзельнічаў у Сойме Партыі БНФ, сябрам якой з’яўляецца.

**30 ліпеня** ў Віцебску адміністрацыйная камісія аштрафавала грамадскага распаўсюдніка недзяржаўнай прэсы **Барыса Хамайду** на 200 тысяч рублёў «за парушэнне правілаў гандлю, зацверджаных гарвыканкамам». Нагадаем, што актывіст быў прыцягнуты да адказнасці за распаўсюд незалежных выданняў. Як адзначаецца ў дакуменце, прынятым камісіяй Чыгуначнага раёна Віцебска, 10 ліпеня супрацоўнік міліцыі ў цывільным купіў у Хамайды газету «Народная воля», пасля чаго на актывіста быў складзены пратакол аб парушэнні правілаў гандлю.

**7 жніўня** незалежную віцебскую журналістку **Алену Сцяпанаву** дапыталі ў КДБ у якасці сведкі па справе лістоў з пагрозамі ад імя незарэгістраванай арганізацыі «Русское национальное единство» (РНЕ). Следчага цікавіла, дзе і пры якіх абставінах журналістка бачыла гэтыя лісты, а таксама якія яна ведае праваабарончыя арганізацыі. Таксама запрашэнне наведаць Упраўленне КДБ па тэлефоне атрымаў незалежны віцебскі журналіст Вадзім Баршчэўскі. Нагадаем, што на працягу апошніх гадоў пагрозы ад РНЕ атрымлівалі некаторыя віцебскія актывісты дэмакратычнага руху, сябры КХП-БНФ, рэдакцыя газеты «Витебский курьер М» і беларускамоўны тэатр «Лялька».

**19 жніўня** галоўнага рэдактара газеты **«Антенна» Сяргея Маліноўскага** следчыя дапыталі ў якасці сведкі па крымінальнай справе аб мінскім выбуху 4 ліпеня. У журналіста ўзялі адбіткі пальцаў і ўзор сліны на аналіз ДНК, а таксама цікавіліся, дзе ён быў пад час выбуху.

**8 верасня** намесніка старшыні ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў», юрыста **Андрэя Бастунца** апыталі па справе аб выбуху 4 ліпеня ў Мінску. Яму патэлефанавалі на хатні нумар з Ленінскага РУУС Мінска і запрасілі прыйсці і адказаць на пытанні,

датычныя гучнай справы. Прайсці дактыласкапічную экспертызу юрыст адмовіўся, патлумачыўшы, што, паводле крымінальна-працэсуальнага заканадаўства, адбіткі пальцаў сведкі могуць здаваць па асабістым жаданні.

**9 верасня** старшыня Клецкага райсуда **Тамара Любянец** папярэдзіла рэдактара недзяржаўнага інфармацыйнага бюлетэня **«Бойкий Клецк» Сяргея Панамарова**, што скончыўся тэрмін добраахвотнай выплаты ім амаль 9 мільёнаў рублёў на карысць мясцовай камунальнай службы.

**13 лістапада** ў Бабруйску супрацоўнік гарадскога ізалятара часовага ўтрымання сяржант **Шумахер** наведаў кватэру галоўнага рэдактара недзяржаўнай газеты **«Бобруйский курьер» Анатоля Санаценкі** з настойлівай просьбай здаць адбіткі пальцаў. «Павестка», з якой прыйшоў візіцёр, уяўляла сабой пісьмовае персанальнае запрашэнне журналіста ад адміністрацыі ізалятара «з'явіцца ў любы зручны час сутак для пастаноўкі на дактыласкапічны ўлік як ваеннаабавязанага» (у сувязі з расследаваннем справы аб выбуху ў Мінску 4 ліпеня). А. Санаценка заявіў, што не збіраецца станавіцца на дактыласкапічны ўлік, бо не абавязаны гэтага рабіць.

Адзначым, што незадоўга да гэтага, у нумары ад 29 кастрычніка, «Бобруйский курьер» распавядаў пра «добраахвотна-прымусовую» кампанію амаль пагалоўнай дактыласкапіі бабруйчан-мужчын ва ўзросце 18−55 гадоў, якая праводзіцца на прадпрыемствах і ў навучальных установах горада.

## 3. Замахі на журналістаў і медыі, гвалт

**25 сакавіка** на акцыі ў Мінску фатографу **«Комсомольской правды» в Белоруссии» Дзмітрыю Брушко** салдаты ўнутраных войск разбілі дарагую апаратуру (успышку ягонага фотаапарата коштам у 400 долараў).

**17 траўня** капітан зборнай Беларусі па міні-футболе Уладзімір Левус у Гомелі збіў карэспандэнта тэлеканала **ФІЛ-TV Дзяніса Карэба**, які раней дамовіўся з ім аб інтэрв'ю. Гэта бачылі дзесяткі сведкаў. 19 траўня пацярпелы лёг у шпіталь, дзе пабоі былі зафіксаваныя дакументальна. Журналіст збіраецца напісаць ліст кіраўніку Беларускай федэрацыі футбола Генадзю Нявыгласу, а таксама не выключае, што накіруе скаргу ў міліцыю.

**11 ліпеня** каля «сіняга дома» быў здзейснены напад на віцебскага распаўсюдніка недзяржаўнай прэсы **Барыса Хамайду**. «Да мяне падышоў незнаёмы мужчына, стаў крычаць, што я вінен яму грошы, і ўчыніў бойку. Я ўпэўнены, што гэта правакацыя», — распавёў грамадскі актывіст. У інцыдэнт тут жа ўмяшаліся міліцыянты і людзі ў цывільным, якіх шмат знаходзілася каля летняга амфітэатра (распачынаўся «Славянскі базар»). Для тлумачэнняў здарэння Б. Хамайду адвезлі ў Чыгуначны РАУС Віцебска. Аднак у пастарунку міліцыянт у цывільным засведчыў, што распаўсюднік прэсы першым парушыў грамадскі парадак. У рапарце было запісана, што 60-гадовы грамадскі актывіст нібыта нецэнзурна выказваўся на адрас беспрацоўнага 1971 года нараджэння. Апошняга адпусцілі, а суд падтрымаў пазіцыю сведкі-міліцыянта і прысудзіў Б. Хамайду трое сутак арышту.

**14 ліпеня** як найменей да двух журналістаў, што асвятлялі вулічную акцыю пратэсту ў Мінску, міліцыянты ўжылі фізічную сілу. У раёне Кастрычніцкай плошчы

супрацоўнік АМАП выбіў з рук сябры ГА «БАЖ» **Наталлі Радзінай** фотакамеру, калі яна здымала грубыя дзеянні міліцыі ў дачыненні да дэманстрантаў. Не дазвалялі выйсці за ачапленне АМАП сябру ГА «БАЖ» **Юрыю Пацёмкіну**, які таксама працаваў на мерапрыемстве з фотаапаратам.

Нагадаем, што 14 ліпеня ў Мінску прайшла акцыя салідарнасці з затрыманымі актывістамі апазіцыі па справе аб начным выбуху з 3 на 4 ліпеня.

**14 ліпеня** стала вядома, што незалежнага клецкага журналіста, сябра ГА «БАЖ», выдаўца маланакладнага недзяржаўнага бюлетэня **«Бойкий Клецк» Сяргея Панамарова** не дапусцілі на сустрэчу чыноўнікаў з прадпрымальнікамі, якая ладзілася ў мясцовым райвыканкаме. Ахоўнікі з выкарыстаннем сілы выпхнулі Сяргея Панамарова з будынка. У выніку грубых дзеянняў міліцыянта журналіст ударыўся аб сцяну і разбіў да крыві твар.

**11 верасня** віцебскі грамадскі распаўсюднік недзяржаўных выданняў **Барыс Хамайда** паведаміў, што ў яго скралі некалькі соцень асобнікаў незалежных газет «Народная Воля», «Наша Ніва» і «Курьер из Витебска», пяць часопісаў «Arche» і пяць зборнікаў Уладзіміра Падгола — «цытатнікаў» А. Лукашэнкі. На думку распаўсюдніка, гэты рабунак невыпадковы, звязаны з выбарчай кампаніяй, бо ў незалежнай прэсе, якую распаўсюджвае Б. Хамайда, апошнім часам з’явілася шмат артыкулаў пра апазіцыйных кандыдатаў.

**28 верасня** ў Віцебску адбыўся хуліганскі напад на рэдактара маланакладнага недзяржаўнага выдання **«Курьер из Витебска» Уладзіміра Базана**. Увечары ён разам з жонкай вяртаўся дахаты з выбарчага ўчастка № 34 Кастрычніцкай выбарчай акругі № 20, на якім вёў назіранне за выбарамі. У двары яго дома да яго падскочыў невядомы чалавек, раздушыў памідор у яго на галаве і ўдарыў аб сцяну, падрапаўшы журналісту твар. Нагадаем: цягам апошніх гадоў У. Базан, які раней рэдагаваў недзяржаўную газету «Витебский курьер М», неаднаразова атрымліваў лісты з пагрозамі ад віцебскага аддзялення незарэгістраванай радыкальнай арганізацыі «Русское национальное единство» (РНЕ).

**8 снежня** ў памяшканні суда Цэнтральнага раёна Мінска перад пачаткам працэсу над грамадскім актывістам Аляксандрам Баразенкам здарыўся інцыдэнт паміж карэспандэнтам **Радыё «Свабода» Алегам Груздзіловічам** і сакратаром Мінскага гарадскога камітэта Камуністычнай партыі Беларусі, галоўным спецыялістам Цэнтральнага РК БРСМ **Уладзімірам Цюхаем**. Па словах журналіста, той напаў на яго і ледзь не зламаў лічбавую фотакамеру.

# Парушэнне прафесійнай самастойнасці рэдакцый. Цэнзура

**У 2008 годзе найбольш яскравыя выпадкі цэнзуры (альбо спробаў цэнзуравання) былі зафіксаваныя ў сферы Інтэрнет. Найперш гаворка ішла пра блакаванне шэрагу грамадска-палітычных сайтаў, а таксама пра агучаныя прадстаўнікамі дзяржавы намеры фільтраваць «непажаданую» інфармацыю ў Інтэрнеце.**

**10 студзеня** ў Беларусі перасталі адчыняцца (альбо сталі адчыняцца вельмі марудна) некалькі інтэрнэт-сайтаў, якія найбольш актыўна асвятляюць падзеі ў грамадска-палітычным жыцці краіны. Сярод іх — **«Хартыя'97», Радыё «Свабода», «Белорусский партизан», ucpb.org.** Увечары 10 студзеня доступ да сайтаў аднавіўся. Супрацоўнікі гэтых рэсурсаў назвалі ў якасці найбольш верагоднай прычыны вулічную акцыю пратэсту прадпрымальнікаў, якая адбывалася ў Мінску ў той дзень. Некаторыя прадстаўнікі згаданых рэсурсаў выказалі падазрэнне, што ўскладнены доступ да сайтаў справакаваў беларускі правайдэр-манапаліст — **РУП «Белтэлекам»**. Аднак супрацоўніца групы па інфармацыі і камунікацыі «Белтэлекам» **Марыя Сталярова** заявіла БелаПАН, што кампанія не мае дачынення да блакавання сайтаў. Яна заявіла, што ў названых сайтаў могуць быць праблемы з хостынгам.

У сакавіку праблемы з доступам да сайтаў паўтарыліся. Яны пачаліся з **25 сакавіка** — дня правядзення масавай вулічнай акцыі «Чарнобыльскі шлях» — і доўжыліся некалькі дзён. Шэраг інтэрнет-сайтаў — у прыватнасці, **Радыё «Свабода»**, **«Хартыя'97»** і **«Белорусский партизан»** — заявілі, што супраць іх былі ўчыненыя хакерскія атакі. Сайты здолелі аднавіць працу толькі праз 2−3 дні.

**У канцы студзеня** з сайта недзяржаўнай рэгіянальнай светлагорскай газеты **«Ранак-плюс»** знялі артыкул пра арышт мясцовага актывіста прадпрымальніцкага руху.

23 студзеня ў газеце «Ранак-плюс» (заснавальнік — ТДА «Ранак -плюс») быў апублікаваны артыкул **Аляксандра Сівака** «Асуджаны за ўдзел у мітынгу». У публікацыі распавядалася пра судовы працэс над светлагорскім індывідуальным прадпрымальнікам **Анатолем Змітровічам**, якога арыштавалі за ўдзел у вулічнай акцыі ў Мінску 10 студзеня. Артыкул быў размешчаны і на сайце газеты разам з фотаздымкам, дзе было бачна, як людзі прыйшлі да будынка Светлагорскага раённага суда выказаць салідарнасць з А. Змітровічам. Публікацыя пратрымалася на сайце толькі два дні, пасля чаго знікла. Па звестках ГА «БАЖ», рашэнне зняць артыкул з сайта «Ранак-плюс» прымалася на ўзроўні першых асобаў раённай адміністрацыі. Інтэрнэт-рэсурс Bulletinonline згадвае ў звязку з гэтым імя намесніка старшыні выканкама па ідэалогіі **Сяргея Мяркулава**.

**26 лютага** з 14.00 да 18.00 у Гомелі была адключана трансляцыя так званага «сацыяльнага пакета тэлеканалаў», а таксама кабельнага тэлебачання. Зроблена гэта было без папярэджання, хаця звычайна абвесткі пра змены ў вяшчальнай сетцы падаюцца на бягучай стужцы тэлеканала **«Нірэя»** — адзінага тэлеканала, перадачы якога робяцца непасрэдна ў Гомелі, без умяшання ў сетку яго вяшчання з Мінска. Начальнік антэннага ўчастка прадпрыемства «Гарант», якое ажыццяўляе кабельнае тэлевяшчанне на тэрыторыі Гомеля, патлумачыў інцыдэнт «аварыйнай сітуацыяй» — адключэннем святла. Між тым, на працягу ўсяго дня 26 лютага святло ў

кватэрах было, усе прыстасаванні, што сілкуюцца ад электрасеткі, працавалі без перапынку. Мясцовыя журналісты звязалі адключэнне з часовым вызваленнем **Аляксандра Казуліна**, якога адпусцілі на пахаванне жонкі Ірыны. Яны палічылі, што ўлады апасаліся з'яўлення ў выпусках навінаў небеларускіх тэлеканалаў рэпартажаў на гэтую тэму.

**24 сакавіка** супрацоўнікі ДАІ ў Бабруйску знішчылі фотаздымкі, зробленыя пазаштатным карэспандэнтам недзяржаўнай газеты **«Бобруйский курьер»** на месцы аўтамабільнай аварыі. У гэты дзень у горадзе адбылося дарожна-транспартнае здарэнне, якое атрымала вялікі розгалас: у ДТЗ загінуў 45-гадовы дырэктар завода звышвагагабарытных шын ААТ «Белшына» **Яўген Хвалько**. Пазаштатная карэспандэнтка газеты **«Бобруйский курьер» Л.** па заданні рэдакцыі выехала на месца здарэння і зрабіла некалькі здымкаў разбітага ў аварыі асабістага аўтамабіля дырэктара. Да яе падышлі супрацоўнікі мясцовага ДАІ і, даведаўшыся, што здымкі вядуцца для газеты, знішчылі знятыя кадры. «У адпаведнасці з арт. 39 журналістка мела поўнае права рабіць фотаздымкі на месцы здарэння, — пракаментаваў гэты выпадак намеснік старшыні БАЖ **Андрэй Бастунец**. — Натуральна, публікацыя здымкаў з месца аварыі павінна праводзіцца з улікам патрабаванняў этыкі, але рабіць гэтыя здымкі журналіст мае поўнае права», — падкрэсліў А. Бастунец.

**25 сакавіка** ў Мінску падчас вулічнай акцыі з нагоды Дня волі беларускія міліцыянты забралі ў здымачнай групы літоўскага тэлебачання (**LRT**) зняты імі на акцыі відэаматэрыял. Карэспандэнтку **Руту Рыбачаўскене** і тэлеаператара **Ёнаса Грышконіса** затрымалі ў цэнтры Мінска і прывезлі ў будынак Цэнтральнага РУУС, дзе забралі ў іх касету і адпусцілі.

**26 сакавіка** МЗС Літвы запатрабавала ад Беларусі тлумачэнняў адносна гэтага інцыдэнту. У міністэрства быў выкліканы беларускі пасол **Уладзімір Дражын**, якому была ўручана нота з просьбай правесці дэталёвае расследаванне здарэння і вярнуць канфіскаваны відэаматэрыял. Тым не менш на працягу 2008 года касету літоўскім журналістам так і не вярнулі.

**16 траўня** стала вядома, што ў належны тэрмін не прыйшоў да чытачоў чарговы нумар незалежнай газеты **«Борисовские новости»**. Кіраўніцтва друкарні (якую галоўны рэдактар выдання **Анатоль Букас** не пажадаў назваць) заўважыла ў нумары артыкул пра малодшага сына Аляксандра Лукашэнкі — «Третий сын Лукашенко» — і запатрабавала зняць матэрыял з паласы. Рэдактар выдання Анатоль Букас даслаў новы артыкул на гэтае месца, але ў выніку замены быў ссунуты графік выхаду. З прычыны парушэння дамоўленасцяў па тэрмінах кіраўніцтва рэдакцыі адмовілася плаціць за наклад, і ён быў знішчаны. Пазней нумар з артыкулам «Третий сын Лукашенко» быў выпушчаны ў друкарні «Плутос-Маркет».

У травеньскім нумары **часопіса** «Беларуская думка» **былі апублікаваныя матэрыялы «круглага стала» з удзелам першай намесніцы міністра інфармацыі Беларусі** Лілііі Ананіч **і дырэктара інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры Адміністрацыі прэзідэнта** Алега Праляскоўскага**.**

**У прыватнасці, Л. Ананіч выказала занепакоенасць праблемай «патокаў дэзінфармацыі з замежных сайтаў», якія, па яе меркаванні, «робяць дэструктыўны ўплыў на сітуацыю ў Беларусі». «Але ёсць досвед Кітая, які перакрыў доступ да такіх сайтаў на сваёй тэрыторыі», — выказалася Л. Ананіч.**

А. Праляскоўскі закрануў пытанне ўзмацнення адказнасці за «супрацьпраўную інфармацыю ў Інтэрнэце». «У плане арганізацыйных захадаў неабходна весці гаворку пра так званую кантэнтную фільтрацыю. То бок пра праграмны сродак, з дапамогай якога карыстальнікі альбо адміністратары лакальных сетак маглі б блакаваць доступ з падкантрольных ім камп’ютэраў да сайтаў, на якіх утрымліваецца інфармацыя, што ўступае ў канфлікт з дзейным заканадаўствам альбо супярэчыць нормам грамадскай маралі», — зазначыў А. Праляскоўскі.

**3 траўня** намеснік старшыні Мінгарвыканкама **Міхаіл Ціцянкоў** выдаў распараджэнне сталічнаму аператару эфірна-кабельнага тэлебачання «**Космос ТВ»** і яшчэ некалькім аператарам у тэрміновым парадку спыніць трансляцыю расійскіх тэлеканалаў — **«24 ДОК**», **«НСТ»** і **«Феникс АРТ»**. Ва ўпраўленні ідэалагічнай работы Мінгарвыканкама карэспандэнтцы газеты **«Салідарнасць»** заявілі, што ў іх ёсць на тое аб’ектыўныя прычыны, заснаваныя на службовай інфармацыі. Як паведаміў БелаПАН, адной з магчымых нагодаў для забароны стала дэманстрацыя на тэлеканале «24 ДОК» фільма **Юрыя Хашчавацкага** «Звычайны прэзідэнт». З прычыны тэхнічнай памылкі гэты фільм выпадкова паказалі і на гумарыстычным канале «НСТ», які мае даволі вялікую аўдыторыю гледачоў у Мінску.

**18 кастрычніка** праграма расійскага **«Первого канала» «Прожекторперисхилтон»**, якую рэтрансляваў беларускі тэлеканал **«ОНТ»**, выйшла ў эфір у скарочаным варыянце. Некалькі хвілін гумарыстычнай перадачы, на працягу якіх вядоўцы жартавалі пра прэзідэнта **Аляксандра Лукашэнку**, былі выразаныя. (Абмяркоўваліся рашэнне Еўразвяза адмяніць візавыя абмежаванні для А. Лукашэнкі на бліжэйшыя паўгода і мерапрыемствы, якія ён зможа наведаць цяпер у Еўропе.)

Беларускі тэлеканал «**ОНТ»** трансляваў перадачу на гадзіну пазней, чым яна выйшла ў расійскі эфір. «У сваёй працы мы кіруемся законам, у тым ліку і Крымінальным кодэксам, у якім прадугледжана адказнасць за публічную знявагу гонару і годнасці прэзідэнта рэспублікі. І калі мы лічым, што нейкі жарт падпадае пад гэты артыкул КК, мы прымаем рашэнне не выпускаць яго ў эфір», — патлумачылі супрацоўнікі прэс-службы «ОНТ» газеце **«Комсомольская правда» в Белоруссии»**.

# Парушэнні, звязаныя з доступам да інфармацыі (адмовы ў прадстаўленні інфармацыі, абмежавальнае выкарыстанне інстытута акрэдытацыі)

**У 2008 годзе журналісты недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі працавалі ва ўмовах абмежавання доступу да інфармацыі. Дзяржаўныя органы, арганізацыі і прадпрыемствы адмаўляліся даваць незалежным журналістам не толькі «гарачую» і «скандальную», але і штодзённую інфармацыю, статыстыку.**

**9 студзеня** карэспандэнта недзяржаўнай газеты **«Ганцавіцкі час» Ірыну Дамарацкую** не пусцілі на цырымонію ўзнагароджання лепшых вучняў і настаўнікаў раёна, якая прайшла ў гарадскім Доме культуры. Пры з'яўленні журналісткі супрацоўніца раённага аддзела адукацыі зачыніла дзверы ў залу і заявіла, што мерапрыемства закрытае. Назваць сябе яна адмовілася.

**24 студзеня** загадчыка аддзела інфармацыі недзяржаўнай грамадска-палітычнай газеты **«Борисовские новости» Анатоля Мазгова** ідэолагі не пусцілі на сумеснае пашыранае пасяджэнне Барысаўскага райвыканкама і раённага Савета дэпутатаў. 25 студзеня карэспандэнта выдання Алену Брыцкую не пусцілі на абласны бацькоўскі сход, які праходзіў у Палацы культуры Барысава.

**1 лютага** Ганцавіцкі раённы Савет дэпутатаў і Ганцавіцкі раённы выканаўчы камітэт адмовілі ў акрэдытацыі журналістам недзяржаўнай газеты **«Ганцавіцкі час»**. Карэспандэнты **Ірына Дамарацкая** і **Святлана Малышка** звярнуліся ў органы мясцовай улады 17 студзеня. Адказ журналісткі атрымалі праз 2 тыдні, у лісце за подпісам старшыні райвыканкама Уладзіміра Столяра без тлумачэння прычын паведамлялася, што ў акрэдытацыі адмоўлена.

**15 лютага** карэспандэнта газеты **«Intex-press» Руслана Гарбачова** не пусцілі на абласны семінар-нараду. Мерапрыемства, якое было прысвечана працы органаў мясцовага кіравання, праходзіла ў Баранавіцкім гарвыканкаме. Яго працу асвятлялі журналісты абласнога тэлебачання, абласных і раённых, пераважна дзяржаўных, газет. Начальнік аддзела ідэалагічнай працы Баранавіцкага гарвыканкама **Таццяна Жытко** паведаміла Гарбачову, што ён павінен пакінуць залу, бо не прайшоў акрэдытацыю ў аблвыканкаме.

**28 лютага** выканаўчы камітэт Нацыянальнага алімпійскага камітэта (НАК) пазбавіў акрэдытацыі на **Алімпіяду-2008 у Пекіне** спартыўную газету **«Прессбол»**. НАК лічыць, што многія публікацыі выдання маюць тэндэнцыйны характар і «ніяк не накіраваныя на прапаганду алімпійскіх ідэалаў». Галоўны рэдактар «Прессбола» **Уладзімір Беражкоў**, у сваю чаргу, «не бачыць ніводнай падставы» для гэткага заходу.

**3 красавіка** галоўны рэдактар газеты «Прессбол» Уладзімір Беражкоў заявіў, што Нацыянальны алімпійскі камітэт, куды спартовае выданне больш за месяц таму накіравала скаргі на пазбаўленне акрэдытацыі на Алімпійскіх гульнях у Пекіне, у адказ маўчыць. Гэта парушэнне правілаў дзелавой перапіскі і заканадаўства, лічыць Беражкоў.

**3 сакавіка** стала вядома, што карэспандэнта газеты **«Нясвіжскі час» Наталлю Ярмошанка** намагалася выгнаць з вучнёўскай алімпіяды, якая праводзілася ў гарадскім Доме культуры з удзелам кіраўніцтва ДАІ Мінскага аблвыканкама, намесніца

загадчыка раённага аддзела адукацыі **Яна Клішэвіч**. Чыноўніца спасылалася на тое, што ў журналісткі няма акрэдытацыі.

**24 сакавіка** супрацоўнікі ДАІ знішчылі фотаздымкі, зробленыя пазаштатным карэспандэнтам недзяржаўнай газеты **«Бобруйский курьер»**. Журналістка рабіла здымкі на месцы аўтамабільнай аварыі, у выніку якой загінуў 45-гадовы дырэктар мясцовага завода звышвагагабарытных шын ААТ «Белшына» Яўген Хвалько.

**25 сакавіка** супрацоўнікі міліцыі затрымалі жыхарку Віцебска **Эльвіру Сафіуліну**, якая здымала на відэакамеру акцыю, прымеркаваную да Дня Волі. Яе пратрымалі дзве з паловай гадзіны ў пастарунку і знішчылі запіс на касеце.

**1 красавіка** фотакарэспандэнтку **«Нашай Нівы» Юлію Дарашкевіч** выдалілі з залы суда Цэнтральнага раёна Мінска, дзе на той момант пачынаўся разгляд справы моладзевага актывіста Андрэя Кіма. Рашэнне пра забарону фота- і відэаздымкаў прыняла суддзя **Алена Ільіна**.

**8 красавіка** газета **«Народная воля»** атрымала адмову ад Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу на сваю просьбу акрэдытаваць намесніцу рэдактара газеты **Марыну Коктыш**. Старшыня Пастаяннай камісіі па правах чалавека, нацыянальных дачыненнях і СМІ **Юры Кулакоўскі** прапанаваў рэдакцыі прадставіць іншую кандыдатуру. Аргументацыя: М. Коктыш адмоўлена ў допуску ў будынак Дома ўрада. Звестак пра тое, хто, калі і на якой падставе прыняў такое рашэнне, не падавалася. Журналістка заяўляе, што гэтая адмова незаконная, парушае яе правы, закон «Аб друку і іншых СМІ» і Правілы акрэдытацыі карэспандэнтаў СМІ пры ППНС.

**16 красавіка** намесніца рэдактара **«Народнай волі»** Марына Коктыш накіравала скаргу старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу **Вадзіму Папову** ў звязку з адмовай у акрэдытацыі пры гэтай структуры. У скарзе яна просіць старшыню ППНС даручыць камісіі адмяніць сваё рашэнне, у адваротным выпадку журналістка звернецца ў суд.

**6 чэрвеня** было агучана, што рэдакцыя недзяржаўнай газеты «Народная воля» і намесніца галоўнага рэдактара Марына Коктыш вырашылі прыцягнуць да судовай адказнасці за парушэнні закону «Аб друку» адразу ўсю Палату прадстаўнікоў НС РБ і Службу бяспекі прэзідэнта. Рэдакцыя ад імя журналісткі накіравала адпаведны пазоў у суд Маскоўскага раёна Мінска.

**16 чэрвеня** рэдакцыя газеты «Народная воля» і намесніца галоўнага рэдактара Марына Коктыш, якія спрабавалі прыцягнуць да судовай адказнасці Службу бяспекі прэзідэнта і Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу за адмову акрэдытаваць там журналістку, атрымалі з суда Маскоўскага раёна афіцыйныя адказы на свае скаргі. Суддзя В. А. Гусакова адмовіла ім у гэтым праве.

**17 ліпеня** калегія Мінскага гарадскога суда адхіліла скаргу намесніцы рэдактара «Народнай волі» Марыны Коктыш на «вызначэнне» суда Маскоўскага раёна, які ў чэрвені адмовіў журналістцы ў праве судзіцца з Палатай прадстаўнікоў НС РБ за адмову ў акрэдытацыі.

**22 красавіка** журналістаў недзяржаўных медыяў выдалілі з залы суда Маскоўскага раёна Мінска, дзе ішоў суд над лідэрам віцебскіх прадпрымальнікаў Сяргеем Парсюкевічам. Суддзя спачатку за «неаднаразовыя парушэнні» выдаліў з залы палітычнага аглядальніка тыднёвіка **«Белорусы и рынок» Генадзя Барбарыча**, а праз

10 хвілін загадаў выйсці карэспандэнту **Радыё «Свабода» Алегу Груздзіловічу** — за тое, што ён рабіў аўдыёзапіс.

Юрысты Цэнтра прававой абароны СМІ пры БАЖ звяртаюць увагу, што дзеянні суддзі парушаюць правы журналістаў, прадугледжаныя Крымінальна-працэсуальным Кодэксам РБ («Прысутныя на адкрытым судовым пасяджэнні маюць права весці пісьмовыя і магнітафонныя запісы»).

**9 траўня** рэдактару недзяржаўнай газеты **«Чэрыкаўскія навіны» Мікалаю Царкову** і фотакарэспандэнту **Сямёну Панізоўцаву** супрацоўнікі міліцыі забаранілі здымаць удзельнікаў мітынгу да Дня Перамогі. Маёр аргументаваў гэта тым, што журналісты нібыта перашкаджаюць правядзенню мерапрыемства. Міліцыянты пакінулі рэпарцёраў у спакоі, толькі калі Мікалай Царкоў патлумачыў, што ён не толькі журналіст, сябра БАЖ, але таксама з’яўляецца ўдзельнікам вайны і таму «мае права знаходзіцца на мітынгу і фатаграфаваць».

**14 траўня** журналістам недзяржаўнай газеты **«Ганцавіцкі час»** адмовілі ў акрэдытацыі ў Ганцавіцкім раённым савеце. Раней гэта ж зрабіў прэзідыум мясцовага райсавета, зараз — Брэсцкі абласны савет дэпутатаў. Старшыня аблсавета сцвярджаў, што «дзяржаўны орган не абавязаны даваць акрэдытацыю журналістам».

**15 траўня** ў суд горада Салігорска, дзе праходзіла слуханне па справе лідэра Руху «За Свабоду» Аляксандра Мілінкевіча, не пусцілі прадстаўнікоў сродкаў масавай інфармацыі без тлумачэння прычын адмовы. Тым часам палітыка, якога затрымалі пасля сустрэчы з мясцовымі жыхарамі на гарадскім рынку, прызналі вінаватым у парушэнні арт. 23.34 КаАП і аштрафавалі на 20 базавых велічынь.

**17 траўня** стала вядома, што Брэсцкі аблвыканкам не ўгледзеў парушэнняў у дзеяннях кіраўніцтва Лунінецкага райвыканкама, які адмовіўся акрэдытаваць карэспандэнта недзяржаўнай газеты **«Информ-прогулка»** (г. Лунінец). «Закон не прадугледжвае абавязку дзяржаўнага органа адносна акрэдытацыі, што дае права Лунінецкаму райвыканкаму вызначаць для асвятлення сваёй дзейнасці СМІ», — гаворыцца ў лісце за подпісам намесніка старшыні аблвыканкама **Леаніда Цупрыка**.

Нагадаем, арт. 42 закона «Аб друку і іншых СМІ» вызначае, што рэдакцыі маюць права на акрэдытацыю сваіх карэспандэнтаў пры дзяржаўных органах, арганізацыях, установах. Згаданы артыкул не прадугледжвае права дзяржоргана адмаўляць у акрэдытацыі.

**28 траўня** журналісту **Аляксею Мінчонку** афіцыйна адмовілі ў акрэдытацыі пры беларускім Міністэрстве замежных спраў у якасці карэспандэнта **«Радыё Рацыя»**. Такое рашэнне грунтуецца на тым, што ён «раней займаўся журналісцкай дзейнасцю на карысць замежнага СМІ без акрэдытацыі пры МЗС». Карэспандэнт сам прыняў рашэнне накіраваць дакументы на акрэдытацыю пасляператрусаў, якія адбыліся напрыканцы сакавіка. З асуджэннем рашэння МЗС Беларусі выступіла 30 траўня міжнародная арганізацыя «Рэпарцёры без межаў».

**18 чэрвеня** ўласны карэспандэнт газеты **«Информ-прогулка»** (г. Лунінец, Брэсцкая вобл.) **Галіна Самуйлік** не была дапушчаная на сесію Мікашэвіцкага гарадскога Савета дэпутатаў. Як паведаміла рэдактарка выдання Святлана Гарда, дагэтуль перашкод у працы карэспандэнту «ИП» у суседніх Мікашэвічах не ств455аралася. Па словах журналісткі, распараджэнне не дапускаць недзяржаўныя СМІ на афіцыйныя мерапрыемствы аддаў намеснік старшыні Лунінецкага райвыканкама **Віктар**

**Рафаловіч**. Адзначым, што Галіна Самуйлік была акрэдытаваная пры Мікашэвіцкім гарвыканкаме з 2003 года.

**19 чэрвеня** каля 20 журналістаў не змаглі трапіць на судовыя слуханні па крымінальнай справе ў дачыненні да супрацоўнікаў ДАІ, якія ў сакавіку г. г. стварылі **«жывы шчыт»** на трасе Мінск — Мікашэвічы. Слуханні праходзілі ў судзе Мінскага раёна і г. Заслаўля. Туды змаглі трапіць толькі 3–4 журналісты. Астатніх міліцыя спыніла на ўваходзе, спаслаўшыся на перапоўненасць залы. У першы дзень працэсу на вуліцы засталіся карэспандэнты беларускіх і замежных, дзяржаўных і недзяржаўных медыяў — у тым ліку тэлерадыёкампаніі **«Мир»**, тэлеканала **СТВ**, газеты **«Автобизнес»**, інтэрнет-рэсурса **«Салідарнасць»**, фотакарэспандэнты **«Нашай Нівы»**, **«Комсомольской правды» в Белоруссии»**, **«БелГазеты»**.

**7 ліпеня** стала вядома, што журналістам недзяржаўнай газеты **«Бобруйский курьер»** адмовілі ў акрэдытацыі на прэс-канферэнцыю ізраільскіх дыпламатаў, якая ладзілася ў межах святкавання 500-годдзя яўрэйскай суполкі Бабруйска і 60-годдзя незалежнасці Ізраіля. Кіраўніцтва суполкі спачатку прапанавала рэдакцыі асвятляць мерапрыемства, але напярэдадні яго без тлумачэння прычын адмовіла ў акрэдытацыі.

**14 ліпеня** стала вядома, што незалежнага клецкага журналіста, сябра ГА «БАЖ», выдаўца маланакладнага недзяржаўнага бюлетэня **«Бойкий Клецк» Сяргея Панамарова** не дапусцілі на сустрэчу чыноўнікаў з прадпрымальнікамі, якая ладзілася ў мясцовым райвыканкаме. Ахоўнікі з выкарыстаннем сілы выпхнулі Сяргея Панамарова з будынка. У выніку грубых дзеянняў міліцыянта журналіст ударыўся аб сцяну і разбіў да крыві твар.

**15 ліпеня** кіраўнік карэспандэнцкага пункта недзяржаўнага выдання **«Нясвіжскі час» Ігар Еўтух** звярнуўся ў ваенны камісарыят з просьбай расказаць для выдання пра вынікі прызыўной кампаніі ў рэгіёне. Але намеснік ваеннага камісара Нясвіжскага ваенкамата **Андрэй Марозаў** адмовіўся адказаць на пытанні журналіста, матывуючы гэта адсутнасцю ў таго акрэдытацыі. Разам з тым, А. Марозаў не змог патлумачыць, якая менавіта акрэдытацыя патрэбная ў такім выпадку журналісту.

**6 жніўня** карэспандэнт рэгіянальнай недзяржаўнай газеты **«Бобруйский курьер» Людміла Любімцава** паведаміла, што некалькі разоў звярталася ў гарадскі занальны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі, каб атрымаць інфармацыю наконт забароны на купанне ў мясцовых вадаёмах. 24 ліпеня яна даслала супрацоўнікам цэнтра спіс сваіх пытанняў. Аднак, патэлефанаваўшы ў прызначаны дзень, журналістка атрымала катэгарычную адмову ў прадстаўленні «Бобруйскому курьеру» інфармацыі. Гэта матывавалі тым, што медустанова супрацоўнічае толькі з дзяржаўнымі выданнямі. Па ўсіх пытаннях Л. Любімцавай прапанавалі звяртацца ў аддзел ідэалагічнай працы Бабруйскага гарвыканкама.

**8 жніўня** быў затрыманы фотакарэспандэнт недзяржаўнага тыднёвіка **«БелГазета» Вадзім Заміроўскі**, які рабіў здымкі непадалёк ад Дома ўрада на плошчы Незалежнасці ў Мінску. Паводле слоў фотакарэспандэнта, супрацоўнікі службы бяспекі, спаслаўшыся на нейкую інструкцыю, прымусілі яго выдаліць з камеры зробленыя фотаздымкі. Пасля гэтага журналіста адпусцілі без складання пратакола затрымання.

**20 жніўня** начальнік аддзела ідэалогіі Ганцавіцкага райвыканкама Лідзія Занько адмовілася размаўляць з намеснікам галоўнага рэдактара незалежнага тыднёвіка **«Ганцавіцкі час» Пятром Гузаеўскім**. Нават не выслухаўшы пытання журналіста, яна

адразу параіла скласці пісьмовы запыт. Журналісту была патрэбна інфармацыя аб выніках фармавання ўчастковых камісій па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў.

**3 верасня** кіраўніца аддзела ідэалогіі Наваполацкага гарвыканкама Святлана Туранок адмовіла карэспандэнту мясцовага інтэрнет-праекта **Ximik.info** Аляксандру Муждабаеву ў афіцыйнай акрэдытацыі на святкаванні 50-годдзя Наваполацка. «Гэтая адмова — проста праява фармалізму і традыцыйнага стаўлення спадарыні Туранок да «Химика» — недзяржаўнай газеты, якая калісьці выходзіла ў Наваполацку, а зараз інтэрнет-сайта, што паўстаў пасля яе закрыцця», — лічыць кіраўнік праекта Андрэй Аляксандраў.

Нагадаем, што газета спыніла выхад у ліпені 2006 года з прычыны цяжкага фінансавага становішча, якое стала наступствам выключэння выдання з падпіснога каталога і скасавання дамовы на распаўсюд прадпрыемствам «Віцебскаблсаюздрук».

**23 верасня** фотакарэспандэнту недзяржаўнай газеты **«Народная воля» Юрыю Дзядзінкіну** не дазволілі рабіць фотаздымкі на Мінскім выбарчым участку № 398, дзе пачалося датэрміновае галасаванне. Журналіст прыйшоў туды, маючы пры сабе рэдакцыйнае пасведчанне. Аднак сябры ўчастковай камісіі не дазволілі яму працаваць, спаслаўшыся на забарону старшыні камісіі Эльмана Хасіева.

**27 кастрычніка** прадстаўнікі бабруйскага Палаца мастацтваў, дзе выступаў кітайскі цырк, пераблыталі карэспандэнта газеты гарвыканкама «Бабруйскае жыццё», які вырашыў напісаць рэпартаж, з рэпарцёрам недзяржаўнага выдання **«Бобруйский курьер»**. На ўваходзе ў залу журналіста нечакана спынілі, патлумачыўшы, што з аддзела ідэалагічнай працы «толькі што» паступіў загад не пускаць на культурніцкія мерапрыемствы супрацоўнікаў «Бобруйского курьера». Як толькі памылка высветлілася, журналіст дзяржаўнай газеты бесперашкодна трапіў у залу.

**13 лістапада** стала вядома, што на міжнародны кінафестываль «Лістапад», які штогод ладзіцца ў Мінску, не акрэдытавалі журналістаў з беларускіх недзяржаўных выданняў. Па некаторых звестках, распараджэнне выдаваць акрэдытацыйныя карткі толькі прадстаўнікам дзяржаўных медыяў паступіла з Адміністрацыі прэзідэнта. Нагадаем, што ў 2007 годзе журналістаў з недзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі таксама пазбавілі акрэдытацыі.

# Канфлікты, звязаныя з атрыманнем і распаўсюдам замежнай інфармацыі ці дзейнасцю замежных СМІ

**Напрыканцы сакавіка 2008 года супрацоўнікі КДБ правялі масавыяператрусы на кватэрах журналістаў і ў некаторых офісах недзяржаўных аб'яднанняў і палітычных партый. Гэтая акцыя адначасовых ператрусаў па ўсёй краіне стала своеасаблівым беларускім ноў-хаў у барацьбе з журналістамі, якія, на думку МЗС РБ, працавалі на замежныя СМІ без акрэдытацыі. Ператрусы закранулі больш як 25 беларускіх журналістаў. Трэба заўважыць, што Рэспубліка Беларусь ратыфікавала Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах, арт. 19 якога гарантуе кожнаму права атрымліваць і распаўсюджваць інфармацыю і ідэі незалежна ад дзяржаўных межаў.**

**12 студзеня** ў Гомелі ў кватэры сябра ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» Сяргея Падсасоннага супрацоўнікі рэгіянальнай управы КДБ правялі ператрус. У санкцыі на ператрус сцвярджалася, што С. Падсасоннага падазраюць ва ўдзеле ў незарэгістраванай арганізацыі «Малады фронт» і ўцягванні ў яе дзейнасць вучняў і студэнтаў з мэтай дыскрэдытацыі краіны. Супрацоўнікі УКДБ забралі ў Сяргея Падсасоннага жорсткі дыск з камп'ютэра, відэакамеру і флэш-карту. Нагадаем: 23 лістапада мінулага года супрацоўнікі УКДБ, якія адмовіліся назваць сябе, сілаю забралі Сяргея Падсасоннага ва ўпраўленне на так званую «гутарку». Яны цікавіліся, ці мае ён дачыненне да спадарожнікавага тэлеканала «Белсат».

**12 студзеня** пасля запісу інтэрв'ю з вядомым эканамістам Паўлам Данейкам былі затрыманыя журналіст Уладзімір Самойлаў, яго жонка рэжысёр Галіна Самойлава і тэлеаператар Валерый Булдык. Іх адвялі ў апорны пункт Цэнтральнага РУУС, дзе цягам амаль трох гадзін спрабавалі высветліць, для якога тэлеканала вялася здымка.

**25 сакавіка** ў Мінску падчас вулічнай акцыі была затрыманая здымачная група літоўскага тэлебачання (**LRT**) — карэспандэнтка **Рута Рыбачэўскіне** і тэлеаператар Ёнас **Грышконіс**. Іх прывезлі ў будынак Цэнтральнага РУУС, дзе міліцыянты ўдакладнілі іх асобы, пасля чаго забралі касету са знятым на акцыі матэрыялам і адпусцілі. **26 сакавіка** МЗС Літвы запатрабавала ад Беларусі тлумачэнняў наконт інцыдэнту з літоўскімі журналістаміа. У міністэрства быў выкліканы беларускі пасол **Уладзімір Дражын**, якому была ўручаная нота з просьбай правесці дэталёвае расследаванне здарэння і вярнуць канфіскаваны відэаматэрыял.

**25 красавіка** кіраўніцтва Літоўскай нацыянальнай тэлерадыёкампаніі паўторна накіравала ліст на імя беларускага пасла ў Літве Уладзіміра Дражына з патрабаваннем вярнуць забраную ў рэпарцёраў відэакасету і кампенсаваць выдаткі на рамонт зламанай відэакамеры. Яно лічыць, што вусных прабачэнняў дыпламата недастаткова, каб вычарпаць інцыдэнт з затрыманнем здымачнай групы LRT.

Раніцай **27 сакавіка** практычна адначасова прайшлі ператрусы ў Мінску, Гродне, Магілёве, Бабруйску (Магілёўская вобласць), Гомелі, Віцебску, Наваполацке (Віцебская вобласць), Брэсце, Бярозе, Баранавічах, Пінске (Брэсцкая вобласць). А **28 сакавіка** — у Асіповічах і Горках (Магілёўская вобласць). Ператрусы закранулі журналістаў, якія, па некаторых дадзеных, супрацоўнічалі з тэлеканалам **«Белсат»**, **«Радыё Рацыя»**, **«Еўрапейскім радыё для Беларусі»**, а таксама гарадзенскія офісы ГА «Бацькаўшчына» і Партыі БНФ. Падчас ператрусаў у журналістаў забіралі аргтэхніку, аўдыё- і відэазапісы, дакументы, кнігі.

Ператрусы праводзіліся па даручэнні намесніка пракурора г. Мінска **Аляксея Стука**, якое ён даў першаму намесніку старшыні КДБ па контрвыведвальнай дзейнасці генерал-маёру **Вегеры В. П.** У пастановах на правядзенне ператрусаў у якасці прычыны называлася справа аб паклёпе на Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь (ч. 1 арт. 367 Крымінальнага кодэкса), якая была ўзбуджаная ў 2005 годзе ў сувязі са з'яўленнем у Інтэрнэце сатырычнай флэш-анімацыі. Фігуранты гэтай справы знаходзяцца за мяжою і ніякім чынам не былі звязаныя з журналістамі, у якіх праводзіліся ператрусы.

Кіраўнік упраўлення інфармацыі Міністэрства замежных спраў **Марыя Ваньшына** назвала іншую прычыну ператрусаў. Па яе словах, асобы, у якіх праводзіліся ператрусы, працавалі на замежныя СМІ без акрэдытацыі.

У сувязі з ператрусамі і канфіскацыяй маёмасці журналістаў ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў» звярнулася ў Генеральную пракуратуру Рэспублікі Беларусь і пракуратуру г. Мінска, Камітэт дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь. У адказах гаварылася, што ніякіх парушэнняў пры ператрусах не было, а пытанне аб вяртанні маёмасці журналістам будзе вырашанае пасля яго вывучэння.

**12 чэрвеня** крымінальная справа па факце паклёпу на Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь была прыпыненая. Ніякіх абвінавачванняў нікому з журналістаў прад'яўлена не было. У верасні 2008 года КДБ пачаў вяртаць журналістам аргтэхніку і дакументы.

**13 траўня** ў пракуратуру г. Мінска быў выкліканы на допыт у якасці сведкі каардынатар тэлеканала **«Белсат»** у Беларусі, сябра Праўлення ГА «БАЖ» **Эдуард Мельнікаў**. Допыт тычыўся «справы аб мультфільмах», на падставе якой 27 і 28 сакавіка ў кватэрах журналістаў — у тым ліку і Э. Мельнікава — супрацоўнікі КДБ правялі ператрусы. Допыт, які вёў следчы па асабліва важных справах Віктар Шабан, доўжыўся каля 40 хвілін. «Мяне запыталі пра маю прыналежнасць да «Белсата». Я сказаў, што займаюся рэгістрацыяй прадстаўніцтва гэтага тэлеканала ў Беларусі і раблю гэта тут абсалютна афіцыйна. Да мультфільмаў я дачынення не маю, пра што і паведаміў следчаму», — зазначыў Э. Мельнікаў.

**28 траўня** журналісту **Аляксею Мінчонку** афіцыйна адмовілі ў акрэдытацыі пры беларускім Міністэрстве замежных спраў у якасці карэспандэнта **«Радыё Рацыя»**. Такое рашэнне грунтуецца на тым, што ён «раней займаўся журналісцкай дзейнасцю на карысць замежнага СМІ без акрэдытацыі пры МЗС». Карэспандэнт сам прыняў рашэнне накіраваць дакументы на акрэдытацыю пасля ператрусаў, якія адбыліся напрыканцы сакавіка. З асуджэннем рашэння МЗС Беларусі выступіла 30 траўня міжнародная арганізацыя «Рэпарцёры без межаў».

**28 чэрвеня** закончыўся 5-гадовы тэрмін забароны на ўезд у Беларусь журналісту **НТВ Паўлу Селіну**. Забарона была вынесеная за рэпартаж аб пахаванні вядомага на ўвесь свет беларускага пісьменніка Васіля Быкава. У 2003 годзе беларускае МЗС пазбавіла рэпарцёра акрэдытацыі, а Міністэрства ўнутраных спраў прыняло пастанову аб дэпартацыі Селіна і забароне ўезду на тэрыторыю краіны.

**30 чэрвеня** журналістку **Радыё «Свабода» Любоў Лунёву** аштрафавалі на 8 базавых велічынь (каля 280 тыс. рублёў) у зале суда Кастрычніцкага раёна Мінска. Яе абвінавацілі ў «непавазе да суда» за тое, што яна адказала на званок па мабільным тэлефоне. Рэпарцёр прысутнічала на слуханнях па адміністрацыйнай справе ў дачыненні да актывіста Аб'яднанай грамадзянскай партыі Міхаіла Пашкевіча. Журналістаў, як і іншых грамадзян, што жадалі прысутнічаць на працэсе, спачатку не

пускалі на слуханні. Толькі пасля таго, як прадстаўнікі СМІ паскардзіліся старшыні суда, людзей прапусцілі ў залу.

**11 ліпеня** журналістка **Ірына Туровіч** паведаміла калегам, што ёй патэлефанаваў невядомы, які назваўся супрацоўнікам КДБ Аляксандрам Караткевічам. Мужчына прапанаваў сустрэцца ў нефармальных абставінах. У выніку такая сустрэча адбылася ў мінскім парку Горкага. «Мне казалі: вы не робіце тое і тое, а мы вас за гэта не ўключаем у спісы невыязных і не перашкаджаем вам афіцыйна працаўладкавацца», — распавяла журналістка. Таксама яе распытвалі пра справы ў рэдакцыі **«Радыё Рацыя»**. (Ад 1 ліпеня І. Туровіч не працуе на радыё.)

# Эканамічны ціск, перашкоды друку і распаўсюду

**У 2008 годзе па-ранейшаму адбываўся эканамічны ціск на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі. Незалежным выданням чыніліся перашкоды як на ўзроўні друку, так і на ўзроўні распаўсюду гатовай прадукцыі. «Белсаюздрук» прыпыніў распаўсюд шэрагу недзяржаўных грамадска-палітычных выданняў з пачатку 2006 года (напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў). Тады ж адмовілася распаўсюджваць па падпісцы недзяржаўныя газеты прадпрыемства паштовай сувязі «Белпошта». З таго часу ўсе спробы незалежных выданняў вярнуцца ў дзяржаўную сістэму распаўсюду не мелі поспеху.**

**Па-ранейшаму беларускія выданні «Народная воля» і «Товарищ» вымушаныя былі друкавацца па-за межамі Беларусі з прычыны адмовы друкарняў выпускаць газеты на тэрыторыі краіны. У той жа час дзяржава выдаткавала з бюджэту 158 мільярдаў рублёў, ці 74 мільёна даляраў, на фінансаванне дзяржаўных СМІ.**

**Напрыканцы года «Народная воля» і «Наша Ніва» былі вернутыя ў дзяржаўныя сістэмы распаўсюду, і «Народная воля» атрымала магчымасць друкавацца ў Беларусі. Але на сітуацыю з астатнімі незалежнымі медыямі гэта не паўплывала.**

**3 студзеня** спыніў выхад недзяржаўны тыднёвік **«Музыкальная газета»**. «Прычыны, якія вымусілі нас перастаць друкаваць папяровую версію выдання, маюць эканамічны характар. «Белсаюздрук» прапанаваў іншыя ўмовы супрацоўніцтва, новую коштавую палітыку, якая нам была зусім нявыгадная. Таму мы сыходзім у Інтэрнет», — паведаміў галоўны рэдактар выдання **Алег Клімаў**.

**6 студзеня** стала вядома, што кіраўніца Нясвіжскага аддзялення «Мінскаблсаюздруку» Таццяна Навоша адмовілася працягнуць на 2008 год дамову на распаўсюд з выдаўцом газеты **«Нясвіжскі час»** — прыватным унітарным прадпрыемствам «ІнтэксПрэс-Рэгіён». «Нашыя ўзаемадачыненні былі скасаваныя без усялякіх тлумачэнняў — пасля пяці гадоў плённага супрацоўніцтва», — сказаў галоўны рэдактар недзяржаўнага выдання **Аляксей Белы**.

**28 студзеня** стала вядома, што рэдакцыя рэгіянальнай газеты «Нясвіжскі час» збірае подпісы чытачоў пад зваротам да кіраўніцы Нясвіжскага аддзялення «Мінскаблсаюздруку» **Таццяны Навошы** з просьбай працягнуць дамову на продаж газеты ў кіёсках прадпрыемства. У звароце гаворыцца аб парушэнні канстытуцыйных правоў грамадзян на атрыманне інфармацыі.

**14 сакавіка** стаў вядомы адказ дырэктара **«Мінаблсаюздруку» Аляксея Кудрэйкі** на калектыўны ліст больш за 50 чытачоў недзяржаўнай газеты **«Нясвіжскі час»**, якія звярнуліся да яго з просьбай аднавіць рэалізацыю выдання праз кіёскі «Саюздруку». Яны расцанілі знікненне газеты з сеткі распаўсюду як парушэнне канстытуцыйнага права на атрыманне інфармацыі. Аднак кіраўнік «Мінаблсаюздруку» адхіліў калектыўную просьбу жыхароў г. Нясвіжа і Нясвіжскага раёна, суцешыўшы іх тым, што ёсць шмат іншых газет.

**21 студзеня** суд Савецкага раёна аштрафаваў пенсіянерку **Святлану Данілаву** на 5 базавых велічыняў за распаўсюд незалежных выданняў. Жанчына з Барысава была

затрыманая 20 студзеня ў Мінску ў пераходзе каля Камароўскага рынку за распаўсюд газеты «Народная воля». У сумцы ў яе міліцыянты знайшлі таксама нумары выданняў «Товарищ», «Наш выбор», некалькі асобнікаў «Свабоды Беларусі» і «Наш час».

**30 студзеня** стала вядома, што **«Газета Слонімская»** атрымала папярэджанне ад Міністэрства інфармацыі. Недзяржаўнае рэгіянальнае выданне абвінавацілі ў парушэнні арт. 30 Закона «Аб друку і іншых СМІ» — у перавышэнні дазволеных аб'ёмаў рэкламнай плошчы (30% ад агульнага аб'ёму нумара). Галоўны рэдактар «ГС» Віктар Валадашчук лічыць папярэджанне неабгрунтаваным. **1 лютага** рэдакцыя «Газеты Слонімскай» накіравала на адрас Мініфармацыі ліст з просьбай адмяніць санкцыю.

**30 студзеня** РУП «Белпошта» ў чарговы раз прадэманстравала сваю пазіцыю ў дачыненні да недзяржаўных СМІ. У лісце гендырэктара ўстановы **Аляксандры Чарняк** дырэктару **ТАА «Выдавецкі дом «Інтэкс-прэс»** Уладзіміру Янукевічу паведамлялася, што «Белпошта» не абавязаная ўключаць недзяржаўныя друкаваныя выданні ў свае падпісныя каталогі, а ў выбары дзелавых партнёраў кіруецца **«эканамічнай мэтазгоднасцю»**. Гэты адказ быў падрыхтаваны па даручэнні Міністэрства сувязі і інфарматызацыі, куды сп. Янукевіч звяртаўся з просьбай паспрыяць аднаўленню падпіскі на газеты Выдавецкага дома.

**12 лютага** Горацкі райвыканкам не дазволіў партыйнаму актывісту **Эдуарду Брокараву** выдаваць газеты. Паводле пастановы, падпісанай старшынёю райвыканкама Міхаілам Анікеевым, у раёне выходзяць тры дзяржаўныя газеты, якія цалкам забяспечваюць насельніцтва інфармацыяй. Між тым палітык выдае газеты **«Узгорак»** і **«Горацкі выбар»**, а таксама рэдагуе газету абласной кааліцыі дэмакратычных сіл Магілёўшчыны **«Выбар»**.

**17 лютага** міліцыянты затрымалі актывіста руху «За свабоду» **Алега Гнятулю**, які раскідваў па паштовых скрынях у адным з дамоў у Мінску газету «Навіны Сухарава». У міліцыі яго пратрымалі каля дзвюх гадзін і склалі акт на канфіскацыю каля 380 асобнікаў **«Навіны Сухарава»** і аднаго асобніка газеты «Наша Ніва».

**18 лютага** Гаспадарчы суд Віцебскай вобласці адхіліў скаргу ЗАТ «Выдавецкі дом "Витебский курьер"» на дзеянні аблвыканкама, які беспадстаўна адмаўляецца перарэгістраваць прадпрыемства. Нагадаем: газета **«Витебский курьер М»** прыпыніла выхад вясной 2007 года. Пасля гэтага ЗАТ «Выдавецкі дом "Витебский курьер"» накіравала ў аблвыканкам дакументы на ўнясенне зменаў і дадаткаў у статут. Віцебскі выканаўчы камітэт спачатку даў адпаведны дазвол выдавецкаму дому, але ж хутка сам жа яго адклікаў.

**28 лютага** стала вядома, што ЗАТ «Выдавецкі дом "Витебский курьер"» (рэдакцыя недзяржаўнай газеты «Витебский курьер М») рыхтуе апеляцыйную скаргу ў Гаспадарчы суд Віцебскай вобласці. Праз месяц, **18 сакавіка**, Гаспадарчы суд Віцебскай вобласці пакінуў у сіле сваё рашэнне, паўторна прызнаўшы правамоцнасць дзеянняў аблвыканкама.

1 красавіка рэдакцыя газеты «Витебский курьер М» паведаміла, што збіраецца падаць апеляцыйную скаргу ў Вышэйшы Гаспадарчы суд, каб дамагчыся права ўнесці змены ў свой статут і перарэгістравацца.

**20 траўня** калегія Вышэйшага гаспадарчага суда (ВГС) адхіліла касацыйную скаргу ЗАТ «Выдавецкі дом "Витебский курьер"» на рашэнні судоў папярэдніх

інстанцый. Такім чынам, рэдакцыі недзяржаўнай газеты «Витебский курьер М» зноў было адмоўлена ў праве ўнесці змены ў Статут і перарэгістравацца.

**20 лютага** судовы выканаўца Першамайскага раённага суда апісаў маёмасць у офісе выдавецкага прадпрыемства «Час навінаў», якое з'яўляецца выдаўцом газеты **«Новы час»,** — у якасці захаду па «забеспячэнні пазову» **Мікалая Чаргінца**. Рэдакцыі былі таксама перададзеныя дзве пісьмовыя «прапановы» — да 27 лютага пералічыць на рахунак суда суму грашовай кампенсацыі (50 млн. 93 тыс. беларускіх рублёў з улікам пакрыцця судовых выдаткаў), а таксама да гэтага ж тэрміну апублікаваць на старонках газеты абвяржэнне артыкула «Генерал-сенатар Мікалай Чаргінец», які стаў нагодай для пазову. Чарговы нумар «Новага часу» так і не быў надрукаваны — рэдакцыя не мае права выпускаць газету, пакуль не разлічыцца па пазове.

**25 лютага** стала вядома, што рэдакцыі дзяржаўных СМІ Віцебскай вобласці, заснаваных органамі мясцовага кіравання і самакіравання, будуць плаціць за арэнду сваіх рэдакцыйных памяшканняў толькі 15% ад звычайнай сумы. Адпаведнае рашэнне прыняў Віцебскі аблвыканкам. Правіла распаўсюджваецца на памяшканні, якія гэтыя рэдакцыі арандуюць у грамадскіх, адміністрацыйных і пераабсталяваных вытворчых будынках, што знаходзяцца ў камунальнай уласнасці.

**19 сакавіка** часова былі затрыманыя наклады апошніх нумароў выданняў **«Товарищ»** і **«Народная воля»**. Супрацоўнікі Дубровенскага РАУС (Віцебская вобл.), куды быў прымусова даставілены аўтамабіль з накладамі, адразу забралі для праверкі па асобніку кожнай газеты. Пасля праверкі суправаджальных дакументаў і зместу выданняў кіроўцу аўтамашыны дазволілі ехаць далей.

**20 сакавіка** ў Оршы пасляператрусу ў офісе дэмакратычных сіл супрацоўнікі праваахоўных органаў забралі ўсе наяўныя там асобнікі афіцыйна зарэгістраванай недзяржаўнай газеты **«Товарищ»** і самвыдатаўскага **«Аршанскага весніка»**. Прычыну гэтага яны патлумачыць адмовіліся.

**24 сакавіка** з ліста дырэктара РУП «Слонімскі быткамбінат» Станіслава Іванашка галоўны рэдактар недзяржаўнага выдання **«Газета Слонімская» Віктар Валадашчук** даведаўся, што да 1 чэрвеня 2008 года рэдакцыя павінна пакінуць памяшканне, якое арандуе ў прадпрыемства. Арэндадаўца паведаміў, што тэрмін дзеяння дамовы з рэдакцыяй «Газеты Слонімскай» заканчваецца 31 траўня і далей не будзе працягнуты. Ніхто з кіраўнікоў іншых слонімскіх прадпрыемстваў, куды рэдактар звяртаўся ў пошуках памяшкання, не захацеў заключыць дамову арэнды з недзяржаўнай газетай.

**24 сакавіка** суд Ленінскага раёна Мінска прызнаў пенсіянерак **Марыю Аліеву** і **Алену Напорку** вінаватымі ў распаўсюдзе маланакладнай незарэгістраванай газеты **«Вольная Серабранка»,** у якой паведамлялася пра несанкцыянаваную акцыю на Дзень Волі (25 сакавіка). Кожную з іх аштрафавалі на 10 базавых велічынь. Жанчын затрымалі 22 сакавіка на вуліцы Якубава, дзе тыя раздавалі мінакам газету. Да суда пенсіянерак пратрымалі ў спецпрыёмніку на вуліцы Акрэсціна.

**8 красавіка** прадстаўнікі ТАА **«Выдавецкі дом "Інтэкс-прэс"»** (з'яўляецца выдаўцом газет **«Intex-press»**, **«Ганцавіцкі час»**, **«Ляхавіцкі час»**) паведамілі, што РУП **«Брэстаблсаюздрук»** адмаўляецца адказваць на іх запыты аб распаўсюдзе незалежных выданняў праз сетку сваіх кіёскаў.

Усе лісты, якія датычацца супрацоўніцтва з недзяржаўнай прэсай, дзяржаўнае прадпрыемства разглядае не як звароты юрыдычных асобаў, а як дзелавую перапіску.

Таксама ў адказе дырэктара «Брэстаблсаюздруку» Васіля Марэйкі ад 19 сакавіка паведамлялася, што сетка мае «больш выгадныя камерцыйныя прапановы», «перагружана» выданнямі і таму дамовы на рэалізацыю друкаванай прадукцыі Выдавецкага дома на 2008 год заключаць не будзе.

**16 красавіка** віцебскі грамадскі актывіст і распаўсюднік недзяржаўнай прэсы **Барыс Хамайда** атрымаў па пошце копію пастановы адміністрацыйнай камісіі Чыгуначнага раёна, у якой паведамлялася, што «за гандаль у неналежным месцы» ён аштрафаваны на 5 базавых велічынь (175 тысяч рублёў). Актывісту паведамілі, што выпадак зафіксаваны 14 сакавіка па вул. Леніна (там Б. Хамайда штодня распаўсюджвае недзяржаўныя газеты і часопісы). Паводле адказчыка, нягледзячы на пастанову, ён збіраецца і надалей распаўсюджваць там незалежныя выданні.

**17 красавіка** каля 1 200 асобнікаў апошняга нумара недзяржаўнай грамадска-палітычнай газеты **«Товарищ»**, прызначаных для распаўсюду ў Гомельскай вобласці, былі затрыманыя супрацоўнікамі Жлобінскага РАУС. Паводле тлумачэнняў міліцыянтаў, выданне мусіць прайсці праверку на прадмет наяўнасці матэрыялаў «дэструктыўнага характару». Пастанова аб затрыманні аўтамабіля грунтавалася на адпаведным рапарце з КДБ.

**24 красавіка** быў затрыманы наклад недзяржаўнай газеты **«Витебский курьер М»**. 956 асобнікаў выдання даставілі ў РАУС Кастрычніцкага раёна Віцебска. Падчас інцыдэнту ў журналіста Валерыя Шчукіна, які суправаджаў наклад, здарыўся сардэчны прыступ. «Хуткая дапамога» даставіла яго ў аддзяленне кардыялогіі гарадской бальніцы.

Нагадаем, што «Витебский курьер М» праз перашкоды мясцовых уладаў не выходзіў некалькі месяцаў. Нягледзячы на тое, што рэдакцыя мае памяшканне, ёй катэгарычна адмаўляюць у юрыдычным адрасе.

**16 траўня** стала вядома, што ў патрэбны тэрмін не прыйшоў да чытачоў чарговы нумар незалежнай газеты **«Борисовские новости»**. Кіраўніцтва друкарні, у якой мусіла выходзіць выданне, заўважыла невялікі артыкул пра малодшага сына Аляксандра Лукашэнкі. Матэрыял быў зняты з паласы. Тады рэдактар дамовіўся аб супрацоўніцтве з іншай друкарняй. Такім чынам, нумар газеты быў надрукаваны са спазненнем.

**23 траўня** стала вядома, што Ганцавіцкі райвыканкам накіраваў скаргу ў раённую пракуратуру з просьбай ацаніць адпаведнасць заканадаўству рэкламы, надрукаванай у недзяржаўным тыднёвіку **«Ганцавіцкі час»**. Прадстаўнікі раённай вертыкалі знайшлі парушэнні закона ў некалькіх нумарах «ГЧ» за люты і сакавік 2008 года.

Па словах намесніка галоўнага рэдактара выдання Пятра Гузаеўскага, большасць прэтэнзій чыноўнікаў не мае пад сабою грунту. Так, адным з «парушэнняў» называецца тое, што ў рубрыцы «Шукаю працу» надрукавана аб'ява «Тынкоўшчык-маляр» без нумара ліцэнзіі. **4 чэрвеня** рэдакцыя газеты **«Ганцавіцкі час»** атрымала папярэджанне ад Мінінфармацыі аб парушэнні арт. 30 Закона «Аб друку і іншых СМІ» (распаўсюд рэкламы). Як паведамляецца ў лісце ад 28 траўня за подпісам міністра Уладзіміра Русакевіча, у нумарах выдання ад 8 лютага і 9 траўня 2008 года былі апублікаваныя рэкламныя аб'явы аб продажы камп'ютэраў, капіравальнай і іншай тэхнікі, а ў нумары ад 9 траўня — яшчэ і аб продажы будаўнічых матэрыялаў без указання ліцэнзій.

**30 чэрвен**я недзяржаўнае рэгіянальнае выданне **«Нясвіжскі час»** атрымала ліст ад дырэктара мясцовай жыллёва-камунальнай гаспадаркі (ЖКГ), у якім паведамлялася,

што райвыканкам не даў дазволу на працяг дамовы арэнды памяшкання, падпісанай перад гэтым кіраўніцтвам ЖКГ і УП «Інтэкс-прэс-рэгіён» (выдавец «Нясвіжскага часу»). Памяшканне, з якога трэба з'ехаць, карпункт газеты займаў на працягу трох апошніх гадоў.

**9 верасня** стала вядома, што суд аштрафаваў на 20 базавых велічыняў (700 тысяч рублёў) тэлеканал **СТВ** за парушэнне закона «Аб рэкламе». З пазовам у суд звярнулася Міністэрства гандлю. Тэлеканал абвінавацілі ў тым, што гучнасць рэкламы перавышае гучнасць іншых праграм. У ліпені ўжо былі аштрафаваныя **8-ы** і **Першы музычны каналы**. Пратаколы таксама складзеныя на **БТ** і **ОНТ** і ўжо перададзеныя ў суд. Аднак гэтыя тэлеканалы ў суд ісці адмаўляюцца.

**14 жніўня** ў Віцебску адміністрацыйная камісія аштрафавала грамадскага распаўсюдніка недзяржаўнай прэсы **Барыса Хамайду** на 200 тысяч рублёў «за парушэнне правіл гандлю, зацверджаных гарвыканкамам». Нагадаем, што актывіст быў прыцягнуты да адказнасці за распаўсюд незалежных выданняў. Як адзначаецца ў дакуменце, прынятым камісіяй Чыгуначнага раёна Віцебска, 10 ліпеня супрацоўнік міліцыі ў цывільным купіў у Хамайды газету «Народная воля», пасля чаго на актывіста быў складзены пратакол аб парушэнні правілаў гандлю.

**9 верасня** старшыня Клецкага райсуда Тамара Любянец папярэдзіла рэдактара недзяржаўнага інфармацыйнага бюлетэня **«Бойкий Клецк» Сяргея Панамарова**, што скончыўся тэрмін добраахвотнай выплаты ім амаль 9 мільёнаў рублёў на карысць мясцовай камунальнай службы. «Цяпер без усялякіх папярэдніх паведамленняў да мяне будуць наведвацца судовыя выканаўцы. Суддзя нават прапануе расплаціцца камп'ютэрам і мабільным тэлефонам, якія я выкарыстоўваю для выдання бюлетэня», — паведаміў С. Панамароў. Ён лічыць, што пераследуюць яго перадусім за палітычную дзейнасць.

**11 верасня** віцебскі грамадскі распаўсюднік недзяржаўных выданняў **Барыс Хамайда** паведаміў, што ў яго скралі некалькі соцень асобнікаў незалежных газет «Народная Воля», «Наша Ніва» і «Курьер из Витебска», пяць часопісаў «Arche» і пяць зборнікаў Уладзіміра Падгола — «цытатнікаў» А. Лукашэнкі. На думку распаўсюдніка, гэты рабунак невыпадковы, звязаны з выбарчай кампаніяй, бо ў незалежнай прэсе, якую ён распаўсюджвае, апошнім часам з'явілася шмат артыкулаў пра апазіцыйных кандыдатаў.

**15 верасня** стала вядома, што за распаўсюд апошняга нумара незалежнай газеты **«Свабодны Салігорск»** (Мінская вобл.) на цэнтральным рынку горада быў затрыманы валанцёр **Андрусь Тычына**. Падчас затрымання міліцыянты закавалі распаўсюдніка ў кайданкі і даставілі ў мясцовы РАУС. У аддзяленні міліцыі ў хлопца адабралі 40 асобнікаў выдання, склаўшы адпаведны пратакол, а праз гадзіну вызвалілі.

**27 верасня** ў Светлагорску (Гомельская вобл.) падчас распаўсюду недзяржаўнай грамадска-палітычнай газеты **«Товарищ»** і маланакладных выданняў **«Выбар»** і «**Глоток воздуха»** былі затрыманыя давераныя асобы кандыдата ў дэпутаты ад Аб'яднаных дэмакратычных сіл у рэгіёне Сяргея Дайнекі, актывісты **Святлана Міхальчанка**, **Віктар Ахрамчук** і **Сяргей Шавяленка**. У мясцовым РАУС супрацоўнікі міліцыі абвінавацілі С. Міхальчанка ў «распаўсюдзе нелегальнай літаратуры», правялі дагляд рэчаў і забралі каля 50 асобнікаў «Товарища» і па некалькі асобнікаў іншых выданняў. З пастарунка яе адвезлі дадому, дзе зладзілі ператрус, у выніку якога былі забраныя, акрамя «Товарища», па адным асобніку малафарматных бюлетэняў «Левый марш», «Пересменка» і «Навіны БНФ».

28 верасня актывістцы патэлефанавалі з міліцыі і паведамілі, што яна можа забраць газеты. У аддзяленні ёй вярнулі толькі асобнікі «Товарища», астатнія выданні накіраваныя ў пракуратуру «для вывучэння».

**6 кастрычніка** рэдакцыя газеты **«Наша Ніва»** атрымала пісьмовы адказ ад рэспубліканскага прадпрыемства **«Белсаюздрук»**, якое ў чарговы раз адмовілася распаўсюджваць праз сваю гандлёвую сетку недзяржаўнае выданне. Па словах галоўнага рэдактара «НН» Андрэя Скурко, рэдакцыя плануе і далей звяртацца з прапановамі аб распаўсюдзе газеты, каб паказаць такім чынам, што не будзе мірыцца з эканамічнай і палітычнай дыскрымінацыяй недзяржаўнай прэсы.

**10 кастрычніка** стала вядома, што рэдакцыі рэгіянальных выданняў ізноў атрымалі адмоўныя адказы на свае прапановы да кіраўнікоў прадпрыемстваў сістэмы **«Белсаюздруку»** ўзнавіць супрацоўніцтва і рэалізоўваць газеты. Сярод іх недзяржаўныя рэгіянальныя выданні **«Бобруйский курьер»**, **«Intex-press»** (г. Баранавічы), **«Нясвіжскі час»**.

**22 кастрычніка** стала вядома, што, нягледзячы на пісьмовыя звароты рэдакцый недзяржаўных газет да дзяржаўнага прадпрыемства паштовай сувязі **«Белпошта»** аб уключэнні іх у падпісны каталог на 2009 год, сёлета «за бортам» падпіснай кампаніі ізноў аказаліся нацыянальныя газеты **«Народная воля»**, **«Наша Ніва»**, **«Новы час»**, **«СНплюс. Свободные новости плюс»**, **«Товарищ»**, а таксама рэгіянальныя выданні **«Борисовские новости»**, **«Витебский курьер М»**, **«Вольнае Глыбокае»**, **«Газета Слонімская»**, **«Ганцавіцкі час»** і **«Intex-press»** (г. Баранавічы).

**29 кастрычніка** галоўны рэдактар недзяржаўнага выдання **«Газета Слонімская»** і выдавец газеты **«Отдушина»** Віктар Валадашчук атрымаў ліст ад рэспубліканскага прадпрыемства **«Белпошта»** з адмовай уключыць газету «Отдушина» ў падпісны каталог на 2009 год. «Белпошта» як суб’ект гаспадарання мае права ў сваёй камерцыйнай дзейнасці кіравацца эканамічнай мэтазгоднасцю, — традыцыйна гаворыцца ў лісце яе генеральнага дырэктара Аляксандры Чарняк.

Аналагічны ліст атрымаў 31 кастрычніка галоўны рэдактар **«Рэгіянальнай газеты»** (г. Маладзечна, Мінская вобл.) Аляксандр Манцэвіч. Гэтае выданне ёсць у абласным падпісным каталозе, але, паколькі яно зарэгістраванае як рэспубліканскае, рэдакцыя хацела трапіць таксама і ў рэспубліканскі. Аднак спроба скончылася безвынікова.

**13 лістапада** ў БАЖ трапіла копія **«Плана арганізацыйных мерапрыемстваў правядзення падпіскі на друкаваныя СМІ на 1-е паўгоддзе 2009 года»**, распрацаванага ідэолагамі Брэсцкага аблвыканкама. Дакумент размяркоўвае абавязкі паміж прадстаўнікамі розных звёнаў мясцовай «вертыкалі», супрацоўнікамі «Белпошты» і кіраўнікамі прадпрыемстваў вобласці, якія павінны «не дапускаць зніжэння ведамасных накладаў па асноўных рэспубліканскіх выданнях, дзяржаўных абласных і раённых газетах».

«Калі ўзгадаць пра тое, што сёння амаль паўтара дзесятка незалежных грамадска-палітычных выданняў застаюцца без права распаўсюду, карціна падпісной кампаніі ў Беларусі выглядае надзвычай змрочна», — адзначыла ў звязку з гэтым старшыня БАЖ **Жанна Літвіна**.

**14 лістапада ГА «БАЖ»** звярнулася да кіраўніка прэзідэнцкай адміністрацыі **Уладзіміра Макея** з лістом, у якім прасіла «пасадзейнічаць у вырашэнні праблем,

звязаных з распаўсюдам недзяржаўнай грамадска-палітычнай прэсы». Пад зваротам падпісаліся паўтара дзесятка галоўных рэдактараў недзяржаўных беларускіх СМІ.

**21 лістапада** было агучана, што хутка ў Мінску, а ў снежні — і па ўсёй краіне, у газетных кіёсках з’явяцца недзяржаўныя друкаваныя выданні — **«Народная воля»** і **«Наша Ніва»**.

У рэдакцыі абедзвюх газет патэлефанавалі з Адміністрацыі прэзідэнта і параілі яшчэ раз звярнуцца з прапановай аб супрацоўніцтве ў «Белсаюздрук» і «Белпошту». «Мы падрыхтавалі неабходныя дакументы і накіравалі іх у адпаведныя інстанцыі «Белпошты» і «Саюздруку», — пацвердзілі ў гутарцы з прэс-службай БАЖ рэдактар «Нашай Нівы» **Андрэй Скурко** і рэдактар «Народнай волі» **Іосіф Сярэдзіч**. «НВ» таксама заключае дамову з мінскай друкарняй (дагэтуль газета была вымушаная друкавацца за мяжой, у Расіі).

**27 лістапада** недзяржаўныя рэспубліканскія газеты **«Народная воля»** і **«Наша Ніва»** вяртаюцца ў шапікі прадпрыемстваў сістэмы «Саюздруку», а таксама ў падпісныя каталогі «Белпошты». Між тым такой магчымасці, акрамя згаданых дзвюх, пазбаўленыя больш за дзесятак як рэспубліканскіх, так і рэгіянальных газет.

# Канфлікты, звязаныя з выбарамі

**Найбольш тыповымі канфліктамі ў сферы СМІ, звязанымі з кампаніяй 2008 года па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў, былі адмовы СМІ размяшчаць перадвыбарныя праграмы апазіцыйных кандыдатаў альбо іх цэнзураванне. Вялікая колькасць канфліктаў тычылася пытання датэрміновай агітацыі ў СМІ. Аднак пытанне застаецца дыскусійным, бо беларускае выбарчае заканадаўства не абмяжоўвае агітацыю да моманту рэгістрацыі чалавека ў якасці кандыдата, а кажа пра агітацыю толькі пасля рэгістрацыі. Таму і створаную пры ЦВК Назіральную раду па кантролі за выкананнем парадку правядзення агітацыі ў СМІ нельга было назваць эфектыўным інструментам вырашэння канфліктаў у гэтай сферы.**

**31 ліпеня** пастановай Цэнтрвыбаркаму РБ быў зацверджаны склад Назіральнай рады па кантролі за выкананнем парадку правядзення агітацыі ў СМІ. Туды ўвайшлі чыноўнікі і прадстаўнікі толькі дзяржаўных медыяў — усяго 7 чалавек: першая намесніца міністра інфармацыі **Лілія Ананіч**, намеснік дырэктара АТН Белтэлерадыёкампаніі **Ала Рыжкевіч**, намеснік дырэктара Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё **Пётр Раманчук**, першы намеснік старшыні Беларускага саюза журналістаў **Рыгор Сакалоўскі**, галоўны рэдактар газеты «Мінская праўда» **Мікалай Шлома**, дырэктар Грамадскага прэс-цэнтра Дома прэсы **Таццяна Бялова**, першы намеснік галоўнага рэдактара газеты «Советская Белоруссия» **Міхаіл Лябедзік**.

Рада павінна была падчас перадвыбарнай агітацыі сачыць за выкананнем у СМІ норм Выбарчага кодэкса (у прыватнасці, кантраляваць забеспячэнне роўных умоваў агітацыі ўсіх кандыдатаў) і закона «Аб друку і іншых СМІ», а таксама разглядаць інфармацыйныя спрэчкі.

**14 жніўня** Назіральная рада па кантролі за выкананнем правілаў агітацыі ў СМІ **накіравала** лісты з «рэкамендацыямі» ў пяць беларускіх газет: дзяржаўныя **«Адзінства»** (Барысаў), **«Могилёвская правда»**, **«Віцьбічы»**, **«Віцебскі рабочы»** і недзяржаўную **«Борисовские новости»**. Нагодай для гэтага сталі скаргі ад некалькіх патэнцыйных кандыдатаў у дэпутаты, якія палічылі публікацыі датэрміновай агітацыяй сваіх канкурэнтаў. Усім рэдактарам Назіральная рада пісьмова нагадала, што яны павінны забяспечваць роўныя ўмовы для ўсіх кандыдатаў у дэпутаты, гэта значыць — прадставіўшы плошчу аднаму патэнцыйнаму кандыдату, адвесці такую ж і яго канкурэнтам, калі тыя звернуцца да яго.

Увогуле, вялікая колькасць канфліктаў у часе выбараў тычылася менавіта пытання датэрміновай агітацыі ў СМІ — асабліва за праўладных кандыдатаў. Прынамсі, гэтак трактавала група «Праваабаронцы за свабодныя выбары» з’яўленне ў дзяржаўнай прэсе перад выбарамі піяр-публікацый пра афіцыйных асобаў і кіраўнікоў розных узроўняў.

«Матэрыялы ў дзяржаўнай прэсе, прысвечаныя праўладным кандыдатам, наўпрост не кажуць пра іх як пра прэтэндэнтаў на дэпутацтва. Але з’яўляюцца такія публікацыі менавіта перад выбарамі, прычым у дзяржаўных СМІ, наклады якіх несувымерна большыя ў параўнанні з недзяржаўнымі. Гэта, безумоўна, стварае няроўныя ўмовы для кандыдатаў у дэпутаты», — выказаўся на гэты конт праваабаронца **Валянцін Стэфановіч**.

**Між тым, сакратар ЦВК Мікалай Лазавік** з такім падыходам не згодны: «Калі ў публікацыі ідзе гаворка проста пра нейкага грамадзяніна — без згадкі пра тое, што ён з'яўляецца патэнцыйным кандыдатам у дэпутаты, і без агітацыі галасаваць за яго — і калі гэтая інфармацыя не распаўсюджваецца сябрамі яго ініцыятыўнай групы пры зборы подпісаў, то ў гэтым цяжка ўгледзець парушэнне выбарчага заканадаўства», — сказаў сакратар ЦВК.

«Розныя меркаванні па гэтым пытанні, выказаныя прадстаўнікамі ЦВК, праваабаронцамі, прэтэндэнтамі на дэпутацкі мандат, паказваюць, што гэтае пытанне ў нас у заканадаўстве не адрэгулявана», — лічыць намеснік старшыні ГА «БАЖ», юрыст **Андрэй Бастунец**. «Выбарчы кодэкс наўпрост не абмяжоўвае агітацыю да моманту рэгістрацыі чалавека ў якасці кандыдата. Ён наогул кажа пра агітацыю толькі пасля рэгістрацыі прэтэндэнта кандыдатам у дэпутаты. Хутчэй, мы можам казаць пра ўжыванне адміністратыўнага рэсурсу, выкарыстанне фінансавых сродкаў у абыход выбарчага заканадаўства і г. д.», — лічыць намеснік старшыні БАЖ.

**Паколькі пытанне з'яўляецца дыскусійным, ГА «БАЖ» не фіксавала выпадкаў «датэрміновай агітацыі» ў прэсе**

**29 жніўня дзяржаўнае беларускае радыё адмовіла** кіраўніцтву кааліцыі Аб'яднаных дэмакратычных сіл (АДС) у эфірным часе для правядзення дэбатаў падчас выбарчай кампаніі. Пра гэта паведамлялася ў афіцыйным лісце за подпісам дырэктара Першага нацыянальнага канала беларускага радыё **Антона Васюкевіча**. Адмова аргументаваная тым, што ў кандыдатаў у дэпутаты і без таго будзе магчымасць бясплатнага выступу па радыё для выкладання сваіх праграм.

**4 верасня** стала вядома, што дзяржаўная газета **«Рэспубліка»** (друкаваны орган Савета Міністраў) адмовілася апублікаваць супольную праграму трох кандыдатаў у дэпутаты ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі — **Анатоля Лябедзькі**, **Станіслава Багданкевіча** і **Ганны Ягоравай**. Палітыкі лічаць, што гэта звязана з дадзенай у дакуменце жорсткай ацэнкай сітуацыі ў Беларусі. У рэдакцыі адмову патлумачылі тым, што кандыдаты замест сваіх уласных праграм прапанавалі апублікаваць партыйную.

Паводле **пастановы ЦВК «Аб парадку выкарыстання дзяржаўных СМІ пры падрыхтоўцы і правядзенні выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь чацвёртага склікання»**, кандыдат у дэпутаты меў права апублікаваць сваю перадвыбарную праграму ў адной з рэспубліканскіх газет — **«Звязда»**, **«Народная газета»**, **«Рэспубліка»**, **«Белорусская нива»** — альбо ў абласной, гарадской ці раённай дзяржаўных газетах. Аб'ём публікацыі — 4 000 знакаў з прабеламі.

Сябры АГП заяўлялі, што загадзя, як і прадпісвае ЦВК, папярэджвалі рэдакцыю «Рэспублікі» пра намер апублікаваць супольную перадвыбарную платформу агульным аб'ёмам 12 тыс. знакаў ад імя трох кандыдатаў і не атрымалі пярэчанняў.

Пасля ўмяшання ў канфлікт прадстаўнікоў ЦВК урадавая газета пагадзілася апублікаваць супольную праграму кандыдатаў ад АГП — пры ўмове, што загаловак матэрыялу будзе зменены. Сакратар ЦВК **Мікалай Лазавік** заявіў, што лічыць магчымым размяшчэнне ў друкаваных СМІ выступленняў кандыдатаў у выглядзе праграмных палажэнняў той ці іншай партыі.

**8 верасня** кандыдат у дэпутаты, адзін з лідэраў прадпрымальніцкага руху **Віктар Гарбачоў** падаў скаргу ў Цэнтрвыбаркам на радыёстанцыю **«Сталіца»**. Як паведаміў

прэтэндэнт на дэпутацкі мандат, гэтая радыёстанцыя парушыла расклад жараб'ёўкі, паводле якой быў вызначаны час трансляцыі зваротаў кандыдатаў да выбаршчыкаў: выступ кандыдата павінен быў трансляваца 4 верасня ў 18.20, а выйшаў у эфір у 18.05. В. Гарбачоў назваў гэта спланаванай акцыяй. Дырэктар радыёстанцыі **Павел Вараб'ёў** заявіў, што змена часу выступлення — тэхнічная памылка.

**11 верасня** стала вядома, што рэдакцыя газеты **«Вечерний Брест»** прапанавала кандыдату ў дэпутаты па Брэсцкай-Заходняй выбарчай акрузе № 1, старшыні Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада) **Анатолю Ляўковічу** змяніць частку тэксту яго перадвыбарнай праграмы. Намеснік рэдактара «ВБ» **Барыс Паўлоўскі** палічыў, што ў праграме ўтрымліваюцца выказванні, якія могуць быць прызнаныя не адпаведнымі арт. 47 Выбарчага кодэкса РБ. Паводле А. Ляўковіча, ён сустрэўся з прадстаўнікамі рэдакцыі, у выніку чаго была дасягнута дамоўленасць аб кампрамісным варыянце тэксту.

**13 верасня** Мазырская раённая дзяржаўная газета **«Жыццё Палесся»** (Гомельская вобл.) адмовілася друкаваць перадвыбарныя праграмы кандыдатаў у дэпутаты па Палескай выбарчай акрузе № 43. Паводле адказнага сакратара выдання **Святланы Данільчанкі**, кандыдаты **Мікалай Гаўрыленка**, прадстаўнік Аб'яднаных дэмакратычных сіл, і **Сяргей Канопліч**, які да гэтага працаваў старшынёю Ельскага райвыканкама, несвоечасова падалі ў рэдакцыю тэксты сваіх зваротаў.

**23 верасня** фотакарэспандэнту недзяржаўнай газеты **«Народная воля» Юрыю Дзядзінкіну** не дазволілі рабіць фотаздымкі на ўчастку № 398 у Мінску, дзе пачалося датэрміновае галасаванне. Каля 10.50 журналіст прыйшоў на выбарчы ўчастак, маючы пры сабе пасведчанне карэспандэнта згаданага выдання. Аднак сябры ўчастковай камісіі не дазволілі яму рабіць фотаздымкі, спаслаўшыся на забарону старшыні ўчастковай камісіі **Эльмана Хосіева**. Старшыня аддаваў распараджэнні па тэлефоне, бо сам ён на той час на ўчастку адсутнічаў.

Сакратар Цэнтрвыбаркама **Мікалай Лазавік** заявіў БАЖ, што адмова тлумачыцца нядольнасцю журналіста наладзіць «чалавечыя стасункі» з сябрамі выбарчай камісіі. У гутарцы з прэс-службай БАЖ ён пацвердзіў, што забарона журналісту зарэгістраванага СМІ працаваць на выбарчым участку з'яўляецца парушэннем выбарчага заканадаўства.

У адпаведнасці з арт. 13 ВК прадстаўнікі СМІ маюць права прысутнічаць на пасяджэннях выбарчых камісій і пры галасаванні. У п. 11 Пастановы ЦВК № 54 ад 12.10.2006 г. «Аб парадку скарыстання часткі 3 арт. 13 Выбарчага кодэкса РБ…» указваецца, што прадстаўнікі СМІ пры асвятленні падрыхтоўкі і правядзення выбараў маюць права прысутнічаць на пасяджэннях выбарчых камісій, у памяшканнях для галасавання **пры прад'яўленні дакумента**, які пацвярджае іх статус.

**26 верасня** кандыдаты ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі з так званага «Еўрапейскага спісу», якія балатаваліся ў Віцебскай вобласці, заявілі, што мясцовыя дзяржаўныя газеты — **«Віцьбічы»**, **«Народнае слова»**, **«Віцебскі рабочы»**, а таксама некаторыя раённыя выданні выкарыстоўвалі цэнзуру, калі друкавалі іх перадвыбарныя праграмы.

Як паведаміў прэтэндэнт на дэпутацкі мандат **Аляксей Гаўруцікаў**, самая масавая ў Віцебску газета «Віцьбічы» паставіла перад ім умову: альбо ён здымае апошні сказ: *«Однако руководству нашей страны, видимо, важнее сохранить хлебные*

*места и передать их по наследству своим детям, нежели гарантировать благополучие народу»,* — альбо яму адмаўляюць у праве надрукаваць праграму.

Астатнія прэтэндэнты з «Еўраспісу» пасля скаргаў у ЦВК змаглі надрукаваць свае праграмы ў дзяржаўных выданнях. Аднак газеты друкавалі праграмы ў тыя дні, калі яны выходзяць меншым накладам. Напрыклад, газета «Віцебскі рабочы» надрукавала праграму кандыдаткі **Галіны Козыравай** не ў суботнім выпуску, калі выданне выходзіць накладам 100 тысяч асобнікаў, а ў аўторкавым, калі наклад складае 7 тысяч. Тое ж самае атрымалася і з праграмай **Ігара Каныгіна**, які падаў яе для друку ў **«Народнае слова».**

**28 верасня** на выбарчым участку № 504 Коласаўскай выбарчай акругі № 106 журналістку недзяржаўнага выдання **«Белорусы и рынок» Таццяну Каліноўскую** не дапусцілі пагутарыць з назіральнікамі. Спн. Каліноўская прад'явіла выбарчай камісіі пасведчанне рэдакцыі і акрэдытацыю пры інфармацыйным цэнтры ЦВК і пажадала падысці да групы назіральнікаў, якія працуюць на ўчастку. Аднак старшыня выбарчай камісіі **Ніна Балоціна** спыніла яе і сказала пачакаць у калідоры — маўляў, яна сама прывядзе да яе назіральнікаў. Праз некаторы час спн. Балоціна падышла да журналісткі і сказала, што тыя не жадаюць з ёй размаўляць. Рэальнай прычынай такіх паводзін старшыні камісіі журналістка лічыць нежаданне выносіць на шырокую публіку факт падазрона высокай яўкі на датэрміновае галасаванне па выбарчай акрузе.

# Судовыя кафлікты з удзелам суб’ектаў СМІ

1. **Крымінальныя справы**

   1.1. **Справа Аляксандра Здвіжкова**
   1.2. **Іншыя крымінальныя справы з удзелам суб’ектаў СМІ**

2. **Грамадзянскія справы**

   2.1. **Справы аб прызнанні матэрыялаў экстрэмісцкімі**
   2.2. **Завяршэнне справы «М. Чаргінец супраць “Новага часу”»**
   2.3. **Судовы ціск на «Газету Слонімскую»**
   2.4. **«Ленинский клич» VS «Вольны горад»**
   2.5. **«Народная воля» і М. Коктыш абскарджваюць адмову ў акрэдытацыі карэспандэнткі**
   2.6. **Іншыя грамадскія справы з удзелам суб’ектаў СМІ**

3. **Адміністрацыйныя справы**

   3.1. **Адміністрацыйныя суды над журналістамі «Нашай Нівы»**
   3.2. **Адміністрацыйны пераслед Барыса Хамайды**
   3.3. **Іншыя адміністрацыйныя справы з удзелам суб’ектаў СМІ**

4. **Гаспадарчыя справы**

   4.1. **«Витебский курьер М» супраць аблвыканкама**
   4.2. **Іншыя гаспадарчыя справы**

5. **Працоўныя спрэчкі**

# 1. Крымінальныя справы

## 1.1. Справа Аляксандра Здвіжкова

**18 студзеня** былы намеснік галоўнага рэдактара газеты **«Згода» Аляксандр Здзвіжкоў** быў асуджаны на 3 гады пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму за «распальванне рэлігійнай варожасці» (ч. 2 арт. 130 КК РБ). Журналіста асудзілі за перадрукоўку з дацкай прэсы карыкатур на прарока Мухамеда.

Крымінальная справа была ўзбуджаная яшчэ ў 2006 г. У сакавіку 2006 г. газета «Згода» была закрытая па пазове Міністэрства інфармацыі, а крымінальная справа прыпыненая, бо следчым органам не ўдалося высветліць месцазнаходжання абвінавачанага. Але ў пачатку студзеня 2008 г. стала вядома, што журналіст быў затрыманы ў лістападзе 2007 г. і знаходзіцца пад вартай.

Разгляд крымінальнай справы праходзіў у Мінскім гарадскім судзе. Слуханні спачатку праходзілі адкрыта, але потым прысутнічаць на іх журналістам было забаронена. А. Здзвіжкоў вінаватым сябе не прызнаў.

**22 лютага** калегія Вярхоўнага суда разгледзела касацыйную скаргу А. Здзвіжкова на прысуд суда першай інстанцыі і вырашыла зменшыць тэрмін яго пакарання з 3 гадоў пазбаўлення волі да 3 месяцаў (да фактычна адбытага). Вярхоўны суд спаслаўся на стан здароўя журналіста і неабходнасць утрымліваць старую маці (арт. 70 КК РБ — змякчэнне прысуду з нагоды выключных абставін). Разам з тым, Вярхоўны суд палічыў віну журналіста даказанай.

Аляксандр Здзвіжкоў выйшаў на волю ў той жа дзень і заявіў, што збіраецца з’ехаць з Беларусі і змяніць грамадзянства.

Вызваленне А. Здзвіжкова назіральнікі звязваюць з патрабаваннем еўрапейскіх структур да беларускіх уладаў вызваліць палітычных вязняў.

## 1.2. Іншыя крымінальныя справы з удзелам суб’ектаў СМІ

**15 лютага** быў вызвалены з турмы палітык і публіцыст, экс-дэпутат Вярхоўнага Савета 13-га склікання **Андрэй Клімаў**. Ён апынуўся на свабодзе ў адпаведнасці з падпісаным **11 лютага** прэзідэнцкім указам аб памілаванні.

А. Клімаў быў асуджаны ў верасні 2007 г. на 2 гады пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі строгага рэжыму. Нагодай для гэтага сталі ягоныя артыкулы, размешчаныя на сайце **www.ucpb.org** у студзені 2007 г. Праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя» прызнала Клімава вязнем сумлення.

**12 жніўня** Шклоўскі раённы суд (Магілёўская вобл.) спыніў крымінальную справу супраць выдаўца і рэдактара незарэгістраванай маланакладнай газеты **«Шклоўскія навіны» Аляксандра Шчарбака** з прычыны замірэння бакоў.

Крымінальная справа была ўзбуджаная па заяве дырэктара мясцовай экспартна-сартавальнай ільнабазы Васіля Бубнова з нагоды артыкула А. Шчарбака «Што вырашаюць кадры». На думку В. Бубнова, у публікацыі прысутнічалі выразы, якія яго

зневажаюць. Ён патрабаваў 2 мільёны ў якасці кампенсацыі маральнай шкоды. Журналісту таксама пагражала крымінальнае пакаранне (да 3 гадоў пазбаўлення волі).

Справа скончылася міравым пагадненнем, згодна з якім А. Шчарбак папрасіў у пацярпелага прабачэння і абавязаўся выплаціць яму 500 тысяч рублёў кампенсацыі маральнай шкоды.

**17 кастрычніка** стала вядома, што галоўнаму рэдактару дзяржаўнай **«Настаўніцкай газеты»** давядзецца трымаць адказ перад судом. Паводле звестак праваахоўных органаў, рэдакцыя «Настаўніцкай газеты» спрычынілася да крадзяжу і легалізацыі грашовых сродкаў з шэрагу прадпрыемстваў краіны. Гэтым на працягу некалькіх гадоў займаліся пры дапамозе саўдзельнікаў адказныя асобы УП «Тэта» (заснавальнікам якога з'яўляецца Мінская гарадская арганізацыя «Грамадскае аб'яднанне "Беларускае таварыства інвалідаў"»). У выніку да крымінальнай адказнасці прыцягнуты 8 чалавек, сярод якіх і галоўны рэдактар «Настаўніцкай газеты».

## 2. Грамадзянскія справы

### 2.1. Справы аб прызнанні матэрыялаў экстрэмісцкімі

**9 верасня** суд Іўеўскага раёна (Гродзенская вобл.) прызнаў № 127 за 14−27 жніўня незарэгістраванага выдання **«Свабода»** экстрэмісцкім матэрыялам і пастанавіў знішчыць 5 тысяч асобнікаў гэтага выпуску, якія трапілі ў рукі праваахоўных органаў. Падставай для такога судовага рашэння сталася інфармацыйная нататка «Вайна ў Грузіі» аб акцыі пратэсту моладзі каля амбасады Расеі ў Мінску.

Слуханні прайшлі без прысутнасці асобаў, у якіх выданне было адабранае.

**18 верасня** ў судзе Кастрычніцкага раёна Гродна адбылася папярэдняя сустрэча бакоў па грамадзянскай справе «Аб прызнанні інфармацыйных матэрыялаў экстрэмісцкімі». Адказчыкамі па справе выступалі 9 асобаў, у якіх у апошнія гады на мяжы забіралі «патэнцыйна экстрэмісцкую» прадукцыю. Справа была распачатая Кастрычніцкім раённым судом Гродна па ініцыятыве абласнога ўпраўлення КДБ, якое прапанавала прызнаць экстрэмісцкімі шэраг матэрыялаў: асобнік газеты беларускіх палякаў **«Glos znad Niemna na uchodzstwie»**, выданне «**Агляд-хроніка парушэнняў правоў чалавека ў Беларусі ў 2004 годзе»**, кнігі **«Лісты з лесу»** (аўтар — Павел Севярынец) і **«Выпадковы прэзідэнт»** (аўтары — журналісты Святлана Калінкіна і Павел Шарамет) і іншыя.

**2 кастрычніка** ў дзяржаўнай газеце «Звязда» надрукаваны спіс матэрыялаў, якія прызнаныя экстрэмісцкімі. Гэта тры дыскі з запісам варшаўскага канцэрта 2006 г. **«Салідарныя з Беларуссю»**, 6 дыскаў з запісам польскага дакументальнага фільма **«Lekcja Bialoruskiego»** («Урок беларускай мовы», пераможцы шматлікіх міжнародных конкурсаў) і 7 дыскаў з загадкавай назвай «MEGAUS MEG 16753» (паводле інфармацыі службы маніторынгу ГА «БАЖ», на гэтых дысках былі **фотаздымкі з Кастрычніцкай плошчы ў Мінску ў 2006 г.**). Паводле выдання, рашэнне аб гэтым прымаў суд Кастрычніцкага раёна Гродна, і яно ўжо ўступіла ў законную сілу з **16 верасня 2008 г.**

**5 лістапада** судовая калегія Гродзенскага абласнога суда па грамадзянскіх справах адмяніла рашэнне суда Іўеўскага раёна, які па заяве начальніка Упраўлення

КДБ па Гродзенскай вобласці **Ігара Сяргеенкі** прызнаў экстрэмісцкімі матэрыялы, апублікаваныя ў жнівеньскім нумары незарэгістраванай газеты **«Свабода»**.

Свой вердыкт абласныя суддзі абгрунтавалі тым, што іх раённыя калегі ў парушэнне прадугледжанай законам працэдуры разгледзелі справу ў адсутнасць усіх зацікаўленых бакоў.

**12 снежня** падчас паўторных слуханняў суд Іўеўскага раёна (Гродзенская вобл.) пакінуў без разгляду заяву гродзенскага ўпраўлення КДБ аб прызнанні экстрэмісцкімі шэрагу матэрыялаў, апублікаваных у жнівеньскім нумары незарэгістраванай газеты **«Свабода»**.

Такое рашэнне прынятае на падставе таго, што службовая асоба, чый подпіс стаіць пад заявай, не была ўпаўнаважаная яе падпісваць.

**9 лістапада** суд Кастрычніцкага раёна г. Гродна пакінуў без разгляду заяву Упраўлення КДБ па Гродзенскай вобласці аб прызнанні экстрэмісцкім матэрыялам газеты беларускіх палякаў **«Glos znad Niemna na uchodzstwie»**. Падобныя вызначэнні былі вынесеныя і па іншых справах аб прызнанні інфарматыўных матэрыялаў экстрэмісцкімі, якія знаходзіліся ў судзе.

**24 лістапада** галоўны рэдактар часопіса **«ARCHE» Валер Булгакаў** атрымаў ліст з Дзяржаўнага мытнага камітэта за подпісам намесніка старшыні **С. Барысюка**. У дакуменце паведамлялася, што ў адпаведнасці з заключэннем КДБ ад 05.11.2008 у №№ 7 і 8 выдання за 2008 г. «была прызнаная наяўнасць заклікаў да экстрэмісцкай дзейнасці і прапаганды такой дзейнасці».

Матэрыялы справы па гэтым пытанні былі накіраваныя ў суд Маскоўскага раёна Брэста «з хадайніцтвам аб прызнанні дадзенай інфармацыйнай прадукцыі экстрэмісцкай і яе наступным знішчэнні». Да канца 2008 г. справа судом не разглядалася.

## 2.2. Завяршэнне справы «М. Чаргінец супраць “Новага часу”»

**3 студзеня** старшыня камісіі Савета Рэспублікі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы **Мікалай Чаргінец** заявіў, што падасць у суд на тыя СМІ, якія ў сваіх публікацыях цытавалі артыкул **Аляксандра Тамковіча** «Генерал-сенатар Мікалай Чаргінец». Нагадаем, што 20 снежня 2007 г. суд Першамайскага раёна пастанавіў спагнаць 50 мільёнаў рублёў з выдаўцоў газеты **«Новы час»** і 1 мільён — з журналіста А. Тамковіча на карысць сенатара. Суддзя прызнала не адпаведнымі рэчаіснасці і зневажальнымі шэраг вытрымак з артыкула. М. Чаргінец указаў у пазове, што атрыманыя грошы накіруе на дапамогу псіхічна хворым.

**11 лютага** калегія Мінскага гарадскога суда па грамадзянскіх справах адхіліла касацыйную скаргу выдаўцоў газеты «Новы час» і пакінула ў сіле рашэнне суда першай інстанцыі па пазове М. Чаргінца.

**20 лютага** судовы выканаўца Першамайскага раённага суда апісаў маёмасць у офісе выдавецкага прадпрыемства «Час навінаў», якое з’яўляецца выдаўцом газеты «Новы час», — у якасці забеспячэння выканання судовага рашэння па пазове

М. Чаргінца. Рэдакцыі былі таксама перададзеныя дзве пісьмовыя «прапановы» — да 27 лютага пералічыць на рахунак суда суму грашовай кампенсацыі (50 млн. 93 тыс. беларускіх рублёў з улікам пакрыцця судовых выдаткаў), а таксама да гэтага ж тэрміну апублікаваць на старонках газеты абвяржэнне артыкула «Генерал-сенатар Мікалай Чаргінец», які стаў нагодай для пазову. Чарговы нумар «Новага часу» надрукаваны не быў у звязку з заблакаваннем рахунку рэдакцыі.

**13 сакавіка** суд Першамайскага раёна Мінска задаволіў заяву рэдакцыі газеты «Новы час» аб разблакаванні рахунку, бо яна своечасова разлічылася па пазове Мікалая Чаргінца.

**14 сакавіка** выйшаў у свет чарговы нумар выдання, якое аднавіла выхад пасля вымушанага двухтыднёвага перапынку. Шэф-рэдактар «НЧ» **Аляксей Кароль** выказаў падзяку за ахвяраванні, якія паступілі на рахунак газеты пасля апублікавання рэдакцыйнага звароту.

**7 траўня** галоўны ўрач Рэспубліканскага клінічнага псіхіятрычнага шпіталя ў Навінках **Уладзімір Склема** пацвердзіў факт пералічэння М. Чаргінцом буйной сумы на патрэбы гэтай установы. «Сума аграмадная — 43 мільёны 293 тысячы рублёў. Усе грошы пайшлі на паляпшэнне сацыяльна-бытавога становішча нашых пацыентаў», — паведаміў ён.

## 2.3. Судовы ціск на «Газету Слонімскую»

**26 траўня** ў судзе адбылася папярэдняя сустрэча бакоў па пазове слонімскай доктаркі-стаматолага **Наталлі Кіман** да недзяржаўнага выдання **«Газета Слонімская»** і журналіста газеты **Сяргея Васільева**. Абурэнне Н. Кіман выклікаў артыкул «Вырванный зуб чуть было не стал причиной смерти». Журналіст распавёў гісторыю хваробы сланімчанкі, якая ледзьве не памерла пасля таго, як урач вырвала ёй зуб. Стаматолаг палічыла, што выкладзеныя ў артыкуле звесткі абражаюць яе гонар, годнасць і дзелавую рэпутацыю. Адзначым, што ў студзені 2008 г. суд прызнаў яе вінаватай у нанясенні шкоды пацыентцы. У якасці кампенсацыі маральнай шкоды Н. Кіман патрабавала ад адказчыкаў 10 мільёнаў рублёў.

**2 ліпеня** суд Слонімскага раёна Гродзенскай вобласці адхіліў пазоў Н. Кіман у поўным памеры.

**25 жніўня** судовая калегія па грамадзянскіх справах Гродзенскага абласнога суда адхіліла касацыйную скаргу Н. Кіман на рашэнне суда Слонімскага раёна і пакінула рашэнне без зменаў.

**15 верасня** слонімская арганізацыя грамадскага аб’яднання «Беларускае таварыства інвалідаў» накіравала ў суд пазоў да недзяржаўнага рэгіянальнага выдання **«Газета Слонімская»** (Гродзенская вобл.). Пазоўцы патрабавалі грашовай кампенсацыі за маральную шкоду ў памеры 5 мільёнаў 800 тысяч рублёў і абвяржэння надрукаванай інфармацыі. Старшыня арганізацыі **Алена Новікава** таксама напісала скаргі ў пракуратуру, міліцыю і Міністэрства інфармацыі.

Абурэнне спн. Новікавай выклікаў артыкул **Сяргея Чыгрына** «Не рабі дабра — не атрымаеш зла» ў жнівеньскім нумары «ГС», у якім журналіст распавядаў, як мясцовыя інваліды, вымушаныя абараняць права на ўласнае памяшканне, звярнуліся па

дапамогу да кандыдата ў дэпутаты. А пасля сустрэчы з кіраўнікамі арганізацыі інвалідаў узніклі праблемы ў самога кандыдата: ён атрымаў папярэджанне ад старшыні выбарчай камісіі за тое, што нібыта абяцаў інвалідам матэрыяльную падтрымку ў абмен на галасаванне за яго на выбарах. А. Новікава лічыць, што выкладзеныя ў артыкуле факты, запісаныя журналістам са словаў кіраўніцтва арганізацыі інвалідаў і кандыдата ў дэпутаты, не адпавядаюць рэчаіснасці, а сп. Чыгрын падчас сустрэчы з інвалідамі рабіў «незаконны запіс».

**7 кастрычніка** рэдактар «Газеты Слонімскай» Віктар Валадашчук і ягоны намеснік Сяргей Чыгрын давалі тлумачэнні ўчастковаму міліцыянеру з нагоды скаргі ад старшыні Слонімскай раённай арганізацыі грамадскага аб’яднання «Беларускае таварыства інвалідаў» Алены Новікавай. У заяве яна сцвярджала, што В. Валадашчук пагражаў ёй публікацыяй кампрамату на старонках сваёй газеты.

«Участковаму я патлумачыў, што выкладзеныя ў заяве звесткі — хлусня, — распавёў пазней В. Валадашчук. — Не зразумела, чым кіруецца А. Новікава, але складаецца ўражанне, што гэтыя напады на рэдакцыю не яе ўласная ініцыятыва. Аднак жа ўсе лісты падпісаныя ёй».

**17 лістапада** скончылася судовае разбіральніцтва па пазове аб абароне гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі Слонімскай раённай арганізацыі ГА «Беларускае таварыства інвалідаў» да недзяржаўнага рэгіянальнага выдання «Газета Слонімская» і журналіста газеты Сяргея Чыгрына. Пазоўцы адмовіліся ад патрабавання грашовай кампенсацыі за маральную шкоду і абвяржэння звестак, выкладзеных у артыкуле «Не рабі дабра — не атрымаеш зла» («ГС» ад 27.08.2008 г.). Паводле міравога пагаднення, газета апублікуе інтэрв’ю з А. Новікавай у Міжнародны дзень інвалідаў — 3 снежня, а пазоўца адмаўляецца ад усіх сваіх патрабаванняў.

### 2.4. «Ленинский клич» VS «Вольны горад»

**16 студзеня** суд Чавускага раёна Магілёўскай вобл. пастанавіў спагнаць на карысць рэдактаркі крычаўскай дзяржаўнай газеты **«Ленинский клич» Таццяны Іўкінай** 500 тысяч рублёў з заснавальніка незарэгістраванай рэгіянальнай газеты **«Вольны горад» Уладзіміра Кудраўцава** і журналіста **Валерыя Бысава** супольна. Такое рашэнне было прынятае пасля разгляду пазову аб абароне гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі.

Т. Іўкіна палічыла, што ў некалькіх нумарах «Вольнага горада» ў 2004 г. была апублікаваная не адпаведная рэчаіснасці негатыўная інфармацыя. Гаворка ідзе пра публікацыю В. Бысава «Шесть лет в редакционном ГУЛАГе». У якасці кампенсацыі пазоўца патрабавала ад адказчыкаў 10 мільёнаў рублёў.

**5 сакавіка** калегія Магілёўскага абласнога суда адхіліла касацыйную скаргу прадстаўнікоў крычаўскай недзяржаўнай газеты «Вольны горад» на рашэнне суда першай інстанцыі, які ў студзені абавязаў іх выплаціць 500 тысяч рублёў на карысць рэдактаркі дзяржаўнай газеты Крычаўскага раёна «Ленинский клич» Таццяны Іўкінай.

**3 сакавіка** ў Крычаўскім раённым судзе пачаўся разгляд пазову рэдактара крычаўскай недзяржаўнай маланакладнай газеты **«Вольны горад» Сяргея Няроўнага** да рэдакцыі дзяржаўнай раённай газеты **«Ленинский клич»**. С. Няроўны падаў пазоў яшчэ ў канцы лістапада. Журналіст патрабаваў тое самае, што і Т. Іўкіна ад

супрацоўнікаў газеты «Вольны горад»: абвяржэння надрукаванай інфармацыі і кампенсацыі маральных стратаў на суму 10 мільёнаў рублёў. Пазоў тычыцца некалькіх сатырычных публікацый у дзяржаўнай «раёнцы», падпісаных «Н. Роўным». Сяргей Няроўны палічыў іх зневажальнымі для сябе.

Справа прыпыненая ў сувязі з прызначэннем экспертызы.

## 2.5. «Народная воля» і М. Коктыш абскарджваюць адмову ў акрэдытацыі карэспандэнткі

**6 чэрвеня** было агучана, што рэдакцыя недзяржаўнай газеты **«Народная воля»** і намесніца галоўнага рэдактара **Марына Коктыш** вырашылі прыцягнуць да судовай адказнасці Палату прадстаўнікоў НС РБ і Службу бяспекі прэзідэнта. Адпаведныя пазовы былі накіраваныя ў суд Маскоўскага раёна Мінска. Падставай для звароту журналісткі і рэдакцыі ў суд стала адмова Палаты прадстаўнікоў акрэдытаваць М. Коктыш, нягледзячы на тое, што яна была акрэдытаваная там на працягу некалькіх апошніх гадоў. З адказаў Палаты прадстаўнікоў стала вядома, што журналістцы адмоўлена ў допуску ў будынак парламента. Рашэнне аб гэтым прымала Служба бяспекі прэзідэнта. На звароты рэдакцыі па тлумачэнні Служба бяспекі не адказала.

**9 чэрвеня** суд Маскоўскага раёна г. Мінска вынес вызначэнне аб адмове ўзбуджаць справу па скарзе намесніцы галоўнага рэдактара «Народнай волі» Марыны Коктыш на дзеянні Палаты прадстаўнікоў, якая адмовіла ёй у акрэдытацыі. Суддзя **Вольга Гусакова** адмовілася ўзбуджаць справу, спаслаўшыся на тое, што журналістка не мае права на зварот у суд.

**У гэты ж дзень** суд Маскоўскага раёна г. Мінска вынес аналагічнае вызначэнне па скарзе рэдакцыі газеты «Народная воля» на дзеянні Службы бяспекі прэзідэнта, якая забараніла журналістцы ўваход у будынак Палаты прадстаўнікоў. Суд (суддзя В. Гусакова) адмовіўся ўзбуджаць справу, спаслаўшыся на тое, што рэдакцыя таксама не мае права на зварот у суд.

**17 ліпеня** калегія Мінскага гарадскога суда адхіліла скаргу намесніцы рэдактара **«Народнай волі» Марыны Коктыш** на вызначэнне суда Маскоўскага раёна, які ў чэрвені адмовіў журналістцы ў праве судзіцца з Палатай прадстаўнікоў НС РБ.

«Такім чынам, фактычна адмоўлена ў праве на судовую абарону, якую гарантуе грамадзянам артыкул 60 Канстытуцыі», — зазначыў намеснік старшыні ГА «БАЖ» **Андрэй Бастунец**.

**24 ліпеня** аналагічны адказ атрымала з суда Маскоўскага раёна і рэдакцыя «Народнай волі». Выданне хацела, каб суд прымусіў Службу бяспекі прэзідэнта даць адказ на афіцыйны ліст, у якім рэдактар патрабаваў тлумачэнняў: чаму прэзідэнцкая ахова забараніла Марыне Коктыш прысутнічаць на пасяджэннях Палаты прадстаўнікоў.

Суды адмовілі рэдакцыі і журналістцы на падставе таго, што яны быццам не маюць права звяртацца ў суд.

## 2.6. Іншыя грамадскія справы з удзелам суб’ектаў СМІ

**20 сакавіка** суд Чыгуначнага раёна Гомеля адхіліў пазоў маці Дзмітрыя Жалезнічэнкі да рэдакцыі абласной газеты **«Гомельская праўда»** аб абароне гонару і годнасці яе сына. **Ала Жалезнічэнка** аспрэчвала публікацыю за подпісам Ю. Чарот «Не хочу в солдаты, хочу в “демократы”», якая з’явілася ў дзяржаўным выданні 9 лютага. А. Жалезнічэнка палічыла, што аўтар артыкула ў абразлівай форме прыпісаў яе сыну «не толькі амаральныя, але нават злачынныя дзеянні», абвінавачваючы ў імкненні «закасіць» ад войска любымі спосабамі.

Студэнт-выдатнік, намеснік старшыні абласной арганізацыі «Малады фронт» Дзмітрый Жалезнічэнка быў двойчы адлічаны з Гомельскага ўніверсітэта імя Францішка Скарыны і неўзабаве прызваны ў армію.

**17 сакавіка** суд Савецкага раёна Мінска адхіліў пазоў палітыка **Алеся Міхалевіча** да рэдакцыі газеты **«Советская Белоруссия»** і журналіста **«Арцёма Чалядзінскага»** (псеўданім галоўнага рэдактара Паўла Якубовіча). Нагодай для звароту Алеся Міхалевіча ў суд стаў артыкул «Крутой мираж», надрукаваны ў «СБ» 11 студзеня 2008 г. Сярод іншага ў публікацыі былі наступныя словы: «Потому они искренне полагают, что никогда в жизни не вырастившие и тем более не продавшие ведра картошки Михалевич — Милинкевич реально помогут им в специфических предпринимательских проблемах».

Палітык палічыў, што публікацыя зневажае яго гонар, годнасць і дзелавую рэпутацыю, і запатрабаваў абвяржэння непраўдзівых звестак і кампенсацыі маральнай шкоды ў памеры 6160 беларускіх рублёў (столькі каштуе ў ГУМе новае вядро для бульбы).

**24 ліпеня** суд Драгічынскага раёна Брэсцкай вобласці разглядаў пазоў **Т. Дзешка** да рэдакцыі газеты **«Для Вас»** і журналісткі **Тамары Шчапёткінай**. Пазоўца патрабавала ў якасці кампенсацыі маральнай шкоды за публікацыю аднаго з артыкулаў 500 тысячаў рублёў. У ходзе паседжання Т. Дзешка адмовілася ад сваіх патрабаванняў.

**20 лістапада** суд Барысаўскага раёна і г. Барысава часткова задаволіў пазоў галоўнага рэдактара дзяржаўнай газеты **«Адзінства» Веры Пратасевіч** да рэдакцыі недзяржаўнай газеты **«Борисовские новости»** і аўтара артыкула «Предвыборная стряпня или очередная ложь» **Ігара Ледніка**. В. Пратасевіч палічыла, што ў артыкуле, надрукаваным у «Борисовских новостях», былі закранутыя яе гонар і годнасць. Пазоўца патрабавала спагнаць з аўтара артыкула Ігара Ледніка 10 мільёнаў рублёў, а з унітарнага прадпрыемства «Букас-медиа» (рэдакцыя газеты «Борисовские новости») — 20 мільёнаў рублёў. Суд задаволіў патрабаванні часткова, спагнаўшы з І. Ледніка 500 тыс. рублёў, а з рэдакцыі — 1 мільён рублёў.

**27 кастрычніка** суд Баранавіцкага раёна і г. Баранавічы не задаволіў пазоўную заяву аб абароне гонару, годнасці і дзелавой рэпутацыі кандыдата ў дэпутаты мінулых парламенцкіх выбараў, актывіста мясцовага прадпрымальніцкага руху **Мікалая Чарнавуса** да раённай дзяржаўнай газеты **«Наш край»**.

Прадпрымальнік звярнуўся ў суд з прычыны зневажальнай, на яго думку, публікацыі. Тэмай спрэчнага матэрыялу стаў зварот М. Чарнавуса ў амбасаду Украіны і да прэм’ер-міністра з просьбай адкрыць на мяжы Беларусі і Украіны аптовыя рынкі, каб прадпрымальнікам лягчэй было працаваць. Пазоўца палічыў, што аўтар артыкула напісаў пра гэта тэндэнцыйна.

# 3. Адміністрацыйныя справы

## 3.1. Адміністрацыйныя суды над журналістамі «Нашай Нівы»

**11 студзеня** на 15 сутак адміністрацыйнага арышту быў асуджаны пазаштатны фотакарэспандэнт газеты **«Наша Ніва» Арсень Пахомаў**. Суддзя Цэнтральнага раёна г. Мінска прызнаў яго вінаватым у парушэнні двух артыкулаў Адміністрацыйнага кодэкса — «дробнае хуліганства» і «ўдзел у несанкцыянаванай акцыі». Журналіста затрымалі 10 студзеня на ўваходзе ў станцыю метро «Кастрычніцкая». У гэты час побач адбывалася масавая акцыя пратэсту прадпрымальнікаў. А. Пахомаў знаходзіўся на мітынгу па заданні рэдакцыі.

**25 сакавіка** ў Мінску падчас вулічнай акцыі з нагоды Дня Волі былі затрыманыя супрацоўнікі газеты **«Наша Ніва»** пазаштатны фотакарэспандэнт **Андрэй Лянкевіч** і журналіст **Сямён Печанко**. Журналістаў затрымалі, нягледзячы на тое, што абодва мелі пры сабе журналісцкае пасведчанне ад рэдакцыі. А. Лянкевіч быў дастаўлены ў Цэнтральны РАУС, у момант затрымання супрацоўнікі міліцыі разбілі яму да крыві нос. С. Печанко адвезлі ў Маскоўскі РАУС і не адпусцілі нават пасля тэлефанавання дзяжурнаму галоўнага рэдактара «Нашай Нівы» **Андрэя Скурко**. Кіраўнік рэдакцыі ў размове з дзяжурным пацвердзіў, што сп. Печанко сапраўды выконваў на акцыі свае прафесійныя абавязкі.

**26 сакавіка** карэспандэнта недзяржаўнай газеты «Наша Ніва» Сямёна Печанко асудзілі на 15 сутак адміністрацыйнага арышту. Суддзя Тамара Унукевіч прызнала яго вінаватым у парушэнні парадку арганізацыі і правядзення масавых мерапрыемстваў (арт. 23.34 КаАП РБ). Сведкамі выступілі супрацоўнікі міліцыі, якія сцвярджалі, што журналіст падчас затрымання выкрыкваў: «Ганьба» і «Жыве Беларусь», а таксама меў пры сабе бел-чырвона-белы сцяг.

**26 сакавіка** ў Завадскім судзе судзілі пазаштатнага фотакарэспандэнта **«Нашай Нівы» Андрэя Лянкевіча**. Суддзя пажадала сустрэцца з галоўным рэдактарам выдання, каб удакладніць, ці сапраўды ён атрымаў рэдакцыйнае заданне прысутнічаць на акцыі 25 сакавіка, а таксама ці зарэгістраваная газета ў Міністэрстве інфармацыі. **27 сакавіка** суд часова прыпыніў працэс, а справу перадаў на дапрацоўку ў РУУС Савецкага раёна. А. Лянкевіч быў адпушчаны на волю.

**28 сакавіка** падчас прэс-канферэнцыі міністр унутраных спраў **Уладзімір Навумаў**, каментуючы падзеі Дня Волі ў Мінску, заявіў: «Я ведаю, што былі затрыманыя два журналісты газеты **«Наша Ніва»**, але калі журналісты ўдзельнічаюць у несанкцыянаванай акцыі і аказваюць супраціў міліцыі, то яны, як і звычайныя грамадзяне, павінны несці адказнасць».

**9 красавіка** пасля 15 сутак адміністрацыйнага арышту выйшаў на волю са спецпрыёмніка-размеркавальніка на вул. Акрэсціна карэспандэнт недзяржаўнай газеты **«Наша Ніва» Сямён Печанко**. Ён яшчэ раз пацвердзіў, што на акцыі ў Дзень Волі быў з бэджам на вопратцы і пры затрыманні не раз паўтараў міліцыянтам, што ён журналіст.

**16 траўня** на 5 сутак адміністрацыйнага арышту быў асуджаны пазаштатны карэспандэнт газеты **«Наша Ніва» Яраслаў Сцешык**. Такое рашэнне прыняў суд Цэнтральнага раёна Мінска, прызнаўшы яго вінаватым у нецэнзурнай лаянцы ў

грамадскім месцы (арт. 17.1 КаАП — дробнае хуліганства). **15 траўня** журналіст знаходзіўся ў месцы правядзення вулічнага апытання, якое ладзілі ўдзельнікі моладзевага руху «Бунт». У судзе Я. Сцешык паведаміў, што толькі фатаграфаваў гэтую акцыю.

## 3.2. Адміністрацыйны пераслед Барыса Хамайды

**16 красавіка** віцебскі грамадскі актывіст і распаўсюднік недзяржаўнай прэсы **Барыс Хамайда** атрымаў па пошце копію пастановы адміністрацыйнай камісіі Чыгуначнага раёна г. Віцебска, у якой паведамлялася, што «за гандаль у неналежным месцы» ён **аштрафаваны** на 5 базавых велічынь (175 тысяч рублёў). Актывісту паведамілі, што выпадак зафіксаваны 14 сакавіка па вул. Леніна (там Б. Хамайда штодня распаўсюджвае недзяржаўныя газеты і часопісы). Паводле адказчыка, нягледзячы на пастанову, ён збіраецца і надалей распаўсюджваць там незалежныя выданні.

**11 ліпеня** ў цэнтры Віцебска **быў здзейснены напад** на **Б. Хамайду**. «Да мяне падышоў незнаёмы мужчына, стаў крычаць, што я вінен яму грошы, і ўчыніў бойку. Я ўпэўнены, што гэта правакацыя», — распавёў грамадскі актывіст. У інцыдэнт тут жа ўмяшаліся міліцыянты і людзі ў цывільным, якіх шмат знаходзілася каля летняга амфітэатра (распачынаўся «Славянскі базар»). Для тлумачэнняў здарэння Б. Хамайду адвезлі ў Чыгуначны РАУС Віцебска. Аднак у пастарунку міліцыянт у цывільным засведчыў, што распаўсюднік прэсы першым парушыў грамадскі парадак. У рапарце было запісана, што 60-гадовы грамадскі актывіст нібыта нецэнзурна выказваўся на адрас беспрацоўнага 1971 года нараджэння. Апошняга адпусцілі, а суд падтрымаў пазіцыю сведкі-міліцыянта і прысудзіў Б. Хамайду трое сутак арышту.

**14 жніўня** ў Віцебску адміністрацыйная камісія **аштрафавала Б. Хамайду** на 200 тысяч рублёў «за парушэнне правіл гандлю, зацверджаных гарвыканкамам». Актывіст быў прыцягнуты да адказнасці за распаўсюд незалежных выданняў. Як адзначаецца ў дакуменце, прынятым камісіяй Чыгуначнага раёна Віцебска, 10 ліпеня супрацоўнік міліцыі ў цывільным купіў у Хамайды газету «Народная воля», пасля чаго на актывіста быў складзены пратакол аб парушэнні правілаў гандлю.

## 3.3. Іншыя адміністрацыйныя справы з удзелам суб'ектаў СМІ

**21 студзеня** суд Савецкага раёна аштрафаваў пенсіянерку **Святлану Данілаву** на 5 базавых велічыняў за распаўсюд незалежных выданняў. Жанчына з Барысава была затрыманая 20 студзеня ў Мінску ў пераходзе каля Камароўскага рынку за распаўсюд газеты **«Народная воля»**. У сумцы ў яе міліцыянты знайшлі таксама нумары выданняў **«Товарищ»**, **«Наш выбор»**, некалькі асобнікаў **«Свабоды Беларусі»** і **«Наш час»**.

**24 сакавіка** на 3 сутак адміністрацыйнага арышту быў пакараны моладзевы актывіст **Іван Шаблінскі** за распаўсюд незарэгістраваных перыядычных выданняў. Ён быў затрыманы ў Мінску, калі раздаваў асобнікі выданняў мінакам.

**24 сакавіка** суд Ленінскага раёна Мінска прызнаў пенсіянерак **Марыю Аліеву** і **Алену Напорку** вінаватымі ў распаўсюдзе маланакладнай незарэгістраванай газеты **«Вольная Серабранка»**, у якой паведамлялася пра несанкцыянаваную акцыю на Дзень Волі (25 сакавіка). Кожную з іх аштрафавалі на 10 базавых велічынь. Жанчын затрымалі **22 сакавіка** на вуліцы Якубава, дзе тыя раздавалі мінакам газету. Да суда пенсіянерак пратрымалі ў спецпрыёмніку на вуліцы Акрэсціна.

**15 красавіка** ў Мінску на 14 сутак адміністрацыйнага арышту быў асуджаны сябра БАЖ з Барысава **Анатоль Удавічэнка**. Міліцыянты затрымалі яго 14 красавіка, а на наступны дзень суддзя Першамайскага раёна **Ала Яшчанка** прызнала журналіста вінаватым у «парушэнні вызначанага парадку арганізацыі альбо правядзення масавага мерапрыемства альбо пікетавання» (ч. 1 арт. 23.34 КаАП). Паводле сведчанняў супрацоўнікаў міліцыі, А. Удавічэнка раскідваў па вуліцы налепкі з заклікам прыняць удзел у акцыі «Чарнобыльскі шлях». Сам журналіст не прызнаў вылучаных супраць яго абвінавачанняў.

**23 красавіка** суд Навабеліцкага раёна г. Гомеля пакараў гомельскую журналістку **Таццяну Бублікаву** адміністрацыйным штрафам у памеры 15 базавых велічыняў на падставе ч. 1 арт. 23.34 КаАП («Парушэнне вызначанага парадку арганізацыі альбо правядзення масавага мерапрыемства альбо пікетавання»). Падставай да адміністрацыйнага пакарання стала тое, што журналістка асвятляла несанкцыянаванае масавае мерапрыемства: экскурсію, зладжаную 23 сакавіка ў Гомелі грамадскімі актывістамі з нагоды 90-х угодкаў БНР.

**15 траўня** на 15 сутак арышту быў асуджаны карэспандэнт дзяржаўнай газеты **«Звязда» Віктар Хурсік**. Суддзя Старадарожскага раёна (Мінская вобл.) **Сяргей Япіхаў** прызнаў яго вінаватым у парушэнні вызначанага парадку арганізацыі альбо правядзення масавага мерапрыемства (ч. 1 арт. 23.34 КаАП РБ). 55-гадовы журналіст 19 красавіка прысутнічаў на цырымоніі ўсталявання мемарыяльнага крыжа ў вёсцы Дражна Старадарожскага раёна.

В. Хурсік вядомы таксама як выдавец, аўтар дакументальнай кнігі «Кроў і попел Дражна», якая была надрукаваная ў 2003 г. і перавыдадзеная ў 2006 г. Грунтуючыся на расповедах жывых сведкаў і на архіўных дакументах, аўтар даводзіў, што жыхароў вёскі Дражна ў 1943 г. спалілі партызаны, а не паліцаі, як сцвярджалася раней.

**26 траўня** суд Першамайскага раёна г. Віцебска асудзіў віцебскага праваабаронцу **Паўла Левінава** да 10 сутак адміністрацыйнага арышту і штрафу ў памеры 700 тыс. рублёў. П. Левінаў забяспечваў юрыдычную дапамогу журналісту газеты **«Витебский курьер М» Вадзіму Баршчэўскаму** падчас ператрусу на ягонай кватэры 27 сакавіка. Праваабаронцу на падставе паказанняў супрацоўнікаў міліцыі прызналі вінаватым у дробным хуліганстве і непадпарадкаванні законным патрабаванням службовых асобаў (арт. 17.1 і 23.4 КаАП).

**30 чэрвеня** журналістку **Радыё «Свабода» Любоў Лунёву** аштрафавалі на 8 базавых велічынь (каля 280 тыс. рублёў) у зале суда Кастрычніцкага раёна Мінска. Яе абвінавацілі ў «непавазе да суда» за тое, што яна адказала на званок па мабільным тэлефоне. Рэпарцёр прысутнічала на слуханнях па адміністрацыйнай справе ў дачыненні да актывіста Аб’яднанай грамадзянскай партыі Міхаіла Пашкевіча. Журналістаў, як і іншых грамадзян, што жадалі прысутнічаць на працэсе, спачатку не пускалі на слуханні. Толькі пасля таго, як прадстаўнікі СМІ паскардзіліся старшыні суда, людзей прапусцілі ў залу.

**28 жніўня** суд Ленінскага раёна Мінска пакараў 10 суткамі адміністрацыйнага арышту актывіста грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь» **Паўла Лукшу**, затрыманага за распаўсюд самвыдатаўскай газеты **«Выбар»**. У выданні былі размешчаныя матэрыялы з заклікамі да байкатавання парламенцкіх выбараў і пратэстаў супраць магчымай фальсіфікацыі іх вынікаў. Суд палічыў наяўнасць у выданні згаданых публікацый заклікам да ўдзелу ў несанкцыянаванай акцыі.

## 4. Гаспадарчыя справы

### 4.1. «Витебский курьер М» супраць аблвыканкама

**18 лютага** Гаспадарчы суд Віцебскай вобласці адхіліў скаргу Выдавецкага дома «Витебский курьер» (рэдакцыя недзяржаўнай газеты **«Витебский курьер М»**) на дзеянні аблвыканкама, які беспадстаўна адмаўляецца перарэгістраваць прадпрыемства. У 2007 г. Віцебскі выканаўчы камітэт спачатку даў адпаведны дазвол выдавецкаму дому, але ж хутка сам жа яго адклікаў. Гэтае рашэнне і было абскарджана.

**18 сакавіка** апеляцыйная інстанцыя гаспадарчага суда Віцебскай вобласці пакінула ў сіле рашэнне суда першай інстанцыі, паўторна прызнаўшы правамоцнасць дзеянняў аблвыканкама, які адмаўляецца перарэгістраваць прадпрыемства і ставіць пад пагрозу існаванне газеты «Витебский курьер М».

**20 траўня** калегія Вышэйшага гаспадарчага суда адхіліла касацыйную скаргу Выдавецкага дома «Витебский курьер» на рашэнні судоў папярэдніх інстанцый. Такім чынам рэдакцыі недзяржаўнай газеты «Витебский курьер М» зноў было адмоўлена ў праве ўнесці змены ў Статут і перарэгістравацца.

### 4.2. Іншыя гаспадарчыя справы

**30 красавіка** стала вядома, што гаспадарчы суд г. Мінска прызнаў сайт **www.ucpb.org** уласнасцю **Аб’яднанай грамадзянскай партыі** (АГП). Пытанне пра прыналежнасць сайта паўстала падчас разгляду пазову ТАА «Юрыдычная група “Аргументъ”», якая абурылася адной з публікацый на сайце і летам 2007 г. падала пазоў да АГП. Нагодай стаў артыкул «“Сям’я” робіць бізнес. Пад надзейным дахам дзяржавы». Прэтэнзіі пазоўцы выклікала інфармацыя пра тое, што сын кіраўніка Федэрацыі прафсаюзаў Беларускай Леаніда Козіка — заснавальнік юрыдычнай фірмы «Аргументъ» — нібыта лабіруе інтарэсы замежных прадпрыемстваў і буйнога прыватнага бізнесу ў дзяржаўных структурах.

Партыйнае кіраўніцтва адмаўляла наўпростую сувязь паміж сайтам і АГП. Па іх словах, рэсурс належыць «прыхільнікам партыі», бо АГП не прымала рашэння аб стварэнні сайта.

Суд першай інстанцыі палічыў, што сайт **www.ucpb.org** зняважыў дзелавую рэпутацыю Юрыдычнай групы, і абавязаў апублікаваць абвяржэнне інфармацыі на гэтым рэсурсе і на партале **www.tut.by**.

**1 ліпеня** Вышэйшы гаспадарчы суд РБ адхіліў касацыйную скаргу Аб’яднанай грамадзянскай партыі (АГП) на рашэнні гаспадарчага суда г. Мінска, які прызнаў інтэрнет-рэсурс **www.ucpb.org** уласнасцю АГП.

**9 верасня** стала вядома, што суд аштрафаваў на 20 базавых велічыняў (700 тысяч рублёў) тэлеканал **СТВ** за парушэнне закона «Аб рэкламе». З пазовам у суд звярнулася Міністэрства гандлю. Тэлеканал абвінавацілі ў тым, што гучнасць рэкламы перавышае гучнасць іншых праграм.

Раней, у ліпені, ужо былі аштрафаваныя **8-ы** і **Першы музычны каналы**. Як паведаміла намеснік начальніка ўпраўлення абароны правоў спажыўцоў і кантролю за рэкламай Мінгандлю Вольга Краўцова, пратаколы таксама складзеныя на **БТ** і **ОНТ** і ўжо перададзеныя ў суд. Аднак гэтыя тэлеканалы ў судісці адмаўляюцца.

## 5. Працоўныя спрэчкі

**9 кастрычніка** суд Першамайскага раёна г. Мінска задаволіў пазоў былога намесніка галоўнага рэдактара штотыднёвай газеты **«Налоговый курьер предпринимателя» Ігара Асінскага**. Журналіст быў звольнены нібыта за прагул, але сцвярджаў, што гэта помста за крытыку ў адной з публікацыяў Міністэрства па падатках і зборах. Пасля таго як звальненне было прызнана незаконным, І. Асінскі пагадзіўся замест аднаўлення на працы атрымаць матэрыяльную кампенсацыю.

**19 чэрвеня** суд Цэнтральнага раёна г. Мінска часткова задаволіў пазоўныя патрабаванні былога галоўнага рэдактара газеты **«Труд» Сяргея Ваганава** да заснавальніка газеты ТАА «БелТРУДпресс» аб спагнанні заробку, сумы выходнай дапамогі і сярэдняга заробку за затрымку разліку пры звальненні.

**7 жніўня** ў судзе Чыгуначнага раёна Гомеля прайшло першае слуханне па пазове актывіста ПКБ **Васіля Мамкіна**, звольненага з ААТ «Электраапаратура», да кіраўніцтва прадпрыемства. 18 ліпеня дырэктар прадпрыемства Віктар Жыгар падпісаў загад на звальненне В. Мамкіна за нібыта сістэматычнае невыкананне службовых абавязкаў. Сапраўднай прычынай свайго звальнення грамадскі актывіст палічыў тое, што яму на прахадную завода прынеслі газету **«Товарищ»**, пра што даведаўся дырэктар.

Сп. Мамкін патрабаваў прызнаць загад наймальніка незаконным і спагнаць з яго 10 мільёнаў рублёў кампенсацыі за маральную шкоду. **21 жніўня** дырэкцыя гомельскага завода «Электраапаратура» без суда аднавіла падпісчыка газеты «Товарищ» В. Мамкіна на працы. Яго праінфармавалі, што адміністрацыя адмяняе загад на датэрміновае скасаванне кантракта.

**10 верасня** суд Салігорскага раёна адхіліў пазоў былога адказнага сакратара мясцовай дзяржаўнай газеты **«Шахцёр» Дзмітрыя Абрамычава** да кіраўніцы выдання **Вольгі Капцавіцкай**.

Д. Абрамычаў, звольнены **5 жніўня** г. г. з запісам у працоўнай кніжцы «за сістэматычнае невыкананне службовых абавязкаў», праз суд патрабаваў змяніць гэтую фармулёўку на «па згодзе бакоў». Таксама журналіст хацеў спагнаць з былой начальніцы 5 мільёнаў рублёў у якасці кампенсацыі за маральную шкоду. Раней, **у чэрвені 2008 г.**, суд прызнаў В. Капцавіцкую вінаватай у крадзяжы шляхам

злоўжывання службовым становішчам: рэдактарка пазбаўляла супрацоўнікаў рэдакцыі прэмій і налічвала іх сабе. Пасля суда В. Капцавіцкая засталася на сваёй пасадзе.